


Пытайцеся
ў кнігарнях
і кіёсках

# Календары «Нашай гісторыі» на 2020 год



**Наша Гісторыя**
10/2019
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Паўліна Скурко, кандыдатка гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — гравюра Міколы Купавы, апрацоўка Рамана Тарасевіча.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 07.10.2019.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0853/19.
Наклад 5003 ас.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

Позняя восень у Беларусі — час памінання продкаў. Звычай адзначаць у пачатку лістапада так званыя змітраўскія Дзяды паходзіць яшчэ з пракаветных паганскіх часоў. Пасля прыняцця хрысціянства ён дапасаваўся да новых умоў, трансфармаваўся, але не знік, нягледзячы на тое, што з ім доўгі час змагаліся хрысціянскія святары.

Беларусь належыць да тых рэгіёнаў, дзе абрад адзначання Дзядоў дажыў да нашых дзён. Хоць многія яго элементы, якія падгледзеў і выкарыстаў наш зямляк Адам Міцкевіч у знакамітай паэме «Дзяды», здаваліся ўжо ягоным сучаснікам-палякам аўтарскім вымыслам, паколькі ў Польшчы даўно зніклі.

Чаму мы ходзім на магілы? Гэтым пытаннем задаваліся многія, у тым ліку народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч:

Ці жаль? Ці страх? Ці проста звычай?
Ці неўсвядомлены абрад?
Ці нейкай сілай таямнічай
Жыве ў нас памяць цяжкіх страт?

Чаго ідзём? Паплакаць горка?
Паспавядацца? Клятву даць?
Ці, можа, з гэтакіх пагоркаў
Сваё жыццё нам лепш відаць?

Свой шлях — у пошуках і ўдачах,
У заблуджэннях і грахах?
Ці ў гэткі час ясней мы бачым
Радзімы-Бацькаўшчыны шлях?

Сямейныя лёсы беларусаў са шляхам Радзімы-Бацькаўшчыны неразрыўна перапляліся ў адзначанні Дзядоў у крывавым XX стагоддзі. За некалькі дзён да іх, у ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, у сутарэннях мінскай турмы НКВД пад народнай назвай «Амерыканка» было расстраляна больш за 100 прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты тагачаснай БССР, у тым ліку 22 пісьменнікі. Целы забітых разам з тысячамі іншых бязвінна загубленых у гады сталінскага тэрору людзей спачылі ва ўрочышчы пад Мінскам, якое ў наш час стала сусветна вядомым пад назвай Курапаты. А для беларусаў дата гэтага тэрору стала сімвалічнай. І Ноч расстраляных паэтаў знаходзіцца з Дзядамі ў цеснай сувязі.

Так восеньскія Дзяды сталі ў Беларусі не толькі сямейнай датай, але і днём нацыянальнай памяці. Як пра адзін, так і пра другі бок чытайце ў гэтым нумары «Нашай гісторыі».


4


30


20


48




30


38


68


20

64

84

94

48



94

87

91
Зараз папрацуем!

# Курапаты: што вядома на сёння

**Пра Курапаты гісторыкі — і следчыя пракуратуры — ведаюць ужо многае. Калі расстрэльвалі, як расстрэльвалі, расказвае гісторык Сяргей Егарэйчанка. Застаецца толькі паіменна назваць імёны пахаваных. І звесткі пра гэта ў архівах таксама ёсць.**

**«Станавісь!»**

Цёплым летнім днём кампанія вясковых дзяцей збіралася ў ягады. Найменшай было якіх дзесяць гадоў, яе звалі Вольгай. Завадатарам быў старэйшы хлопец, Сашка. Ён падгаварыў астатніх ісці за ім: маўляў, ведае месца, дзе надзвычай шмат ягад, настолькі, што збанок можна назбіраць ледзь не адразу. Яму паверылі.

Сашка павёў іх да высокага плота, добра ўсім вядомага, і паказаў лаз. А ягад там і праўда было шмат. Буйныя і смачныя, яны раслі паўсюль.

Ад плота далёка не адыходзілі: не было патрэбы. На каленях поўзаючы па пагорку, дзеці збіралі поўныя далоні лясных пачастункаў, калі прагучаў крык Сашкі:

— Атас, дзеўкі! — і вокамгненна хлопец перакаціўся праз падкоп, у які кампанія пралезла некалькі хвілін таму.

Усе паспелі вылезці, толькі дзесяцігадовая Воля яшчэ заставалася па той бок. Нырнуць у дзірку яна не паспела: на паляну



ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

выехала легкавая машына, а адразу за ёй — крыты грузавік. Дзяўчынка ўпала пад елку і амаль перастала дыхаць ад страху.

З легкавіка выйшлі некалькі чалавек. Яны накіраваліся да чорнай грузавой машыны і пачалі выводзіць адтуль людзей. Рукі апошніх былі сцягнутыя за спінамі. Вывелі спачатку чалавек з шэсць, пашыхтавалі. Адзін з канваіраў стаяў наводдаль. Прагучала каманда:

— Станавісь!

Першую ахвяру схапілі пад рукі і падцягнулі наперад. Рукі развязалі — і чалавек упаў на калені, быццам страціўшы апошнія сілы. Ён склаў далоні перад сабой і залямантаваў:

— За што? Скажыце, за што? У чым я вінаваты, божа мой, скажыце мне?!

Сухі стрэл абарваў лямант. Укленчанага штурхнула наперад, і ён быццам праваліўся пад зямлю.

— Станавісь!

Людзі знікалі пад зямлёй адзін за адным, ажно пакуль не засталіся толькі двое. Яны плакалі ад страху і бяссілля, калі ім усунулі ў рукі па рыдлёўцы і загадалі закапаць яму. Можа быць, у іх галовах з'явілася адчайная думка, што пякельны канвеер скончыўся. А можа, яны не маглі ні пра што думаць ад страху і адчаю.

Яма была амаль закапаная, калі гэтых дваіх схапілі за рукі. Праз секунду і яны ўпалі на жоўты пясок.

Канваіры прысыпалі іх без асаблівага энтузіязму. Лясная рана закрылася.

**Вольга Цімафееўна Бароўская стала выпадковай сведкай расстрэлаў у 10 гадоў, калі збірала ягады**

Воля не памятае, ці страчвала яна прытомнасць ад страху. Не памятае, як выбралася за плот, калі людзі з наганамі пагрузіліся ў машыны і з'ехалі. Але праз усё жыццё яе пераследаваў страшны крык: «За што? Божа мой, у чым я вінаваты?..» «Станавісь!»

## Да вайны — толькі Брод

Вольга Цімафееўна Бароўская была той самай дзесяцігадовай Волечкай. Праз паўстагоддзя яна расказала гэтую гісторыю следчым пракуратуры БССР.

Брод — так мясцовыя звалі той лес. На паўночным усходзе ўрочышча, на бязлесым пагорку, раслі белыя пралескі, якія цвітуць у маі. Воліны аднавяскоўцы звалі іх «курапаты». Той пагорак з кветкамі ў 1988-м годзе даў імя ўсяму ўрочышчу. Цалкам новая назва настолькі ўкаранілася, што сёння падаецца, нібыта гэта месца называлася Курапатамі заўсёды. На момант падзей, апісаных у гэтым артыкуле, не было Курапатаў. Не было тут і правалаў у зямлі. Быў толькі Брод.

## Калі пачатак?

Знайсці пункт адліку, калі багаты ягадамі Брод ператварыўся ў залітыя крывёй могілкі, не так проста. Прынамсі, пакуль архівы закрытыя.

Паводле сведчанняў Вольгі Бароўскай, расстрэлы пачаліся ў Курапатах яшчэ ў 1932 годзе. Праверыць гэтую інфармацыю цяжка. Трэба памятаць, што сведцы было на той момант усяго пяць, да таго ж, яе словы не пацвярджаюцца іншымі сведчаннямі. Яшчэ адзін жыхар Цны-Ёдкава Зміцер Бароўскі казаў, што першыя расстрэлы пачаліся ў 1935—1936-м. Так ці інакш, напачатку расстрэлы былі эпізадычнымі. Але ўсё змянілася з надыходам страшнага 1937-га.

Сведкі сцвярджаюць, што спачатку стрэлы было чутно толькі па начах, а потым страляць пачалі і ўдзень. ▸




**Савецкая тапаграфічная карта 1933 года.** На ёй можна бачыць вышыню 231,9 м. Гэта і ёсць пагорак, кветкі на якім далі назву ўрочышчу.









**Нямецкая карта 1944 года**, выкананая на падставе савецкай ад 1933 года з карэкціроўкамі аэрафотаздымкаў 1942 і 1943 гадоў. Раён Курапат мы вылучылі авалам.




Нямецкі здымак 1941 года. З прыватнага збору Паўла Растоўцава.




**Амерыканскі спадарожнікавы здымак** 1964 года**.**

**Абрысы лесу Брод, які цяпер называюць Курапатамі, заставаліся амаль нязменныя з 1933 года.** Пасля вайны лесам зарасце паўночны ўсход урочышча, менавіта там, дзе быў самы пагорак з пралескамі. Лес таксама вырасце на поўнач ад шашы Заслаўе – Калодзішчы.

**Вязняў на расстрэл везлі дарогай Заслаўе – Калодзішчы. Пасля завярталі налева, на палявую дарогу, якая па ўскрайку лесу вяла да ўезда на палігон.** Сярод лесу ішла грунтавая дарога. Яна праходзіла прыкладна там, дзе цяпер да вяршыні пагорка падымаецца дарожка з боку рэстарана «Паедзем паядзім». Спачатку расстрэльныя ямы капалі на ўсходзе лесу. Паступова рухаліся на захад і поўдзень.



## Што выявіла Пракуратура БССР у 1988 годзе

14 чэрвеня 1988 года Пракуратурай БССР была заведзена крымінальная справа. Гэта адбылося пасля апублікавання ў газеце «Літаратура і мастацтва» артыкула Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты. Дарога смерці». Следства ўзначаліў следчы па асабліва важных справах Генеральнай пракуратуры БССР Язэп Бролішс. У сярэдзіне ліпеня 1980-га Савет Міністраў БССР заснаваў Дзяржаўную камісію па расследаванні злачынстваў у Курапатах. У склад камісіі ўвашлі пісьменнікі Васіль Быкаў і Іван Чыгрынаў, былая падпольшчыца, Герой Савецкага Саюза Марыя Осіпава, кіраўнікі Міністэрства юстыцыі і МУС БССР, Вярхоўнага суда, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, вучоныя, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. Камісію ўзначальвала намесніца старшыні Савета Міністраў БССР Ніна Мазай, намеснікам старшыні камісіі быў генеральны пракурор БССР Георгій Тарнаўскі. Падчас следства на тэрыторыі каля 30 гектараў былі выяўленыя 510 меркаваных пахаванняў памерамі 2х3, 3х3, 4х4, 6х8 метраў і большыя. Падчас выбарачнай эксгумацыі былі выяўленыя чалавечыя парэшткі (313 чарапоў, косці шкілетаў, 340 зубных пратэзаў з жоўтага і белага металаў), асабістыя рэчы (грабянцы, зубныя шчоткі, мыльніцы, кашалькі, абутак, рэшткі вопраткі), а таксама 177 гільзаў і 28 куляў. 164 рэвальверныя гільзы і 21 куля, страляныя з рэвальвера сістэмы Нагана, 1 гільза з пісталета ТТ — штатнай зброі супрацоўнікаў НКВД. Таксама былі знойдзеныя некалькі страляных гільзаў з пісталетаў сістэм Браўнінг і Вальтэр, зброя гэтых сістэм выпускалася ў тым ліку і да 1941 года. Нярэдка такой зброяй узнагароджваўся кіраўнічы склад НКВД. 55 сведак з вёсак Цна-Ёдкава, Падбалоцце, Драздова засведчылі, што ў 1937–1941 гадах супрацоўнікі НКВД прывозілі ў Курапаты людзей на закрытых машынах і расстрэльвалі іх. Следства вызначыла колькасць забітых у не менш як 30 тысяч чалавек. Пасля заканчэння следчых дзеянняў Генпракуратура крымінальную справу па Курапатах спыніла: «Дакладна даказана, што расстрэлы пакараных ажыццяўляліся супрацоўнікамі камендатуры НКВД БССР… Беручы пад увагу, што вінаватыя ў гэтых рэпрэсіях кіраўнікі НКВД БССР і іншыя асобы былі прыгавораныя да смяротнага пакарання або да гэтага часу памерлі... кіруючыся арт. 208, п. 1 і арт. 5 п. 8 КПК БССР, крымінальная справа, заведзеная па факце выяўлення пахаванняў у лясным масіве Курапаты, спыненая».


**Раскопкі ў Курапатах**, 1988 год.

КУРАПАТЫ. МІНСК 1994

Расстрэльвалі ў падвалах турмаў. Расстрэльвалі і ў саміх Курапатах. Асабліва ў пікавыя моманты рэпрэсій, калі штодзень забівалі вялікую колькасць людзей.

Напачатку лес не быў абгароджаны. Вядома, гэта стварала нязручнасці выканаўцам. Па-першае, ім непатрэбныя былі выпадковыя сведкі, а па-другое, паводле чутак, здараліся нават уцёкі з-пад расстрэлу. Таму ў другой палове 1937-га тут з'явіўся плот вышынёй тры метры, збіты з грубых дошак стык у стык. Адзіным праездам на тэрыторыю палігона стала брама. Яна размяшчалася на паўночна-заходнім участку лесу, недалёка ад грунтоўкі Заслаўе — Калодзішчы.

### Дзе стралялі?

Тут мы дазволім сабе крыху адступіць ад асноўнай тэмы, каб паглядзець на тапаграфію ўрочышча, якая можа многае сказаць нам пра гісторыю гэтага месца. Яна амаль не змянілася. Пацвярджэннем служаць савецкія і нямецкія карты 30–40-х гадоў, нямецкія і амерыканскія аэрафотаздымкі (нямецкі — з прыватнай калекцыі Паўла Растоўцава, зроблены 23 чэрвеня 1941 года, амерыканскі спадарожнікавы — 6 кастрычніка 1964-га), а таксама сучасныя спадарожнікавыя здымкі. Паглядзім на іх уважліва.

Мы бачым, што абрысы Броду заставаліся амаль нязменнымі з 1933 года. Пасля вайны вырас лес на паўночным усходзе ўрочышча: менавіта там, дзе быў пагорак з курапатамі, а таксама на поўначы ад шашы Заслаўе – Калодзішчы.

Цяжка праверыць інфармацыю, што лес у Курапатах быў паступова высечаны, а новы



**Кулі з курапацкіх магіл.** Захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.

падняўся пасля вайны. Вынікі дэндрахраналагічнай экспертызы, праведзенай адначасова з іншымі даследаваннямі ў 1988–1989 гадах, адназначна сведчаць, што ўзрост дрэваў вакол пахаванняў складаў ад 35–46 гадоў (на момант правядзення экспертызы). Паводле сведкаў, новыя дрэўцы высаджваліся проста на магілах. Сведчанням аб поўнай высечцы супярэчаць, аднак, аэрафотаздымкі і карты часоў вайны, на якіх лес стаіць у тых жа самых межах, што і да вайны. Як бы там ні было, на месцы масавых пахаванняў лес стаяў і да вайны, і падчас яе, і пасля.

Намаганнямі рэстаўратараў Вадзіма Глінніка і Рамана Забелы стала магчымым вызначыць абрысы расстрэльнага палігона, яго асноўныя пункты і лагістыку руху машын, якія прывозілі асуджаных.

У большасці выпадкаў апошні шлях арыштанта пачынаўся ад турмаў — «Унутранкі» («Амерыканкі»), унутранай турмы НКВД, або «Валадаркі» — цягнуўся па вуліцы Савецкай (цяперашні праспект Незалежнасці) да Камароўкі, затым па Лагойскай шашы да Зялёнага Луга, потым па грунтавой дарозе да шашы Заслаўе – Калодзішчы. Даследчыкі падлічылі працягласць гэтай дарогі смерці — 10555 м.

## Палявы ўчастак «дарогі смерці» дагэтуль захаваўся

Цікава, што апошні ўчастак — ён цяпер ідзе па полі, ад дарогі Заслаўе – Калодзішчы ў бок кальцавой, перпендыкулярна ім, па краі Курапацкага лесу між ім і рэстаранам «Паедзем паядзім» — дагэтуль праглядаецца са спадарожніка і нават на мясцовасці. Вясной і восенню гэтае ўзвышэнне на полі добра бачнае нават з узбочыны кальцавой дарогі. Заараць дарогу смерці няпроста.

### Як стралялі

Большасць курапацкіх ахвяраў забітыя стрэлам у галаву. У судова-медыцынскай справаздачы ад 1988 года даюцца наступныя звесткі:

– Даследавана 311 чарапоў і фрагментаў. На 222 выяўленыя кулявыя адтуліны дыяметрам каля 7–9 мм з адкладаннямі медзі і свінцу па краях.

– На 188 чарапах і фрагментах выяўлена па адной адтуліне, на 29 — па дзве і на пяці — па тры.

– У 192 выпадках стрэл быў выкананы ў патыліцу, у 26 — у скроню (правую ці левую).

На многіх нефрагментаваных чарапах, апрача ўваходных акуратных адтулін, ёсць таксама рваныя выходныя насупраць.

Існуюць розныя сведчанні, як выконваліся расстрэльныя прысуды. Апроч працэдуры, апісанай Вольгай Бароўскай, мы ведаем і пра іншыя метады. Кіроўца камендатуры НКВД ▸





**Кубкі, знойдзеныя ў Курапатах.** Захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.



**Грабеньчык з надрапанымі надпісамі «Цяжкія хвіліны вязня. Мінск 25.04.1940. Думка пра вас даводзіць мяне да адчаю»** і «26.IV. Расплакаўся. Цяжкі дзень». Захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.

Міхаіл Давідсон распавядаў следчым, што вязняў са звязанымі за спінай рукамі саджалі па краях прастакутнай яміны так, каб ногі звешваліся ўніз. Затым супрацоўнік камендатуры страляў кожнаму асуджанаму ў патыліцу, і ахвяра падала на дно. Давідсон сцвярджаў, што ў той раз, калі ён прывёў у Курапаты грузавік, было расстраляна 20 чалавек — больш, чым па нормах магло змяшчацца ў яго кузаве.

Іншы супрацоўнік камендатуры НКВД Сяргей Захараў распавядаў, як аднойчы яму давялося канваіраваць асуджаных у Курапаты. Моманту выканання прысуду ён не бачыў, таму што вартаваў асуджаных у кузаве. Іх забіралі з машыны па адным.



**Футбольная бутса, знойдзеная ў адной з магіл.** Фота Міколы Крывальцэвіча. 2009 год.

Такім чынам, мы ведаем як мінімум тры метады выканання смяротнага прысуду, якія, верагодна, выкарыстоўваліся рознымі зменамі чэкістаў.

У абсалютнай большасці выпадкаў расстрэлы рабіліся з рэвальвера сістэмы Нагана ўзору 1895 года. На месцы расстрэлаў выяўлена таксама гільза ад пісталета ТТ. Усе гільзы для нагана, паводле экспертаў, выраблены ў Савецкім Саюзе з 1928 па 1939 год.

Нельга не ўзгадаць, што падчас раскопак 1997 года пад кіраўніцтвам археолага Алега Іова былі выяўленыя дзве гільзы ад пісталетаў сістэмаў Вальтэра і Браўнінга калібраў 6,35 і 7,65 мм, выраблены да вайны. Вядома, што супрацоўнікі НКВД выкарыстоўвалі зброю не толькі айчыннай, але і замежнай, у тым ліку нямецкай, вытворчасці. Так, адзін з выканаўцаў расстрэлаў Іван Ермакоў, намеснік начальніка камендатуры НКВД, у 1940-м застрэліўся з імяннога браўнінга.

## Савецкія наганы закліньвала, а вось нямецкія вальтэры і амерыканскія браўнінгі стралялі безадмоўна

Старыя чэкісты ўспаміналі, што савецкія наганы выраблялiся з няякаснай сталі і пры частай

**Акуляры, знойдзеныя ў Курапатах.** Захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.

стральбе хутка пераграваліся. Іх заклінівала.

А вось нямецкія вальтэры і амерыканскія браўнінгі стралялі безадмоўна.

Чатыры следствы, праведзеныя з 1988 па 1997 год, прыйшлі да аднолькавых высноў: расстрэлы рабіліся супрацоўнікамі камендатуры НКВД з 1937 па 1940 год. Дзякуючы аналізу знаходак, персанальных рэчаў, гільзаў, можна дакладна вызначыць год, калі магілы ўтварыліся. Пры гэтым мы ведаем, што самыя раннія даследаваныя пахаванні выяўленыя ва ўсходняй частцы ўрочышча, а з боку «Паедзем паядзім», дзе ў часы расстрэлаў быў уезд на палігон, — самыя позднія, за 1940 год. Такім чынам, урочышча запаўнялася расстрэльнымі ямамі сістэмна — з усходу (ад далёкага, калі пачынаць адлік ад уязной брамы, кута ўрочышча) на захад. Ахвяры 1937 года, імаверна, ляжаць на ўсходзе лесу, а ахвяры 1940 года, з катынскага спісу ў тым ліку, імаверна, — на захадзе і поўдні лесу.



**Мыльніца, знойдзеная ў адной з магіл.** Захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.

### Змесціва магіл

Знаходкі, зробленыя падчас эксгумацый, могуць даць мноства цікавай інфармацыі. На жаль, вынікі раскопак 1997—1998 гадоў збольшага закрытыя, пра іх ёсць толькі ўрыўкавыя звесткі. А вынікі сакрэтнага следства, якое адбылося ў 2000-х гадах, пакуль зусім не былі апублікаваныя.

Знаходкі ў ранніх расстрэльных ямінах маюць пераважна савецкае паходжанне. Сярод іх — гумавы і скураны абутак, элементы вопраткі, манеты, грабеньчыкі, зубныя шчоткі, мыльніца, гузікі, гаманцы, фарфоравыя кубкі, самаробныя гумавыя галёшы, кулі і гільзы ад рэвальвераў сістэмы Нагана і пісталета ТТ. Знаходкі сведчаць, што тут пахаваныя былі як прадстаўнікі найбяднейшых слаёў (саматужны абутак), так ▶



**Гузікі, знойдзеныя ў Курапатах.** Захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.



Дарога, па якой везлі вязняў, праходзіла прыкладна там, дзе цяпер да вяршыні пагорка падымаецца дарожка з боку рэстарана «Паедзем паядзім».

ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

**Ці праўда, што знаходка ў Курапатах парэштак жанчын ставіць пад сумнеў версію пра савецкія расстрэлы?**

Па-першае, у Курапатах следчыя не выявілі парэшткаў дзяцей. А немцы, калі расстрэльвалі яўрэяў, расстрэльвалі і жанчын, і дзяцей.
Па-другое, доля жанчын у пахаваннях Курапат невялікая. Меркаванне, што жанчын у 30-я да расстрэлу ў БССР не асуджалі, распаўсюдзіў старшыня КДБ Беларусі ў 1990–1994 гадах генерал Эдуард Шыркоўскі. Але калі следчыя Генеральнай пракуратуры напісалі запыт у ваенную калегію Вярхоўнага суда СССР, то выявілася, што ў 1937 годзе ў Мінск два разы на месяц выязджала выязная калегія Вярхоўнага суда. Узначальваў яе такі брыгваенюрыст Комадаў. З ім былі два «засядацелі». Ім НКВД рыхтавала спісы.
Калі ў спісах былі важныя персоны, яны праходзілі ўзгадненне Палітбюро. Сталін пісаў на кожным спісе рэзалюцыі: «К расстрелу б..дей» або проста «За». Свае подпісы ў знак згоды ставілі і іншыя члены Палітбюро: Вячаслаў Молатаў, Лазар Кагановіч, Мікіта Хрушчоў… Яны ўсе былі ўцягнутыя ў гэты канвеер. Гэтая выязная калегія асуджала людзей толькі па 58-м артыкуле (у БССР ён быў 76-ы) у ч. 1, 2, 3 — здрада радзіме, шкодніцкая дзейнасць, тэрор. І па іншым выключным артыкуле — контррэвалюцыйная прапаганда.
Дык вось, у спісах асуджаных да расстрэлу, якія следства атрымала з ваеннай калегіі з Масквы, — прыкладна 20% жанчын.

**Мікола Бугай**

▸ і інтэлігенцыі (зубныя шчоткі). Знойдзеныя як мужчынскія, так і жаночыя парэшткі. Найбольш парэшткаў прадстаўнікоў інтэлігенцыі было знойдзена ў раскопе №1 у 1988 годзе, у той час як раскопы №2 і №3 змяшчалі збольшага парэшткі сялян.

Кардынальна адрозніваецца сітуацыя ў раскопах №5 і №6 на 200 метраў на паўднёвы захад. Тут знайшлі вялікую колькасць рэчаў замежнай вытворчасці: шмат абутку з маркіроўкай лацінскімі літарамі (як скуранога, так і гумавага), грабеньчыкі, у тым ліку ў пластмасавых футаралах, зубныя шчоткі (толькі на дзвюх савецкія

## «Асобыя карпусы», дзе трымалі жывых мёртвых

Па загадзе Мікалая Яжова ў турмах НКВД былі створаныя «асобыя карпусы». У Мінску такі існаваў на 2-м паверсе «Валадаркі». Ён быў аддзелены ад рэшты турмы, ад агульнага калідора, сцяной у дзве цагліны.
Там трымалі людзей, якія па дакументах ужо былі расстраляныя і знятыя з усіх улікаў. Для жывых іх ужо не існавала. Але іх трымалі — для «аператыўнай работы».
Права заходзіць у «асобыя карпусы» не меў амаль ніхто, нават турэмны доктар. Мелі права заходзіць туды толькі наркам унутраных спраў і яго памочнік, а таксама група правераных наглядчыкаў — здаецца, у Мінску іх было 6 чалавек. Гэтых шасцёх пасялілі побач з турмой, у будынку на Валадарскага, дзе цяпер Тэхнабанк.
Асуджаныя ў «асобым корпусе» ведалі пра смяротны прысуд сабе, але ім казалі, што яны могуць заслужыць перагляд яго, могуць захаваць жыццё, калі дапамогуць НКВД у выкрыцці іншых «ворагаў народа». Ад іх дабіваліся паказанняў на максімальную колькасць людзей. Ім падсаджвалі вязняў, каб яны іх «раскручвалі» на «прызнанні». Зняволеных тут білі канвеерам па 24 гадзіны.
У асобым корпусе мінскай «Валадаркі» доўгі час трымалі беларускага дзеяча, аўтара першай беларускай граматыкі Браніслава Тарашкевіча.
Страшныя папкі з паказаннямі гэтых людзей яшчэ чакаюць свайго адкрыцця.
Калі турмы НКВД былі пеклам, то асобыя карпусы — пеклам пекла. У Мінску гэты корпус быў разлічаны на 180 чалавек. У Магілёве, Гомелі — да трыццаці. У Оршы — на дзесяць. Існавалі яны і ў Старобіне ды Ветрыне, дзе таксама дзейнічалі вялікія вязніцы.
Калі 25 лістапада 1938 года Сталін замяніў Яжова на Лаўрэнція Берыю, адным з першых загадаў было: з 12.00 спыніць усе расстрэлы.
А тут у асобых карпусах — 400 чалавек, якія па дакументах былі ўжо расстраляныя. У Мінску на той час наркамам быў Аляксей Наседкін. Яго папярэднік, Барыс Берман, ужо быў адкліканы ў Маскву і арыштаваны. Наседкін даў загад тэрмінова расстраляць 400 чалавек. Але чэкісты ўжо баяліся: яны бачылі, чым скончылі іх папярэднікі. Намеснік Наседкіна патрабуе: «Дайце пісьмовае ўказанне!» Тады Наседкін выклікаў намесніка і павёў дамоў, у інтэрнат на Камсамольскай. Там яго напаіў, пасля чаго той стаў больш згаворлівым.
Вязняў з асобага корпуса пасадзілі ў грузавікі і павезлі. Цэлы дзень і паўночы стралялі. Асобных супрацоўнікаў НКВД таго часу, напрыклад шафёра Давідсона, следчы пракуратуры Бролішс яшчэ паспеў у 1988 годзе апытаць.

**Мікола Бугай**

клеймы, на астатніх — маркіроўка лацінскімі літарамі), мыльніцы, кубкі (на адным з іх надпіс *Made in Poland*), акуляры, манокль, партманеты, заручальныя пярсцёнкі.

Асаблівую ўвагу звяртаюць на сябе тры медалікі, знойдзеныя ў раскопе №7. На двух — выява Маткі Боскай Чанстахоўскай, трэці — так званы «Цудоўны медалік», які каталікі па ўсім свеце лічаць цудадзейным. На ім — выява Дзевы Марыі ў поўны рост з апушчанымі рукамі, ад якіх разыходзяцца промні святла. Выява акружана радком з польскамоўнай малітвы: «*O Maryjo bez grzechu poczęta módl się za nami, którzy się do Ciebie uciekamy*». На адваротным баку — манаграма з літарай «M» (Марыя), крыжам, дванаццаццю пяціканцовымі зоркамі (якія сімвалізуюць дванаццаць апосталаў) і двума сэрцамі: Ісуса пад цярновым вянком і Марыі — прабітае мячом. ▶



GOOGLE MAPS

**У гэтым будынку на вуліцы Валадарскага ў 1937–1938 гадах** пасялілі наглядчыкаў, якія катавалі зняволеных у «асобым корпусе» «Валадаркі».

▶ Яшчэ адзін знакавы прадмет — грабеньчык, на якім надпісы па-польску *«Цяжкія хвіліны вязня. Мінск 25.04.1940. Думка пра вас даводзіць мяне да адчаю»* і *«26.IV. Расплакайся. Цяжкі дзень»*. Такім чынам, можна дакладна зрабіць выснову, што гэтая магіла ўзнікла не раней за красавік 1940 года. Выходзячы з характару рэчаў расстраляных, мы можам сказаць, што ў гэтай частцы ўрочышча яўна пахаваныя выхадцы з Заходняй Беларусі, далучанай да БССР у 1939 годзе.

Самая вялікая магіла з вядомых на сённяшні дзень была вызначана падчас эксгумацый 1997 і 1998 гадоў (усяго тады было закладзена 15 раскопаў). У ёй былі знойдзеныя парэшткі 373 чалавек. Знойдзеныя ў адным з раскопаў рэчы дазволілі высветліць асобы двух чалавек. Гэта турэмныя квітанцыі аб адабранні каштоўных рэчаў за 1940 год, выдадзеныя Мойшу Крэмеру і Мардэхаю Шулькесу. На сёння гэта адзіныя ахвяры Курапатаў, асобы якіх пацверджаныя дакументальна.



**«Лава Клінтана» была пастаўленая ў знак памяці ад імя амерыканскага народа.** На жаль, яна стала ахвярай вандалізму.

ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

Пэўную інфармацыю можна таксама атрымаць па разрабаваных пахаваннях, якія рэгулярна з'яўляюцца на тэрыторыі ўрочышча. У красавіку 2009-га з'явілася інфармацыя аб раскапанай магільнай западзіне ў цэнтральнай частцы ўрочышча. Сярод рэчаў, якія не зацікавілі рабаўнікоў, супрацоўнік Акадэміі навук Беларусі археолаг Мікола Крывальцэвіч знайшоў пластмасавы грабеньчык, папяросніцу з рэшткамі папяроснай паперы і нават... футбольную бутсу. Застаецца толькі здагадвацца, адкуль забралі яе ўладальніка на расстрэльны палігон.



ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

На месцы расстрэльных ям **утварыліся западзіны.**

**Магілы расстраляных у 1937-м знаходзяцца ва ўсходняй частцы лесу. Паступова магілы сталі капаць далей і далей на захад і поўдзень**

### Па той бок расстрэльнага рэвальвера

На сённяшні дзень у адкрытым доступе крайне мала інфармацыі пра выканаўцаў прысудаў. Доступу да закрытых дакументаў




**Існуе вялікая імавернасць, што ў Мінску была расстраляная і пахаваная частка палякаў з катынскага спісу.** Сімвалічная магіла іх знаходзіцца ў паўднёвай частцы некропаля.

КГБ БССР у даследчыкаў пакуль няма. Прозвішчы, згаданыя далей, вядомыя выключна з успамінаў сведкаў (у першую чаргу супрацоўнікаў НКВД): І. Кміт — вахцёр камендатуры НКВД, С. Харытановіч — «вывадны» ўнутранай турмы НКВД, А. Знак — наглядчык «Амерыканкі», С. Захараў — вахцёр камендатуры НКВД і іншыя.

Напэўна, самым вядомым з выканаўцаў з'яўляецца Сцяпан Коба (1908 — 9 мая 1953). Напрыканцы 30-х ён служыў начальнікам унутранай турмы НКВД у Мінску («Амерыканкі»). Падчас вайны быў камендантам асобнага аддзела НКВД па Заходнім фронце. Мяркуючы па ўзнагародных дакументах ад 1942 года, ён асабіста выконваў загады аб расстрэлах «здраднікаў». Памёр 45-гадовым у сваім кабінеце 9 мая 1953 года. Пастаўлены яму жонкай помнік можна ўбачыць на Вайсковых могілках у Мінску.

Іван Ермакоў (1888–1940), намеснік начальніка камендатуры НКВД. З 1937-га — малодшы лейтэнант дзяржбяспекі БССР, у 1938-м узнагароджаны знакам «Ганаровы супрацоўнік УНК-АДПУ». Застрэліўся з імяннога браўнінга (да пытання аб знаходках гільзаў ад зброі несавецкіх сістэм) у 1940-м.

Уладзімір Нікіцін (1898 – дата смерці невядомая). У 1937-м — малодшы лейтэнант дзяржбяспекі БССР. Кіраваў камендатурай НКВД БССР да Кобы. Вайну скончыў падпалкоўнікам, начальнікам турэмнага аддзела УНКВД Стаўрапольскага края. Дата смерці невядомая, але Нікіцін дакладна дажыў ▶




**Крыжы, прывезеныя жыхарамі** розных рэгіёнаў Беларусі.




ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Крыж памяці Вацлава Ластоўскага.** Фрагмент.

да распаду СССР і сустрэў яго ў сваёй кватэры ў Маскве ва ўзросце 93 гадоў.

Іван Бачкоў, у 1940 годзе дзяжурны камендант камендатуры НКВД, малодшы лейтэнант дзяржбяспекі, у 1942-м узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.

Андрэй Астрэйка — нарадзіўся ў 1905 годзе, дата смерці невядомая. У 1938-м узнагароджаны знакам «Ганаровы супрацоўнік УНК-АДПУ».

Сярод прозвішчаў сустракаюцца таксама Мігна, Дуброўскі, Бацян, Фама Абрамчык. На жаль, інфармацыі па іх (даты нараджэння і смерці, узнагароджанні, месцы праходжання службы) у адкрытым доступе няма.



ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

**Крыж на сімвалічнай магіле Тодара Кляшторнага.** Дачка паэта, архітэктарка Мая Кляшторная, шмат зрабіла для ўвекавечання памяці пра Курапаты. Яна дагэтуль не ведае, у якой канкрэтна магіле ляжыць яе тата.

**«Муж рэдка вяртаўся з працы цвярозым і ад яго пахла свежай крывёй»**

Сцяпан Коба расказваў пасля вайны намесніку міністра ўнутраных спраў БССР Івану Стэльмаху, што пасля расстрэлу выканаўцам выдавалі спірт, які яны выпівалі ў сталовай камендатуры. Па словах жонкі Бачкова, муж рэдка вяртаўся з працы цвярозым і ад яго нібыта «пахла свежай крывёй».

## Колькі было расстраляна?

Пытанне аб колькасці ахвяраў, якія знайшлі апошні прытулак у Курапатах, — найбольш дыскусійнае. Называліся розныя лічбы — ад 7 да 250 тысяч чалавек.

Найбольш абгрунтаваная на сённяшні дзень версія гаворыць пра 30 тысяч расстраляных. Імаверна, калі адкрыюцца архівы і будуць зробленыя дакладныя падлікі, канчатковая лічба будзе адрозніваецца ад яе на некалькі тысяч. Гэта лічба вынікае са звестак пра колькасць расстраляных у межах БССР за гады тэрору. Яна таксама супадае з высновамі следства 1988 года, якое зыходзіла з лічбы магіл і сярэдняй колькасці парэшткаў, знойдзеных у іх.

### Ад рэдакцыі

Сталінскія рэпрэсіі былі не проста злачынствам, ахвярай якога сталі нявінныя людзі. У Беларусі яны мелі характар мэтаскіраванага вынішчэння нацыянальнай і дзяржаўнай эліты. Яны не толькі аслабілі краіну перад вайной, яны падарвалі патэнцыял нацыі на дзесяцігоддзі. Татальна вынішчылі кіраўніцтва БССР, эліту сялянства і інтэлігенцыю. Адбылася падмена базавых паняццяў пра мараль, законнасць, абароненасць чалавека законам і справядлівасць, якія ляжаць у аснове поспеху любога сучаснага грамадства. Найцяжэйшыя наступствы 1930-х наша грамадства адчувае дагэтуль.




**Ільняны ручнік на крыжы ў Курапатах.** Фрагмент.

Аднак, на нашу думку, гэтае пытанне не галоўнае. Няважна, ідзе размова «толькі» пра дваццаць тысяч ці пра чвэрць мільёна: і адна, і другая лічба тычацца злачынства супраць чалавецтва.

Нават калі б выявілася, што Курапаты — далёка не самае вялікае месца расстрэлаў у Беларусі (хоць на сённяшні момант усё гаворыць аб адваротным), то яны мусяць быць сімвалам, як, напрыклад, вёска Хатынь, якая сімвалізуе не толькі ўласную трагедыю, але і ўсе спаленыя паселішчы на тэрыторыі Беларусі падчас вайны. Сімвалам, які яднае месцы масавых расстрэлаў у розных населеных пунктах Беларусі.

## Расстрэльныя дакументы вывезеныя ў Маскву

Да 1964–1969 года дакументы пра месца пахавання кожнага з асуджаных ляжалі ў Мінску. Пасля іх загадалі перадаць у Маскву. У дасье на кожнага вязня захоўваліся так званыя «першы канверт» і «другі канверт». У першым дагэтуль захоўваецца рашэнне трыбунала. У «другім» — даведка з камендатуры «Решение приведено в исполнение … года в г. Минске на спецучастке № …» і подпісы. Змесціва гэтых канвертаў і было перавезена ў Маскву. Але некаторыя іншыя дакументы, на аснове якіх можна аднавіць дакладныя лічбы расстраляных у Мінску, імаверна, можна выявіць у архівах КДБ Беларусі. У суседніх з Беларуссю краінах задачу раскрыцця гістарычнай праўды пра рэпрэсіі выканалі Інстытуты нацыянальнай памяці. Яны ўпарадкавалі архівы і апублікавалі выяўленыя дакументы.

Змена палітыкі ў дачыненні да архіваў КДБ у Беларусі (па аналогіі з архівамі спецслужбаў таталітарнага перыяду ў краінах-суседках Беларусі) дасць вычарпальную інфармацыю адносна таго, як адбылася адна з найбольш страшных трагедый у гісторыі нашай краіны. Вельмі важна, каб гэта адбылося. ◆




## «Як стала яна плакаць, дык ёй з аўтамата вочарадзь як запусцілі…»

Ён доўга і нязручна ляжаў, бы міна з гадзіннікавым механізмам, чакаў свайго часу — на камп'ютары. Аж пакуль у пачатку 2019-га я сам, па сваёй ахвоце не падарваўся. Пасля выбуху мусіў збіраць сябе па кавалачках. І ўжо ніколі не змагу быць ранейшым.

«Ідзі і глядзі», стужка Элема Клімава, сталася гэтай мінай, закладзенай уласнаручна мною на цвёрдым дыску. Я запампаваў яе і ўсё ніяк не мог сабрацца запусціць.

У «Нашай гісторыі» 4/2018, якую я набыў у шапіку адмыслова дзеля артыкула пра аднаго з маіх любімых пісьменнікаў Васіля Быкава, было прыведзена яго меркаванне, што пасля гэтага фільма можна ўжо больш не здымаць кіно пра вайну: усё сказана. Словы Быкава сталі якраз тым каменьчыкам, каб урэшце «пайсці і паглядзець».

Узяцца за асадку (а гэтыя радкі я накідаў найперш на паперы) палічыў сваім маральным абавязкам, прачытаўшы ў «Нашай гісторыі» 9/2019 матэрыял Аляксея Бацюкова «Элем Клімаў: чалавек, які зняў беларускі апакаліпсіс».

Расійскі пісьменнік Дзмітрый Быкаў забараняе сваім студэнтам глядзець гэтае кіно.

На маю думку, якраз наадварот — неабходна! Гэта як прышчэпка. Дзеля прачысткі мазгоў, для разумення, што забівалі падчас вайны не людзі, бо ніхто не прымушаў іх стаць чалавекамі — яны і не сталі...

Яшчэ больш дзейсная ў гэтым сэнсе першакрыніца — кніга Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка «Я з вогненнай вёскі». Бязлітасная праўда-сведчанне пра вайну — яна ж, па словах нобелеўскай лаўрэаткі Святланы Алексіевіч, паўплывала моцна і на яе ў творчым плане. Улюбёная форма Алексіевіч — споведзь герояў, як і ў кніжцы яе папярэднікаў.

…На чорна-белым фотаздымку — Мікалай Бранавіцкі з Салігоршчыны. Паслухайце ягоны голас:

«Стралялі доўга. Адной жанчыне папала, яна ўпала на рабёнка, ён сільна плакаў...

Сярэдняя дочка мая, ёй пяць гадоў, стала плакаць. Кажа:

— Папка, папачка, сільна больна!

Я кажу:

— Ціха, дочачка, не плач.

— Ой, папачка, я не магу цярпець!..

Як стала яна плакаць, дык ёй з аўтамата вочарадзь як запусцілі, дык чарапок зляцеў і мазгі брызнулі на сцену, і яна кончылася. Я гэта сваімі вачамі...»

«Ідзі і глядзі» падштурхнуў залезці адразу ж пасля фіналу фільма ў Вікіпедыю і прачытаць гісторыю яго стварэння. І гэта было як ланцужок: кіно Клімава, кніжка беларусаў, якую чытаю ўжо колькі месяцаў, бо гэта насамрэч цяжка і складана, прапускаць ТАКОЕ праз сябе, і яшчэ адна стужка — жонкі рэжысёра Ларысы Шапіцька — «Узыходжанне». Гэта экранізацыя аповесці Быкава «Сотнікаў».

Як цяпер помню, паглядзеў я «Узыходжанне» сёлета 8 сакавіка, уключыўшы яго а трэцяй гадзіне ночы. Ужо колькі дзён блага спалася: набліжалася гадавіна смерці маёй мамы — яна сышла 9 сакавіка. Фільм Шапіцька, вельмі камерны ў параўнанні з творам яе мужа, падаўся мне нават больш моцным — і я двойчы расплакаўся, пакуль яго глядзеў.

Пра што да гэтага часу расказваў толькі свайму найлепшаму сябру.

Цяпер дзялюся з вамі.

**Віталь Шыёнак**

## Ідзі і глядзі

Упершыню аб выдатным фільме Элема Клімава «Ідзі і глядзі» я даведаўся з часопіса «Наша гісторыя» з артыкула пра Васіля Быкава. Фільм — вельмі цікавы. На парадак цікавейшы і праўдападобнейшы за тое глупства, што цяпер здымаюць пра вайну.

**alex_lebedew84, instagram.com**

## У палёт з «Нашай гісторыяй»

У ліпені ў «Гіпа» на Сухараўскай у часопісах убачыла свежы нумар «Нашай гісторыі», а апошні купіла якраз у дзень вылету ў аэрапорце, і наўздагон Максім Багдановіч у самалёце пад слязу зайшоў з «Эмігранцкай песняй»... Вельмі цікавы і даступны часопіс, сэрца радуецца, што ў Беларусі сталі выпускаць такое.

І вяртанне любімца Капітана Танакі ў кожным нумары. І артыкулы на кулінарныя тэмы ад Алеся Белага!




**«Наша гісторыя» даехала і да львоўскай «Крыіўкі»!**
Сяргей Бараноўскі




**У Нарвегіі, з часопісам «Наша гісторыя» пра гістарычную радзіму беларусаў. Дзякуй symbal.by за часопісы.**

Сярожка Несцяронак, instagram.com

Калі хочаце нешта прывезці мне з радзімы, вязіце гэты часопіс. Можна купіць у аэрапорце.

**Людміла Стручэўская**

## Можа, калі-небудзь нешта з гэтага атрымаецца ўзнавіць…

Як сапраўдны берасцеец, не змог прайсці міма брэсцкага нумара часопіса «Наша гісторыя» (6/2019). Вельмі раю ўсім берасцейцам набыць гэты нумар і прачытаць артыкул Аляксандра Невара «Горад, якога няма». Сэрца баліць, калі чытаеш такое, але ж гэта частка гісторыі нашага горада, якую трэба ведаць. Хто знае, можа, калі-небудзь нешта з гэтага атрымаецца ўзнавіць.

**Андрэй Паўлючык**

## Дасюль не адзначанае свята

Летась Беларусь забыла адзначыць важны дзень — калі беларускі ўпершыню атрымалі правы голасу на выбарах. Нашы суседзі дык адзначылі падобнае свята акцыямі, канферэнцыямі, публікацыямі.

Беларуская Народная Рэспубліка была першай уласнабеларускай і незалежніцкай інстытуцыяй, якая абвесціла «агульнае, роўнае, простае і патаемнае выбарчае права, не рахуючыся з нацыянальнасцю, рэлігіяй і полам». Так 21 лютага 1918 года беларуска ўпершыню атрымала права голасу. Іншая рэч, што з улікам войнаў, разбурэнняў яна не змагла паўдзельнічаць у рэальных выбарах.

9 сакавіка 1918 года Другая Устаўная грамата да народаў Беларусі пацвердзіла «агульнае, роўнае, простае, патаемнае, прапарцыйнае выбарчае права, не зважаючы на род, народнасць і рэлігію» (пункт 2).

Роўнасць правоў таксама праявілася ў тым, што ў склад урада БНР увайшла жанчына — Палута Бадунова.

У БССР першай міністаркай у 1920 годзе стане Марыя Фрумкіна, якая ачоліць наркамат асветы.

Першы з’езд Саветаў Беларусі, а потым і першая Канстытуцыя ані словам не прыгадалі выбарчае права. Затое запіс аб выбарчым праве, а таксама аб праве жанчын удзельнічаць у выбарах з’явіцца ў Канстытуцыі БССР 1927 года.

У БССР палітыка працягне асацыявацца з мужчынамі, жанчыны ў склад беларускага ўрада траплялі рэдка. Як пісала Алена Гапава, у БССР «беларусы і беларускі былі роўныя ў бяспраўі». Тым не менш, хоць і фармальнае, права голасу беларускі атрымалі.

**Уладзіслаў Гарбацкі**

## Віншуем!

Аўтарка «Нашай гісторыі» **Святлана Курс** атрымала першую прэмію конкурсу «Вольнае слова» Беларускай асацыяцыі журналістаў за найлепшы мастацка-публіцыстычны тэкст. Тэкстам года ў гэтай намінацыі стала публікацыя «Нельга забыць: мы з вогненнай вёскі» (НГ 4/2019).




## Удакладненне

Перадача Дзмітрыя Быкава называецца «Одзін», а не «Адзін», як было памылкова пададзена ў НГ 9/2019. Яна названая ў гонар скандынаўскага бога, такая гульня слоў у расейскай мове.

## 10 пытанняў і адказаў пра перапахаванне Кастуся Каліноўскага і ягоных паплечнікаў

# З Замкавай гары ў капліцу на Росах

**22 лістапада ў Вільні на могілках Росы пройдзе ўрачыстае перапахаванне парэшткаў паўстанцаў 1863–1864 гадоў, публічна пакараных смерцю на віленскай Лукішскай плошчы падчас так званага мураўёўскага тэрору. Сярод перапахаваных будзе і наш нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі. Асноўныя факты пра гэту справу сабраў Аляксандр Пашкевіч.**

**1. Як знайшлі парэшткі паўстанцаў?**

У лютым 2016 года на Замкавай гары ў Вільні здарыўся апоўзень, які пасля паўтарыўся ў кастрычніку таго ж года. Гэта стварала небяспеку для вежы Гедыміна —


SHUTTERSTOCK.COM, BY RADOSLAW MACIEJEWSKI

архітэктурнага помніка XIV стагоддзя, размешчанага на вяршыні гэтай гары. Яе паўночны схіл, на якім адбылося спаўзанне грунту, было вырашана трывала ўмацаваць, але папярэдне правесці тут археалагічныя раскопкі.

Раскопкі пачаліся ў студзені 2017-га, і ўжо праз некалькі дзён знайшлі першыя чалавечыя парэшткі. Знаходкі працягваліся і пасля. Усяго ў выніку былі выяўленыя парэшткі 20 чалавек. Дзевяць былі пахаваныя ў індывідуальных магілах, у чатырох ямах закапалі па два чалавекі, а ў адной было трое.



SVABODA.ORG, BY ГІЦІС ГРЫЖАС, ВАЛДАС СЦЯПАНАЙЦІС

Медальёны, знойдзеныя **каля парэшткаў Кастуся Каліноўскага.**

## 2. Ці стала адкрыццё магіл нечаканасцю?

Не, іх шукалі мэтанакіравана. Бо пра тое, што абсыпаныя вапнай целы паўстанцаў звозілі з Лукішскай плошчы на Замкавую гару, ведалі і раней. Больш за тое — вядомае было нават прыблізнае месца пахаванняў.

Пакуль у нашым краі захоўвалася ўлада Расійскай імперыі, нейкія росшукі ў гэтым кірунку былі немагчымыя. Аднак пасля таго, як у 1915 годзе расіяне сышлі з Вільні і ў яе прыйшлі немцы, на месцы пахаванняў былі праведзеныя невялікія раскопкі, балазе яшчэ жылі сведкі, якія маглі паказаць прыблізнае месца. Падчас раскопак выявілі некаторыя парэшткі, а таксама фрагменты адзення і абутку.

Маштабных раскопак праводзіць тады не сталі, але была зроблена першая спроба мемарыялізацыі месца пахавання. Намаганнямі грамадскасці на месцы пахавання быў выкладзены крыж з цэглы, а пасля на гары ўсталявалі вялікі драўляны крыж, аўтарам якога быў вядомы віленскі архітэктар Антоній Вівульскі. Праўда, неўзабаве ён быў знесены на загад нямецкіх акупацыйных уладаў.

У 1920-я гады, калі Вільня адышла да Польшчы, мемарыял быў аднаўлены. Ён складаўся з крыжоў і прыгожай мармуровай шыльды з імёнамі пакараных смерцю паўстанцаў. Але ўсё гэта было знішчана, калі Вільня ў 1939 годзе адышла да Літвы, а ў 1940-м тут усталявалася савецкая ўлада.

Пасля ідэя аднаўлення мемарыяла неаднаразова ўзнікала, але яе адхілялі літоўскія ўлады: спярша савецкія, а пасля і нацыянальныя. Бо для літоўцаў, у адрозненне ад беларусаў і палякаў, паўстанне 1863—1864 гадоў у нацыянальнай гістарычнай канцэпцыі асаблівага значэння не мае. Як і Кастусь Каліноўскі для іх не нацыянальны герой, а толькі адзін з многіх лідараў паўстання.

Ужо ў нашым тысячагоддзі спробы шукаць магілу Каліноўскага рабілі пад кіраўніцтвам прафесара Алеся Смаленчука сябры Інстытута гістарычных даследаванняў Беларусі Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Ім удалося знайсці ў бібліятэках і архівах Вільні нямала цікавых дакументаў, у тым ліку і пра раскопкі часоў Першай сусветнай, але правесці новыя не выйшла. Магчымасці для гэтага адкрыла толькі аварыйная сітуацыя на Замкавай гары. ▶



**Замкавая гара ў Вільні** ў 1870 годзе. Фаталітаграфія Івана Трутнева.

WIKIMEDIA COMMONS



**Месца раскопак — выгляд зверху.**

SVABODA.ORG, BY ГІЦІС ГРЫЖАС, ВАЛДАС СЦЯПАНАЙЦІС

SHUTTERSTOCK.COM, BY CATHOUSEPRODUCTION

**Менавіта ў гэты бок, на тэрыторыю Нацыянальнага музея Літвы, сышлі ў 2016 годзе два апоўзні, з-за якіх літоўскія археолагі былі вымушаныя пачаць раскопкі.**

### ▸ 3. Чаму расіяне хавалі паўстанцаў менавіта на Замкавай гары?

У той час гэта было найлепшае месца для таго, каб зрабіць пахаванне, не прыцягваючы нічыёй увагі. З 1830-х гадоў на вяршыні гары расійскія вайскоўцы зрабілі фартэцыю, доступ у якую, натуральна, быў абмежаваны. З горада месца магілы не праглядалася.

Хаваючы паўстанцаў патаемна і на рэжымнай тэрыторыі, расійскія ўлады імкнуліся, каб месца пахавання не ператварылася ў месца паломніцтва. Бо ўжо мелі негатыўны досвед: магіла расстралянага ў лютым 1839 года рэвалюцыянера Шымана Канарскага на кальвінісцкіх могілках у Вільні стала святыняй для мясцовых патрыётаў і патанала ў кветках.

Закапаўшы трупы, месцы магілаў зараўнялі, з часам яны сталі непрыкметнымі. Адзіным арыенцірам для тых, хто нешта ведаў пра месца пахавання,



**Два апоўзні 2016 года на Замкавай гары ў Вільні стварылі небяспеку для вежы Гедыміна — архітэктурнага помніка XIV стагоддзя, размешчанага на вяршыні гэтай гары.**

**Ідэя аднаўлення мемарыяла на гары Гедыміна** неаднаразова ўзнікала, але яе адхілялі літоўскія ўлады: спярша савецкія, а пасля і нацыянальныя. Бо для літоўцаў, у адрозненне ад беларусаў і палякаў, паўстанне 1863–1864 гадоў у нацыянальнай гістарычнай канцэпцыі асаблівага значэння не мае. Як і Кастусь Каліноўскі для іх не нацыянальны герой, а толькі адзін з многіх лідараў паўстання.

служылі дзве таполі. Пасля гэта дапамагло пры правядзенні раскопак у 1915 і 1916 гадах.

#### 4. Хто быў пахаваны?

Усяго з 22 мая 1863-га па 22 сакавіка 1864-га ў Вільні за ўдзел у паўстанні быў пакараны смерцю 21 чалавек. Першым стаў ксёндз з Жалудка Лідскага павета Станіслаў Ішора, апошнім — Кастусь Каліноўскі.

Імёны і прозвішчы іншых 19-ці паўстанцаў (у чарговасці паводле даты пакарання смерцю): Раймунд Зямацкі, Баляслаў Колышка, Юльян Лясneўскі, Зыгмунт Серакоўскі, браты Аляксандр і Юзаф Раўкоўскія, Караль Сіповіч, Юзаф Яблонскі, Ян Бянькоўскі, Генрык Макавецкі, Уладзіслаў Нікаляй, Альберт Ляскоўіч, Казімір Сычук, Мечыслаў Дарманоўскі, Ігнат Здановіч, Цітус Далеўскі, Якуб Чэхан, Эдвард Чаплінскі, Ян Марчэўскі.

Большасць гэтых людзей ці нарадзіліся на тэрыторыі цяперашняй Беларусі, ці былі ▶


Падчас раскопак.

SVABODA.ORG, BY ГІЦІС ГРЫЖАС, ВАЛДАС СІЯПАНАЙЦІС


Шкілет Кастуся Каліноўскага.


Магіла братоў Аляксандра і Юзафа Раўкоўскіх.

цесна з ёй звязаныя сваёй біяграфіяй. Многія паходзілі з Лідчыны ды Ашмяншчыны, а Генрык Макавецкі быў выхадцам з Магілёўскай губерні. Найстарэйшаму, ксяндзу з Ваверкі Лідскага павета Раймунду Зямацкаму, на момант смерці было 53 гады, а самаму маладому, Каралю Сіповічу, — 19.

Самы вядомы чалавек пасля Каліноўскага — кіраўнік паўстання на тэрыторыі этнічнай Літвы, выхадзец з валынскай шляхты Зыгмунт Серакоўскі. Звычайна менавіта на ягонай асобе робяць акцэнт, пішучы пра справу перапахавання, польскія СМІ.

Усяго падчас раскопак былі выяўленыя і ідэнтыфікаваныя парэшткі 20-ці чалавек, не знойдзена толькі парэштkaў Ішоры. Відаць, яго пахавалі недзе ў іншым месцы.

### 5. Як ідэнтыфікавалі парэшткі?

Спецыялісты з факультэта медыцыны Віленскага ўніверсітэта мелі на руках неабходную базавую інфармацыю пра ўсіх пакараных паўстанцаў: іх узрост, партрэты, фізічныя асаблівасці, спосаб экзекуцыі (некаторых, у тым ліку і Каліноўскага, павесілі, а іншых расстралялі). Бралася пад увагу усё. Кожны з захаваных элементаў парэштkaў дазваляў калі не вызначыць чалавека з поўнай дакладнасцю, то, прынамсі, звузіць кола пошукаў.

Апазнанню некаторых асоб значна паспрыялі знойдзеныя пры іх асабістыя рэчы. А калі была такая магчымасць, то праводзіўся і аналіз ДНК са сваякамі, якія жывуць цяпер.

У выніку ўдалося з надзвычай высокай ступенню верагоднасці ідэнтыфікаваць парэшткі абсалютна ўсіх знойдзеных.

### 6. Як быў пахаваны, знойдзены і ідэнтыфікаваны Кастусь Каліноўскі?

Парэшткі Каліноўскага літоўскія археолагі знайшлі самымі першымі. Як распавёў журналісту радыё «Свабода» Ігару Карнею супрацоўнік Нацыянальнага музея гісторыі Літвы Гіціс Грыжас: «Гэта быў мужчына 25–26 гадоў. Ён ляжаў на баку, рукі за спінай звязаныя, цела аблітае вапнай. Пры ім знайшлі некаторыя прадметы: фрагменты абутку, гузікі, медальён з выявай Маці Божай Вастрабрамскай, а таксама раскладны медальён, унутры якога быў з аднаго боку крыжык з Хрыстом, з другога — моцна выцертыя, але пазнавальныя абрысы святога Казіміра».

**Каля кожнага саркафага напішуць прозвішчы паўстанцаў на літоўскай, польскай і беларускай мовах**

Ідэнтыфікавалі Каліноўскага шляхам супастаўлення ўзросту і метаду пакарання, а таксама праз параўнанне чэрапа з прыжыццёвай фатаграфіяй. Прымяняўся таксама метад выключэння. Аналіз ДНК правесці было немагчыма, бо няма ў каго ўзяць на яго матэрыял — нашчадкаў мужчынскага полу ў Каліноўскага не засталося. Была, праўда, ідэя ўзяць матэрыял для аналізу, эксгумаваўшы парэшткі старэйшага брата Кастуся Каліноўскага Віктара, пахаванага на могілках у Свіслачы на Гродзеншчыне. Але магіла таго — толькі сімвалічная, пад помнікам з ягоным прозвішчам, магчыма, ляжыць іншы чалавек.




**Залаты пярсцёнак**, які дапамог ідэнтыфікаваць асобу Зыгмунта Сlaunch Серакоўскага.

### 7. Дзе будуць перапахаваныя паўстанцы?

Іх парэшткі змесцяць у капліцы на могілках Росы ў Вільні. Гэтая капліца — самая вялікая на некропалі. Раней яна была ў занядбаным стане, але перад пахаваннем яе рэстаўравалі.

Згодна з праектам, у невялікіх круглых нішах пры абедзвюх сценах капліцы паставяць саркафагі з парэшткамі. Абедзве нішы з саркафагамі будуць увянчаныя гербам Рэчы Паспалітай, уведзеным Нацыянальным урадам 10 студзеня 1863 года. У трох палях герба размяшчаюцца выявы Белага арла, Пагоні і святога Міхаіла Архангела, то-бок сімвалы Польшчы, Літвы і Русі. Насупраць саркафагаў будзе невялікі алтар.

### 8. Які статус будзе мець гэта пахаванне?

Літоўскія ўлады запэўніваюць, што пахаванне паўстанцаў на могілках Росы будзе мець дзяржаўны статус, то-бок дзяржава будзе яго даглядаць і ахоўваць. На дзяржаўным узроўні, у прысутнасці найвышэйшых службовых асобаў Літвы, будзе праведзена і сама цырымонія перапахавання. Яе дата некалькі разоў пераносілася, але цяпер, здаецца, канчаткова прызначана на 22 лістапада 2019 года. Акрамя літоўскага кіраўніцтва, на перапахаванні збіраецца прысутнічаць прэзідэнт Польшчы, запрашэнні маюць даслаць таксама кіраўніцтву Украіны і Латвіі.

Што да кіраўніцтва Беларусі, то яно ўвесь час раскопак, ідэнтыфікацыі парэшткаў і падрыхтоўкі да перапахавання цікавасці да гэтай справы не праяўляла. Доўга былі нават сумневы, што беларускія чыноўнікі ўвогуле будуць прысутнічаць на цырымоніі. Але, здаецца, усё ж такі будуць, хоць пакуль невядома, наколькі высокі будзе ўзровень дэлегацыі.

### 9. Ці будзе ў пахаванні беларускі каларыт?

Планам прадугледжваецца, што каля кожнага саркафага напішуць імя і прозвішча паўстанца на літоўскай, польскай і беларускай мовах. Праўда, выкарыстанне беларускай мовы спачатку не планавалася, у значнай ступені праз тое, што да справы перазахавання абыякава ставілася беларуская дзяржава.

Сітуацыя змянілася, толькі калі ў сакавіку гэтага года да кіраўніцтва Літоўскай Рэспублікі звярнуліся ▶

дзевяць грамадскіх арганізацый беларусаў Літвы. У звароце былі словы: «Літоўцы, беларусы, палякі разам змагаліся з расійскімі царскімі акупантамі, разам аддалі свае жыцці (часта маладыя), каб Літва, Беларусь, Польшча былі вольнымі дзяржавамі». Улічваючы гэта, літоўскія беларусы прасілі зрабіць надпісы на магілах «таксама і на беларускай мове — роднай мове ўдзельнікаў паўстання, якія, ахвяруючы жыцці за свабоду нашых народаў, гаварылі і думалі па-беларуску».

Літоўскія ўлады пайшлі насустрач і вырашылі зрабіць надпісы трохмоўнымі.

### 10. Ці ёсць на Росах яшчэ беларусы?

Загадчык аддзела культурнай спадчыны Віленскага самакіравання Дарус Даўнорас, каментуючы справу перапахавання паўстанцаў на могілках Росы, сказаў, што «гэта будзе дадатковы цэнтр прыцягнення на могілкі і для літоўцаў, і для палякаў, і для беларусаў».

## На Росах Кастусь Каліноўскі не будзе самотны

І ён цалкам меў рацыю, называючы гэты некропаль для беларусаў толькі дадатковым цэнтрам прыцягнення. Бо і без Каліноўскага там нямала пахаванняў заслужаных для нашай гісторыі і культуры дзеячаў.

На гэтых могілках, дзе пахаванні рабіліся з пачатку XIX стагоддзя і да канца 1960-х гадоў, можна наведаць магілы гісторыка і краязнаўца Яўстаха Тышкевіча, пісьменнікаў Уладзіслава Сыракомлі, Францішка Аляхновіча, Ядвігіна Ш. і Казіміра Сваяка, архітэктара Лявона Вітан-Дубейкаўскага, грамадска-палітычных дзеячаў Івана і Антона Луцкевічаў (у апошняга магіла, праўда, толькі сімвалічная) і многіх іншых. Гэта, несумненна, адзін з галоўных беларускіх некропаляў па-за межамі сучаснай Беларусі. Кастусь Каліноўскі там не будзе самотны не толькі як паўстанец, але і як беларус. ◆




**Могілкі Росы на Дзяды.** На пярэднім плане — магіла Івана і Антона Луцкевічаў.

SHUTTERSTOCK.COM, BY GIEDRIUS AKELIS

«КАГО ЛЮБІШ? ЛЮБЛЮ БЕЛАРУСЬ»

# ЦІ ДОБРА ВЫ ЗНАЁМЫЯ З КАЛІНОЎСКІМ?

**1. Колькі братоў і сясцёр было ў Кастуся?**
- a) 4
- b) 8
- c) 10
- d) 14

**2. Першае імя Кастуся Каліноўскага:**
- a) Вінцэнт
- b) Сымон
- c) Фелікс
- d) Рамуальд

**3. А ў гонар каго хлопчык атрымаў імя Кастусь?**
- a) Імператара Канстанціна
- b) Канстанціна Васіля Астрожскага
- c) Памерлага брата
- d) Сына мясцовага святара

**4. Сям'я Каліноўскіх паходзіла:**
- a) З сялян
- b) Са шляхты
- c) З гараджан
- d) Са служачых

**5. Які факультэт скончыў Каліноўскі?**
- a) Гістарычны
- b) Юрыдычны
- c) Фізіка-матэматычны
- d) Не скончыў ніводнага, яго выгналі за непаспяховасць

**6. У час вучобы Кастусь паводзіў сябе эксцэнтрычна. Як думаеце, у чым гэта праяўлялася?**
- a) Адказваў на занятках па-беларуску
- b) Прыходзіў ва ўніверсітэт у лапцях
- c) Замест гальштука павязваў на шыю ручнік
- d) Насіў на сурдуце масонскія сімвалы

**7. Чым займаўся бацька Кастуся, Сымон Каліноўскі?**
- a) Тэкстыльным бізнэсам
- b) Жывёлагадоўляй
- c) Рамесніцтвам
- d) Выкладаў ва ўніверсітэце

**8. Вядома, што перад паўстаннем Каліноўскі імкнуўся ўладкавацца на розную працу (і нідзе яго не бралі). У чым толькі ён не спрабаваў свае сілы! Дык паспрабуйце вызначыць, у чым не спрабаваў :)**
- a) Канцылярыстам пры генерал-губернатару
- b) Следчым у губернскім горадзе
- c) Вясковым пісарам
- d) Настаўнікам фізкультуры ў гімназіі

**9. У ноч перад павешаннем Кастусь напісаў верш «Марылька чарнаброва, галубка мая, дзе падзелася шчасце і ясна доля твая…». Хто была гэта Марылька, да якой звяртаецца Каліноўскі?**
- a) Маці
- b) Мачыха
- c) Каханая
- d) Паўстанцкая сувязная Алена Скірмунт

**10. Якую фізічную асаблівасць меў Кастусь Каліноўскі?**
- a) У яго хутка расла барада
- b) У яго не раслі вусы
- c) Меў вочы рознага колеру
- d) У дзяцінстве перанёс поліяміэліт і кульгаў

**11. Якая праца была афіцыйным прыкрыццём Каліноўскага ў час паўстання?**
- a) Рэпетытар
- b) Прадавец
- c) Царкоўны служка
- d) Магільшчык

**12. На хвалі паўстанцкіх параз, у жніўні 1863-га, Каліноўскі дапамог ідэйным таварышам з Расіі. Што менавіта ён адправіў у Пецярбург, каб падтрымаць членаў «Зямлі і волі», якія ў той час чакалі ўсерасійскага сялянскага паўстання?**
- a) Грошы
- b) Стрэльбы
- c) Інструктараў
- d) Друкарскі станок

**13. Якім з гэтых псеўданімаў Каліноўскі не карыстаўся?**
- a) Ігнат Вітажэнец
- b) Яська-гаспадар з-пад Вільні
- c) Васіль Світка
- d) Вітольд Парфіяновіч

**14. Колькі ў Беларусі помнікаў Кастусю Каліноўскаму?**
- a) 0
- b) 1
- c) 2
- d) 5

Правільныя адказы: 1d, 2a, 3d, 4b, 5b, 6c, 7a, 8d, 9c, 10a, 11a, 12d, 13d, 14b

Такі незвычайны наш Кастусь. Які, аказваецца, і Кастусём стаў выпадкова: нарадзіўся ён у дзень святога Вінцэнта, і толькі дзякуючы сяброўству бацькоў з мастаўлянскім уніяцкім святаром атрымаў двайное імя — у гонар святарскага сына Канстанціна. У 5 гадоў страціў маці, пастаянна сварыўся з мачыхай, шмат гуляў з сялянскімі дзецьмі. Мусіць, так і пранікся беларускай культурай. Спярша вучыўся ва ўніверсітэце ледзь-ледзь: усе сілы сыходзілі на рэпетытарства і дапамогу брату ў гістарычных даследаваннях для Віленскай археалагічнай камісіі. Пры гэтым ідэйных пазіцый юнак не здаў: прыходзіў на пары ў лахманах і з ручніком на шыі – супраць афіцыйных парадкаў. Абараніўшы дыплом на «выдатна», ён спрабаваў уладкавацца на дзяржаўную службу. Усё не выходзіла. І тут у паветры запахла навальніцай…

Калі хочаце больш даведацца пра Кастуся Каліноўскага ды іншых герояў і гераінь паўстання, то набывайце спецыяльны нумар «Нашай гісторыі» — №2 за 2018 год. Знойдзеце там артыкулы Васіля Герасімчыка, Андрэя Кіштымава, Віталя Чырвінскага і іншых знаўцаў.




Гэты нумар яшчэ можна знайсці ў кнігарнях і прыватных распаўсюднікаў.









**У 1988 годзе каля тысячы людзей сабралася на адкрыццё памятнай шыльды Кастусю Каліноўскаму** на вуліцы ягонага імя ў Мінску (будынак кінатэатра «Вільнюс», цяпер Мінскага гарадскога цэнтра алімпійскага рэзерву па барацьбе імя Аляксандра Мядзведзя). З гэтага здымка відаць, як больш за 30 гадоў таму асоба Кастуся Каліноўскага рэальна аб'ядноўвала грамадства. На адным масавым публічным мерапрыемстве лунаюць розныя сцягі і ўздымаюцца транспаранты з лозунгамі, якія сёння, бадай што, ужо ўзаемасупярэчныя.

**Злева — фотапартрэт Кастуся Каліноўскага** работы Ахіла Банольдзі.



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

# Бурная дыскусія вакол месца перапахавання Кастуся Каліноўскага

**У канцы верасня ў беларускім сегменце Сеціва выбухнула гарачая дыскусія аб магчымасці перапахавання парэштак нашага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага, знойдзеных на Замкавай гары ў Вільні два з лішкам гады таму, не ў Літве, а ў Беларусі. У ходзе яе выявілася, што нават ідэйныя аднадумцы могуць мець зусім рознае ўяўленне пра пытанні гістарычнай памяці. «Наша гісторыя» сабрала найбольш цікавыя думкі, выказаныя падчас гэтай палемікі.**

### Віртуальныя барыкады

Падставай для дыскусіі стала публікацыя 24 верасня звароту беларускай інтэлігенцыі да Сойма і ўрада Літоўскай Рэспублікі, у якім адзначалася, што «пахаванне Канстанціна Каліноўскага павінна знаходзіцца ў адмысловым месцы — пантэоне змагароў за свабоду. Такое месца патрэбна і нам, беларусам. Мы лічым, што нашага нацыянальнага героя Канстанціна Каліноўскага варта пахаваць у Беларусі, і просім літоўскі народ разгледзець такую магчымасць». І далей: «Беларускі народ перажывае сёння няпросты час, калі існуе шмат пагрозаў дзяржаўнай незалежнасці. Пахаванне Канстанціна Каліноўскага ў Беларусі стала б сімвалам і напамінам беларускаму народу, як трэба любіць сваю Бацькаўшчыну, свой народ і як трэба за іх змагацца».

Падпісалі зварот дзясяткі вядомых беларусаў, у тым ліку і такія, якіх паводле сучаснай тэрміналогіі прынята называць «лідарамі думак»: нобелеўская лаўрэатка па літаратуры Святлана Алексіевіч, стваральнікі і ўладальнікі ўплывовых інфармацыйных рэсурсаў Юрый Зісер і Андрэй Дынько, папулярныя блогеры Антон Матолька і Эдуард ▸



# «Гэта ж жывы нерв нашай нацыі. Чалавек аддаў жыццё за Беларусь»

▶ Пальчыс, папулярны журналіст і арганізатар шэрагу культурніцкіх праектаў Глеб Лабадзенка, паспяховы бізнэсмен Павел Белавус, вядомыя спартсмены Віталь Гуркоў і Меліціна Станюта, пісьменнікі, народныя артысты...

Зварот выклікаў палкія дыскусіі.

Цяжка было знайсці хоць каго з актыўных у беларускай інфармацыйнай прасторы людзей, хто нейкім чынам па гэтай праблеме не выказаўся: артыкулам, пастом у сацыяльных сетках, рэплікай у каментарах, лайкам ці дызлайкам... Невядома, ці чакалі такога ініцыятары звароту, але рэакцыя на яго аказалася далёка не заўсёды ўхвальнай.

Супраць перапахавання ў Беларусі выказаліся людзі аўтарытэтныя: гісторык Алесь Смалянчук, мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі, перакладчыкі Лявон Баршчэўскі і Сяргей Шупа, моваўнаўца Вінцук Вячорка, палітык Зянон Пазняк, сацыёлаг Аляксей Ластоўскі, журналіст і блогер Дзмітрый Гурневіч і многія іншыя. Па розныя бакі віртуальных барыкадаў нярэдка апыналіся члены адной сям'і, супрацоўнікі адных рэдакцый, шматгадовыя сябры, калегі і аднадумцы...

Інтрыга доўга не пратрымалася: ужо 26 верасня літоўскі ўрад паставіў у гэтай справе кропку, прызначыўшы перапахаванне парэшткаў усіх паўстанцаў на 22 лістапада на віленскіх могілках Росы. Для Каліноўскага выключэння не зрабілі.

Працягваць практычную частку дыскусіі сэнс пасля гэтага знік, але пытанне, ці варта было б пераносіць парэшткі Каліноўскага ў Беларусь у прынцыпе, засталося.

Характэрна, што нават у праграму VIII Кангрэсу даследчыкаў Беларусі, які 27–29 верасня праходзіў у Вільні, была ў апошні момант уключана дыскусія на гэтую тэму паміж Андрэем Дынько і Алесем Смаленчуком — перакананымі і актыўнымі прыхільнікамі з аднаго боку беларускага, а з другога боку віленскага варыянтаў перапахавання. Яна адбылася ў віленскай Ратушы.

А Глеб Лабадзенка зняў адмыслова прысвечаны гэтай праблеме выпуск свайго ток-шоу «Кожны з нас» на тэлеканале «Белсат». Відаць, будуць час ад часу ўспыхваць падобныя спрэчкі і пазней, асабліва пры набліжэнні даты пахавання.

Мы ж тут зробім кароткі агляд таго, што выклікала нязгоду і па якіх асноўных пунктах цэлы тыдзень вяліся віртуальныя баі.

## Вільня нам не чужая, і Каліноўскі ў ёй не чужы

Многія людзі не прымаюць вываз Каліноўскага «на радзіму» з таго горада, у якім ён жыў і дзейнічаў і які для яго самога быў неад'емнай часткай Бацькаўшчыны. Ды і для большасці цяперашніх беларусаў, што ведаюць і шануюць сваю гісторыю, гэта замежжа палітычнае, але не духоўнае і тым больш не гістарычнае. Таму ці не наймагутнейшая плынь крытыкі ў бок падпісантаў звароту ішла менавіта адсюль.

Найбольш ёмка пазіцыю крытыкаў па гэтым пытанні ўдалося сфармуляваць вядомаму краязнаўцу **Кастусю Шыталю**, які жыве на той частцы гістарычнай Віленшчыны, што сёння ўваходзіць у склад Беларусі: «Вільня — гэта наш горад. Наш — не ў сэнсе сучаснай дзяржаўнасці, а ў сэнсе гістарычным і культурным. І ў часы Вялікага Княства Літоўскага, і ў часы Расійскай імперыі, і ў часы ІІ Рэчы Паспалітай Вільня была арганічна звязаная з Беларуссю, была цэнтрам беларускага руху. Паміж намі і Вільняй пралягла мяжа, аднак пра гісторыю немагчыма забыцца. Кожны свядомы беларус будзе прыязджаць у Вільню, каб убачыць там і "Вострую браму святую", і нашаніўскія мясціны, і нашы магілы на Росах, і стары горад, і гару Гедыміна. Няма ні магчымасці, ні патрэбы падзяліць тое, што ў нас агульнае».

Аднадумцаў у Шыталя вельмі шмат, і падобныя словы гучалі з вуснаў іншых аўтарытэтных людзей, збіраючы шмат лайкаў ды перапостаў. Вось толькі некаторыя з іх:

**Доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук:** «Магіла Каліноўскага ў Вільні — гэта ягонае пахаванне сярод сяброў і паплечнікаў. А яшчэ гэта сведчанне прыналежнасці Вільні таксама да нашай беларускай гісторыі».

**Папулярны журналіст Дзмітрый Гурневіч:** «Вільня — сталіца Вялікага Княства і горад, дзе беларушчына — частка ягонай гісторыі. І кожны прыезд беларуса на магілу Каліноўскага — гэта прыезд не ў чужы горад».

**Палітык, доктар гістарычных навук Ігар Марзалюк:** «Вільня — горад нашай мары. Каліноўскі мусіць застацца там».

**Сацыёлаг Аляксей Ластоўскі:** «Даўно пра гэта пісаў, але мушу паўтарыць яшчэ раз: лічу, што найлепшае месца для Каліноўскага — Вільня. Гэты горад знітаваны з яго лёсам, гэты горад сакральны для нашай гісторыі. Не бачу нейкіх уцямных контраргументаў».

Контраргументаў адносна гістарычнага значэння Вільні сапраўды няма, усе з гэтым згодныя. Пярэчанні ж тычыліся перадусім яе сучаснай ролі для

беларусаў, якая цяпер хутчэй усё ж маргінальная. **Андрэй Дынько**, напрыклад, без ніякіх пярэчанняў пагаджаецца, што Вільня некалі была цэнтрам беларускага руху. Вось толькі што гэта ўжо гісторыя, а не сучаснасць: «Была. А цяпер цэнтр іншы... Беларуская грамада Вільні малая, некалькі адданых сямей робяць, што могуць, але людзей там мала». А журналіст «Нашай Нівы» **Зміцер Панкавец** сцвярджае фактычна тое ж, толькі куды больш эмацыйна: «Вільня літоўская і не будзе ўжо нічыёй іншай. Нічога страшнага, нам хопіць Вілейкі, Барысава, Пінска, Мінска, Полацка і г. д. Рабі пільна — будзе табе Вільна». Прыхільнікаў і ў такой пазіцыі нямала.

У той жа час некаторыя беларусы праводзілі акурат адваротную думку: што пахаванне Каліноўскага ў Вільні будзе не спрыяць замацаванню прэтэнзій беларусаў на спадчыну ВКЛ, а наадварот — падрываць іх. Такія засцярогі мае філосаф **Уладзімір Мацкевіч**, адзін з ініцыятараў звароту да літоўскага ўрада: «У Вільні будзе перапахаваны Костас Калінаўскас. Яго прах літоўцы будуць шанаваць, пакуль Літва будзе. А ў Беларусі не будзе магілы героя, барацьбіта за нашу і вашу свабоду, які першы ў гісторыі ўсвядоміўся і самавызначыўся як беларус, Кастуся Каліноўскага. І мы забудземся канчаткова, што мы гістарычная Літва. І герой літвін, які стаў першым беларусам, нам не патрэбен. Няўжо?»


WŁASNOŚĆ
EUSTACHEGO
TYSZKIEWICZA

N 3

MUŻYCKAJA PRAUDA.

Dziaciuki!

Żywuczy pad rądom maskouskim kożny wiedaje szto jon nas abdziraje i błumić: no mało chto dobre padumau czy można ad jeho spadziewaci sia czeho leń dła nas, albo dla dzieciej naszych. Ja Dziaciuki lepsz znajuczy ad was uzdumau napisaci piśmo kab nie mahli tumanić rozumu waszaho. Dla toho czytajcie z uwahaju, a jak pierezcytajecie dawajcie da druhoj wioski.

Czeławiek to takuju maje naturu, szto albo niczoho nie wiedaje i niczoho mieci nie chocze, albo kali dawiedaje sia, to chocze zrazumieci dobre i dastaci usięko szto jemu należyć. Heto wielikaja prauda. Ot jeszcze nie dauno hawaryli naszyje, szto jeny stworeny dla toho, kab służyli pańszczynu i byli niewolnikami, a hawaryli dla toho szto niczoho niewiedali i niczoho mieci niechacieli, — a czy siehodnia hetak skażuć, kali uże wiedajuć mnoho i mnoho choczuć? Siehodnia usie uże parazumnieli, usie uże mużyki tałkujuć, szto Boh stworyu czeławieka kab jon karystawau z wolności sprawiedliwoj i smiejuć sia jak heto mahli inak dumaci. Heto prawo szto narod robić sia razumniejszym, wychodzić ad samoho Boha, a chto jemu schocze spraciulaci sia, taho albo sam Boh albo narod pa prykazu boskomu z ziemłoju zmieszaje!

Wy Dziaciuki peunie wielmi ciekawyje skul że heto narod tak parazumnieu? Ja wam skażu skul heto.

Kali Prancuz pad Swiątopolom zausim pabiu maskala, to dla toho kab maskal nie mieu siły i hroszy, prykazau narodowi dacį wolność, niebraci rekrutou i wielikich padatkou. Maskal zhadziu sia na heto, bo dumau szto narod durny i patrapić jeho aszukaci. Jon to chacieu adno pieremienić niawolu, no baczu wielmi aszukau sia, bo chacią nam rąd maskouski niczoho u sześć let nie zrabiu, no my jak paczuli szto i mużyk może być wolny, tak paczali pytaci sia u ludziej razumniejszych i tałkawaci pamiez saboju, aż zrazumieli szto to wolność znaczyć. Ot skul heto uziało sia szto narod parazumnieu. My siehodnia usie użo wiedajem, szto czeławiek wolny heto kali maje kusok swajej ziemli, za katoru ani czynszu i abroku nie płacić, ani pańszczyny nie służyć. — kali płacić małyje padatki i to nie na carskije stajni, psiar... ..., a na patrebu c-

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

**Першая старонка трэцяга нумара «Мужыцкай праўды»,** выдаванай Кастусём Каліноўскім у 1862–1863 гадах.

### Ці магчыма ў Беларусі зладзіць годнае пахаванне?

Практычны фактар хваляваў праціўнікаў звароту не менш за маральна-ідэйны. Як ні круці, а стаўленне да постаці Каліноўскага ў Беларусі сёння супярэчлівае. У савецкі час яго аднназначна лічылі героем і прыкладам, але ў апошнія гады мы не раз былі сведкамі, як прарасійскія дзеячы публічна аспрэчвалі не толькі значэнне асобы Каліноўскага, але і саму яго беларускасць. А беларуская дзяржава дагэтуль не праяўляла асаблівай цікавасці да справы перапахавання парэшткаў паўстанцаў — што сімптаматычна.

Таму не маглі не паўставаць пытанні: а дзе менавіта хаваць парэшткі Каліноўскага, калі літоўцы іх аддадуць? Наколькі ўрачыста гэта ўдасца зрабіць? Ці не акажацца, што замест падзеі, якая мела б узняць нацыянальны дух, атрымаецца толькі здзек ▶

з парэшткаў нацыянальнага героя, бо яны доўга не змогуць здабыць спакою і будуць рэгулярна рабіцца прадметам палітычных спекуляцый?

Папулярны блогер **Стась Карпаў** ва ўласцівай для сябе яскравай манеры сфармуляваў асцярогі многіх: «Ну паставім помнік, ладна. Дзе-небудзь у Лошыцы. Улады выдзеляць для парэштак месца на закрытым палігоне ў Калодзішчах. І мы туды, значыць, прыедзем разок. Ну, ці два разкі. А пасля што? Будзем карагоды вадзіць і расказваць, як цягнулі ў зубах гэтыя намоленыя косткі ўсе 200 кіламетраў? А для чаго?»

**Алесь Смалянчук** выказаўся яшчэ больш рэзка: «Вяртанне парэшткаў беларускага нацыянальнага героя ў Беларусь фактычна азначае іх перадачу ў рукі духоўных вучняў Мураўёва і Каяловіча... Не грамадзянская супольнасць будзе вырашыць лёс парэшткаў Каліноўскага. Няма ніякай гарантыі, што яны будуць не толькі ўшанаваныя належным чынам, а нават пахаваныя ў беларускай зямлі... Чаму ніхто не хоча падумаць пра будучыню ягонай магілы ў сучаснай Беларусі? На сённяшні дзень мы нават не маем аніводнага прыстойнага помніка нацыянальнаму герою».

А калі ўсё-ткі дзяржава паставіцца з разуменнем, дасць усе неабходныя дазволы і нават сама возьме ў цырымоніі перапахавання актыўны ўдзел, то ці не ўзнікнуць тады грунтоўныя эстэтычныя рознагалоссі? **Дзмітрый Гурневіч** упэўнены: «Перапахаванне ў Беларусі было б пры цяперашняй уладзе ператворанае ў “Дажынкі” або свята на Лініі Сталіна ці Аўцюкі».

**Андрэй Дынько** рашуча не пагадзіўся з апошнім меркаваннем, заўважыўшы: «Такія выказванні зневажаюць не ўлады, не адміністрацыю, а беларускі народ. Бо некаторыя справы здольны рабіць і народ без удзелу дзяржавы, калі выявіцца, што цяперашнія ўлады яшчэ не саспелі. Перапахаванне Шаўчэнкі — не царскія ўлады яго арганізоўвалі. І нагадаю пра пахаванне Быкава». Пры гэтым, аднак, адносна гэтай канкрэтнай сітуацыі ён прызнае: «Годнае перапахаванне Каліноўскага магчымае або пры ўдзеле дзяржавы, або пры яе добразычлівым нейтралітэце, як са стагоддзем БНР. Калі гэтых умоваў не будзе, то лепш не спяшацца».

## А дзе хаваць?

Але, можа, ёсць адзінства прынамсі адносна месца пахавання? Што калі хаваць у Беларусі, то толькі тут — і нідзе інакш? Як аказалася, тут разбежнасць думак таксама вельмі вялікая.

Гісторык **Алесь Краўцэвіч**, адзін з падпісантаў звароту, акрэсліў базавыя патрабаванні да такога месца. Яно мусіць забяспечыць, «каб каля яго магілы магла збірацца вялікая колькасць людзей для ўрачыстасцяў. Гэта можа быць і вайсковая прысяга, і прыём у скаўты, і г. д. Каб кожны беларус у любы момант мог туды прыйсці сам ці з дзецьмі, не просячы замежнай візы». Але паколькі цяпер, бадай, гэта нерэалістычна, то важна пакуль што прынамсі прывезці парэшткі ў Беларусь і пахаваць у менш статусным месцы. Напрыклад, у мінскім касцёле Святога Роха, каля парэштках княгіні Магдалены Радзівіл, перавезеных туды са Швейцарыі ў лютым 2018-га. А з часам будзе відаць, што з імі рабіць. Цяпер галоўнае — дабіцца таго, каб гэтая справа стала ўнутрыбеларускай і не залежала ад ласкі ўрада Літвы.

Настаяцель касцёла Святога Роха ксёндз-канонік **Юрый Санько** ў прынцыпе падтрымаў такі варыянт пахавання, адзначыўшы, праўда, што «гэта пытанне не касцельнай улады, а дзвюх дзяржаў. Але калі ўсё адбудзецца, то, напэўна, будзе створаны нейкі аргкамітэт па пахаванні, у рамках гэтага мы б з радасцю ўзялі ўдзел... і разгледзелі б пытанне прадастаўлення зямлі каля аднаго са сталічных касцёлаў пад магілу».

Але нават іншыя прыхільнікі перапахавання Каліноўскага ў Беларусі з гэтым не былі цалкам згодныя. Так, археолаг **Сяргей Тарасаў** «супраць, каб месцам спачыну нацыянальнага героя


SHUTTERSTOCK.COM, BY TAIGI

сталі канфесійныя могілкі: на той жа Кальварыі бракуе месца, каб сабрацца вялікай грамадзе». А ягоны калега, былы старшыня Таварыства беларускай мовы **Алег Трусаў**, лічыць найлепшым месцам «Усходнія могілкі побач з іншымі выбітнымі беларусамі — Васілём Быкавым, Уладзімірам Караткевічам, Міхасём Ткачовым». Але калі Каліноўскага пахаваюць там сярод іншых заслужаных нябожчыкаў, памерлых нядаўна, — то ці не большая верагоднасць, што суседзямі ягонымі стануць акурат ідэйныя апаненты, задаецца пытаннем журналіст радыё «Свабода», былы дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання **Сяргей Навумчык**.

**Сяргей Тарасаў** не адкідае і варыянта, каб пахаваць парэшткі Кастуся побач з братам Віктарам на радзіме ў Свіслачы, што на Гарадзеншчыне. Хоць і далёка ад сталіцы, але наведванне магілы мае шанц ператварыцца ў знакавы маршрут для кожнага беларускага патрыёта. Некаторыя іншыя таксама выступаюць за падобны варыянт, асабліва гарадзенцы. Краязнавец **Яўген Аснарэўскі**, напрыклад, сцвярджае: «Хаваць у Мінску толькі таму, што гэта сталіца? Але Кастусь быў значна цясней звязаны з Гарадзеншчынай. Яго родная вёска засталася на тэрыторыі Польшчы, але ёсць Свіслач, дзе ён вучыўся і дзе пахаваны яго родныя. Так што чаму не Свіслач? Чаму хоць бы не Гародня — цэнтр рэгіёна, з якім Кастусь быў таксама досыць шчыльна звязаны?»



**Могілкі Росы.** Статуя анёла.

У той жа час іншы гарадзенец, журналіст **Уладзімір Хільмановіч**, з сарказмам адзначае: «Пераважная бальшыня з тых, хто выступае за пахаванне Кастуся Каліноўскага ў Беларусі, аніводнага разу за 25 гадоў (!) не прыехалі на магілу Віктара Каліноўскага ў Свіслачы». Таму, мяркую, і да Кастуся туды масава ездзіць не будуць — не трэба мець ілюзій.

### Ці шчырыя літоўцы?

Увесь час у дыскусіі ўсплывае і яшчэ адзін аспект: а ці няма ва ўсім гэтым хітрай гульні літоўскіх уладаў? Справядліва ці не, але стаўленне да літоўцаў у многіх беларускіх патрыётаў здаўна насцярожанае. Даецца ў знакі шматгадовае ідэйнае змаганне за спадчыну Вялікага Княства Літоўскага. Таму многім і не верыцца, што нават знешне прыязныя літоўскія прапановы не маюць падвоенага дна. Магчыма, гэта робіцца толькі для таго, каб выштурхоўваць адтуль усё, што можа нагадваць беларусам пра Вільню ў іх нацыянальнай гісторыі?

Вось і **Алесь Смалянчук**, кажучы пра перапахаванне паўстанцаў, з аднаго боку не сумняецца, што «Літоўская Рэспубліка здольная гэта зрабіць годна і на высокім дзяржаўным узроўні з гарантыяй таго, што магіла беларускага героя ніколі не будзе апаганенай». Але адначасова робіць і засцярогу: «Магчыма, ініцыятыва некаторых літоўскіх палітыкаў па перадачы парэшткаў Каліноўскага абумоўленая ў першую чаргу якраз імкненнем працягваць літоўскую пры(х)ватызацыю Вільні».

Гісторык і журналіст **Сяргей Абламейка** таксама выказвае сумнеў, што літоўскія прапановы могуць быць шчырымі: «Уражвае недальнабачнасць тых, хто ▶

купіўся на яўна інспіраваную з Літвы (а можа, і з Расіі) ініцыятыву з перапахаваннем парэшткаў Кастуся Каліноўскага ў Беларусі. Гэта адназначна дае літоўцам падставу адмовіцца ад беларускай мовы ў мемарыяле на віленскіх могілках Росы».

Але і ў гэтым пытанні існуе разбежнасць думак аж да поўнай процілегласці. Калі праціўнікі пераносу парэштак Каліноўскага ў Беларусь мяркуюць, што літоўцы яго толькі і мараць збыць, то гомельскі актывіст **Пятро Кузняцоў**, наадварот, упэўнены, што суседзям наш герой пільна патрэбен у сябе, каб залучыць яго ва ўласны пантэон. І ў якасці доказу гэтага прыгадвае гісторыю пра свой дзесяцігадовай даўніны візіт з сяброўкай у Літву: «Вазілі нас на аўтобусе па вельмі гістарычных месцах, расказвалі, якую ролю тое ці іншае месца адыграла ў гісторыі Літвы. Зразумела, чым далей вазілі, тым больш прыкра нам рабілася. Але вось у адным месцы, дзе нам расказалі пра тое, што “тут быў пакараны смерцю змагар за свабоду Літвы, герой літоўскага народа Костас Калінаўскас”, спадарожніца мая не вытрымала і... заплакала...» А з гэтага выснова: «Сябры, пара пазбаўляцца ад ілюзій. Тое, што ляжыць у суседзяў, суседзям і належыць. Пакуль мы будзем цешыць сябе думкай, што мы “захавалі ў Вільні беларушчыну”, тысячы і тысячы людзей з усяго свету, на тых жа экскурсіях, будуць даведвацца, што Костас Калінаўскас — герой літоўскага народа, які паўставаў супраць Расіі і выяваў з ёй дзеля свабоды Літвы. Як гэта і раней адбывалася».

Зрэшты, чуваць і памяркоўныя галасы, схільныя бачыць у сённяшняй сітуацыі сапраўды шчырае памкненне літоўскіх элітаў навесці шляхі паразумення з беларускім народам. Журналіст **Францішак Вячорка** сцвярджае: «Пра перапахаванне Каліноўскага на тэрыторыі Беларусі ўжо некалькі месяцаў вядзецца размова ў кулуарах Сейма, МЗС, урада Літвы. Я чуў дыскусію пра гэта нават у Вашынгтоне... Думаю, што Каліноўскі, на жаль, будзе перазахаваны ў Вільні. Але сам факт такой дыскусіі ўсяляе ў мяне аптымізм што да беларуска-літоўскіх дачыненняў і нашай будучыні».




WIKIMEDIA COMMONS

**Помнік Каліноўскаму ў Салечніках (Шальчынінкай), Літва.** Недалёка ад гэтага мястэчка знаходзілася лясная друкарня, дзе выходзіла «Мужыцкая праўда». Аўтар помніка — Валяр'ян Янушкевіч.

## Ці быў сэнс у звароце?

Неўзабаве пасля таго, як дыскусія разгарнулася на поўную моц, некаторыя яе ўдзельнікі сталі выказваць занепакоенасць: а ці не пасварыць яна грамадзянскую супольнасць паміж сабой? **Сяргей Навумчык** наўпрост перасцерагаў: «Горшае, што можа адбыцца, — калі тэма пахавання Каліноўскага расколе нацыянальна свядомую частку грамадства. Думаю, усім нам трэба збавіць экспрэсію ў выказваннях... Сярод прыхільнікаў пахавання як у Вільні, так і ў Мінску — людзі, чые заслугі перад Беларуссю і ў справе дасягнення Незалежнасці бясспрэчныя: скажам, Уладзімір Арлоў, з аднаго боку, і Лявон Баршчэўскі — з другога. Такія старыя барацьбіты, як Уладзя з Лявонам, не рассварацца, а вось за іншых, маладзейшых, неяк трывожна».

Але гэтыя страхі аказаліся марнымі. Ужо пастфактум гісторык-некрапаліст **Сяргей Грунтоў** адзначыў як пазітыўны факт, што «дыскусія пра месца пахавання, якая распачалася, праходзіла хоць і актыўна, але параўнальна ветліва і з павагай адзін да аднаго. І гэта не дзіўна, таму што абодва бакі падзяляюць міф Каліноўскага і прызнаюць



ФОТА МІКАЛАЯ КУЗМЕНКІ, KALINOUSKI.ARKUSHY.BY

**Помнік Каліноўскаму ў горадзе Свіслач** на Гарадзеншчыне. Сёння ён адзіны ў Беларусі. Аўтар помніка — Заір Азгур.


SHUTTERSTOCK.COM, BY SLASHIK

**Мінскі касцёл Святога Роха.** Тут маглі б пахаваць парэшткі Каліноўскага ў выпадку іх перадачы ў Беларусь.

сакральнасць ягоных парэшткаў». Адносна прызнання менавіта сакральнасці парэштак як такіх, вядома, можна спрачацца, але тое, што ўсе ўдзельнікі дыскусіі ўспрымалі асобу Каліноўскага выключна станоўча — безумоўна так.

Праўда, відавочная адсутнасць адзінай думкі па пытанні месца перазахавання нават сярод шанавальнікаў Каліноўскага ставіць пад сумнеў карыснасць ініцыятывы нават як чыста сімвалічнага кроку. Гісторык **Аляксандр Пашкевіч** адзначыў гэта яшчэ ў той час, калі дыскусія ішла поўным ходам: «Не выпадае гаварыць пра станоўчую сімвалічную ролю магчымага пахавання Каліноўскага ў Беларусі. Натуральна, я не адмаўляю таго, што сімвалічныя акцыі бываюць не менш важнымі за практычныя. Але пры адной умове: яны мусяць яднаць, а не раз'ядноўваць. У нас жа, як засведчыла сітуацыя са зваротам, консэнсусу ў пытанні перапахавання парэштак Каліноўскага няма нават сярод нацыянальна арыентаванай часткі грамадства. Яна раскалолася прыблізна напалову, і цяжка сказаць, што адна з гэтых паловаў уплывовая, а другая маргінальная. А ад сімвалічных акцый, якія не яднаюць нават у прынцыпе аднадумцаў, якая карысць?»

## У лістападзе — на Вільню?

Але цяжка адмаўляць, прынамсі, адзін пазітыўны аспект гэтай дыскусіі: яна прыцягнула ўвагу неабыякавага грамадства да самога перапахавання. І гэта можа пазітыўна адбіцца на беларускай частцы прадстаўніцтва на цырымоніі 22 лістапада ў Вільні. Пра гэта пісалі многія, у тым ліку і прыхільнікі перапахавання ў Беларусі.

**Глеб Лабадзенка**, які падпісаў зварот, яшчэ ў пачатку дыскусіі адзначыў: «Калі ўсё ж застанецца ў сіле рашэнне пахаваць Каліноўскага ў Вільні, я ўспрыму гэтую інфармацыю спакойна. Не буду папракаць літоўцаў, што "не аддалі", а сяду на цягнік і паеду на пахаванне. І буду ўсё жыццё ўспамінаць, што мне выпала быць сведкам гэтай гістарычнай падзеі. А дзецям пасля раскажу, што меў гонар далучыцца да кампаніі паважаных людзей, якія на хвіліну паверылі ў магчымасць пахаваць Кастуся Каліноўскага ў Беларусі».

Яму ў лад гаворыць палітык **Аляксей Януковіч**: «Для мяне больш важна, колькі беларусаў прыедзе на перапахаванне нашага нацыянальнага героя, дзе б яно ні адбылося. Вось адзінае, што ад нас з вамі сёння залежыць у гэтай справе, на жаль або на шчасце. Наш супольны заклік мусіць быць да беларусаў, каб абавязкова былі там з сем'ямі, сябрамі. З нашымі сцягамі. І я ўпэўнены, што ўсе тыя, хто сёння нібыта апынуўся па розныя бакі ўяўнай барыкады, будуць у такі важны дзень разам у гэтым месцы, каб ушанаваць асобу, справы і ахвяру Кастуся Каліноўскага дзеля Бацькаўшчыны і беларускага народа».



WIKIMEDIA COMMONS

**Памятная шыльда ў Вільні** на будынку былога дамініканскага манастыра (вул. Святога Ігната (Švento Ignoto gatvė), д. 11), дзе Каліноўскі ўтрымліваўся да пакарання смерцю. Шыльда была ўсталяваная ў 1994 годзе намаганнямі Таварыства беларускай культуры ў Літве.

А сімвалічны вынік віртуальным баям падвяла пісьменніца і журналістка, сёлетні лаўрэат прэміі «Вольнае слова» за публікацыю ў «Нашай гісторыі» **Святлана Курс**. Яна бачыць ва ўсёй гэтай гісторыі перадусім пазітыў, бо так горача спрачаюцца толькі наконт таго, што сапраўды важнае і дарагое: «Чаго дзівіцца, што такі запал вакол Кастуся Каліноўскага? Гэта ж жывы нерв нашай нацыі. Чалавек аддаў жыццё за Беларусь... Найвышэйшы акт любові, незаплямленага гераізму. Я б хутчэй перажывала, калі б і тут была "млявасць і абыякавасць да жыцця". Купалу, Багдановіча і Каліноўскага будуць любіць як жывых і блізкіх, так будзе заўжды». ◆



# Астрыд Ліндг

## *Будучыня свету вырашаецца ў дзіцячым пакоі*

**Пісьменніца пражыла доўгае жыццё — 94 гады, памерла ў 2002-м. За пару гадоў да смерці ў яе быў інсульт, яна згубілася ў часе. Але паступова да яе сталі вяртацца настрой і сілы, і нават фірмовае пачуцце гумару. Піша Паўліна Скурко.**

Першы бестселер Ліндгрэн быў створаны ў самы цёмны час. Разгар Другой сусветнай, Ліндгрэн метадычна збірае газетныя выразкі пра падзеі вайны, піша дзённік з апошнімі

рэн:

весткамі з франтоў, дапаўняючы іх уласнымі разважаннямі. Швецыя — нейтральная краіна, але вайна адчуваецца тут праз голад і бежанцаў. Пісьменніцу шакуюць падзеі за мяжой: карныя акцыі нацыстаў, бамбардзіроўкі, Халакост.

У час вайны Астрыд працуе на шведскую разведку. А дакладней, у аддзеле перлюстрацыі: чытае лісты з-за мяжы і за мяжу. «Мая брудная праца». Гэта праца дазволіла ёй многае зразумець і пра вайну, і пра натуру чалавека.

А самым цікавым для пісьменніцы была псіхалогія дыктатараў. Прычым у пачатку вайны Ліндгрэн больш баялася Сталіна, чым Гітлера. «Горш за ўсё, што ўжо не так і жадаеш Германіі паражэння, паколькі рускія зноў заварушыліся. Прыкрываючыся рознымі прычынамі, яны акупавалі Эстонію, Латвію, Літву, — піша ў дзённіку 18 чэрвеня 1940-га. — Слабая Германія для нас, скандынаваў, цяпер азначае адно: да нас прыйдуць рускія. Госпадзе, не дай рускім дабрацца да нас...»

У гэтыя гады і напісалася «Піпі Доўгаяпанчоха» — светлая, вясёлая кніжка, але не без алюзій на сучаснасць. Першыя радкі з'явіліся пасля вестак з Варшаўскага гета. «Як можа Гітлер думаць, што можна так ставіцца да блізкіх?!» — абураецца Ліндгрэн у сваім дзённіку.

Пазней крытыкі пабачылі ў Піпі не толькі надзвычай дужую і пазітыўную дзяўчынку («Піпі — маленькі супермэн: моцная, багатая і незалежная», — казала Ліндгрэн пра сваю гераіню). І не толькі ікону фемінізму. Піпі — гэта яшчэ і сімвал добрай сілы, якая процістаіць злой сіле нацызму. Ліндгрэн такой трактоўцы не пярэчыла.

Памятаеце, напрыклад, дырэктара цырка з хлыстом? Ён гаварыў з нямецкім акцэнтам, увесь час папраўляў валасы і хацеў здавацца мілым, аж пакуль выбрыкі Піпі не прымусілі яго паказаць сапраўдную натуру. Або іншы намёк у той жа сцэне — асілак Адольф, самы моцны чалавек на свеце. Яго перамагла Піпі — «звышчалавек у дзіцячым абліччы», якая паставіла сваю сілу на служэнне дабру, — тлумачыла Астрыд выдаўцу.

Страшна ўявіць, але Піпі магла б і не выйсці. Гэта адзін з першых твораў, дзе пра дзяцей гаворыцца як пра роўных з дарослымі. Выдаўцы доўга баяліся такога падыходу. Першая кніга самай знакамітай дзіцячай пісьменніцы выйшла, калі Ліндгрэн было ўжо 38!

**У час вайны Астрыд працуе на шведскую разведку. У аддзеле перлюстрацыі пісем**

### Моцная сям'я

Актуаліі крытыкі пабачылі і ў іншым знакамітым творы Ліндгрэн — «Эміль з Лёнэбергі». Эміль і яго бацька — гэта процістаянне новага і старога, праява моладзевага бунту 60-х. Эміль і дабрэйшы, і разумнейшы, і больш чуллівы за бацьку (той можа толькі ганяцца за сынам пасля яго чарговага выбрыку і ўрэшце замыкаць яго ў хляве). У сваім зняволенні Эміль сумуе, але хутка знаходзіць сабе прадуктыўны занятак — стругаць драўляных дзядкоў. І ўжо марыць пра тое, якое свята зладзіць для сябе і старэйшага сябра — работніка Альфрэда — з нагоды сотага дзядка!.. ▶

### Пісала на дыялекце, выдаўцы падчасалі

Цікава, што ў першай рэдакцыі Піпі Доўгаяпанчоха гаворыць на родным для Ліндгрэн смоландскім дыялекце. Гэтая рэдакцыя ўпершыню выйшла ў Швецыі ў 2013 годзе. Тады, у 1944-м, кніга і без таго выглядала занадта смела. Дыялектызмы з яе прыбралі, як і згадкі пра начны гаршчок ды кабылу, якая пакакала на арэне цырка.

Матыў моладзевага бунту мо і пратачыўся ў кнігі Ліндгрэн, але пісаўся «Эміль» зусім з іншай нагоды. У 1961-м памерла мама Астрыд, і пісьменніца хацела падтрымаць і развесяліць бацьку, які ўсё жыццё, з 13-ці гадоў, быў глыбока закаханы ў жонку. «Тата штодзень казаў маме, што яна ўнікальная». Цяпер Самуэль Аўгуст стаў чакаць смерці з надзеяй: у раі ён сустрэне сваю Ханну.

## Сялянская сям'я Астрыд была вельмі моцнай, вельмі згуртаванай

Сялянская сям'я Астрыд Эрыксан была вельмі моцнай, вельмі згуртаванай. Брат і тры сястры сябравалі паўз усё жыццё, спісваліся, сазвоньваліся, сустракаліся на святы. А Самуэль Аўгуст і Ханна не саромеліся праяўляць любоў да дзяцей — рэдкасць на той час. Нават калі гэта пагражала сям'і вялікім сорамам.



ЕНС АНДЭРСЕН «ГЭТЫ ДЗЕНЬ І ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁ»

**Дружная сям'я Астрыд.** Уверсе бацькі — Ханна і Самуэль Аўгуст.



Kungafamiljen snart åter i Haag

NÄGONSTANS I HOLLAND, lördag.

Prinsessan Juliana har anlänt till södra Holland och planerar att resa till Haag och Amsterdam tillsammans med prins Bernhard, så snart vägarna rensats från minor och ordning inträtt efter kapitulationen.

Drottning Wilhelmina anlände till södra Holland i torsdags.

7 Maj 1945.

Detta är V-dagen! Kriget är slut! Kriget är slut! KRIGET ÄR SLUT!

Kl. 14.41 (tror jag) undertecknades kapitulationen i ett litet röte skolhus i Reims, för de allierade av BEDELL-SMITH Eisenhower, för tyskarna av Jodl, varigenom alla tyska styrkor i hela Europa ger tappt. Norge är alltså också fritt nu. Ett vansinnigt jubel ligger i detta nu över Stockholm. Kungsgatan är täckt av ett flera cm. tjockt pappers-

ЕНС АНДЭРСЕН «ГЭТЫ ДЗЕНЬ І ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁ»

**Ваенны дзённік** Ліндгрэн.

### Каханак

48-гадовы галоўны рэдактар газеты «Вімербю» Райнхальд Блумберг закахаўся ў 17-гадовую практыкантку Астрыд Эрыксан. Ён ужо меў сямёра дзяцей, аўдавеў, зноў ажаніўся і цяпер знаходзіўся ў працэсе разводу. Юная Астрыд была ўражаная цікавасцю да сябе: «Дзяўчаты такія дурныя. Ён быў першы, хто закахаўся ў мяне ўсур'ёз. І мяне гэта вельмі захапіла».

Сувязь Астрыд Эрыксан і Райнхальда Блумберга

**Месца, дзе нарадзілася Астрыд.** Лісты, званкі, візіты… Ліндгрэн ратавалася ў чырвоным драўляным дамку на востраве Фурусунд. Сюды не ішла пошта, тут не было тэлефона, і жыхары выспы паважалі права суседкі на адзіноту. «Я танцую ў сваёй адзіноце ад радасці», — пісала Астрыд. Яна любавалася захадам сонца, глядзела на зоркі, на ваду, дрэвы. Карацей, атрымлівала асалоду ад свабоды.

WIKIMEDIA COMMONS

доўжылася паўгода. А потым яна зацяжарала. Пра кантрацэпцыю ў Швецыі 1920-х ніхто не гаварыў, тым больш у добрапрыстойнай сям'і царкоўнага старасты.

«Я ведала, чаго хачу і чаго не хачу. Дзіця я хацела, яго бацьку — не». Выбар быў няпросты, Астрыд вагалася. Але ўрэшце прыняла рашэнне, бо жаніх захацеў валодаць ёй цалкам: забараняў ісці вучыцца на сакратара, хадзіць на танцы і ў кіно, раўнаваў да бацькоў.

На цяжарную Астрыд упала адказнасць выбару клінікі. Дзяржаўныя бальніцы Швецыі не пасавалі: яны патрабавалі ўсе звесткі пра маці і бацьку (які быў усё яшчэ фармальна жанаты). Пра прыватную радзільню Астрыд наслухалася нядобрых водгукаў. У апошні месяц ёй удалося дамовіцца пра роды ў Капенгагене — у Даніі, суседняй краіне. Там звесткамі пра бацьку ніхто не цікавіўся.

Пяць першых гадоў Ласэ пражыў у прыёмнай дацкай сям'і, а юная Астрыд, якая працавала



ЕНС АНДЭРСЕН «ГЭТЫ ДЗЕНЬ І ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁ»

48-гадовы **Райнхальд Блумберг.**

ў Стакгольме, старалася наведваць яго кожны месяц. Усе ашчаджэнні ішлі на білеты. З прыёмнай сям'ёй пашанцавала, Астрыд перапісвалася з «дацкай мамай» Ласэ да яе смерці.

Бацька Ласэ часткова аплачваў жыццё сына ў дацкай прыёмнай сям'і і спадзяваўся, што Астрыд вернецца да яго. Калі яна адмовілася, ён перастаў плаціць і пагразіў забраць сына. Але паступова адносіны наладзіліся. Неўзабаве Блумберг ажаніўся зноў, новая жонка нарадзіла яму яшчэ чацвярых дзяцей. «Не твая і не мая памылка, што нашы дарогі разышліся, — пісала яму Астрыд у адказ на чарговы ліст. — Не шукай мінулага, думай пра цяперашняе».

У яе жыцці ў гэты час ужо з'явіўся Стурэ Ліндгрэн. Загадчык канцылярыі, дзе працавала дзяўчына, старэйшы на 9 гадоў. ▶




ЕНС АНДЭРСЕН «ГЭТЫ ДЗЕНЬ І ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁ»

**Астрыд толькі што забрала сыночка з прыёмнай сям'і ў Капенгагене**, гуляе з ім па Стакгольме і вучыць гаварыць па-шведску.

### Муж

«Я праглядаю ўсе некралогі, каб паглядзець, колькі гадоў было памерламу, — пісала Астрыд маме. — Я быццам хачу ўпэўніцца, што не толькі жыццё Стурэ абарвалася заўчасна». Стурэ было 53, калі ён памёр, Астрыд тады было 45.

Дачка пісьменніцы ўспамінае, што татава смерць, канечне, была ўдарам, але не шокам. «Тата надта многа піў. Ён спрабаваў кінуць, але не паспеў». Усе вакол усведамлялі яго праблемы з алкаголем, лішнюю вагу, высокі ціск. У Стурэ быў цыроз. Аднойчы ён стаў кашляць крывёю, яго забралі ў бальніцу, а праз два дні ён памёр. У гэты момант жонка трымала яго за руку, шкадуючы, што не можа вось так, за руку, правесці яго *туды*, трымаць яго *там*.

За восем гадоў да смерці Стурэ пара перажыла непрыемны момант: муж прызнаўся, што закахаўся ў іншую. У Нармандыі ў гэты час адкрываўся другі фронт, войска СССР падыходзіла да Усходняй Прусіі, але Астрыд не магла засяродзіцца на гэтых падзеях. «Асновы майго існавання падарваныя, я кінутая, я замярзаю». 14 гадоў шлюбу, ніводнай сур'ёзнай сваркі — і тут такое... Паўгода спатрэбілася Стурэ, каб разабрацца ў сваіх пачуццях і вярнуцца. Чакаючы рашэння мужа, у дэпрэсіі і на бальнічным, Астрыд пачала пісаць мілую дзявочую аповесць «Чэрсцін і я».

У мужа было цудоўнае пачуццё гумару. Ён любіў чытаць (яны чыталі разам), падтрымліваў жончыну кар'еру, дапамагаў вычытваць карэктуру «Пiпi» (а рэдактурай і карэктурай уласных кніг Астрыд займалася сама). Аднойчы ён пайшоў па новы касцюм, а вярнуўся з ілюстраваным двухтомнікам казак Андэрсена, якія іх дзеці чыталі і перачытвалі. «Ён быў добры чалавек. Ён быў мне як дзіця, я яго вельмі любіла. Мой маленькі хлопчык...»



ЕНС АНДЭРСЕН «ГЭТЫ ДЗЕНЬ І ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁ»

**Такім пабачыла Астрыд будучага мужа — Стурэ Ліндгрэна**, загадчыка канцылярыі Каралеўскага аўтаклуба. Дзяўчына працавала там машыністкай. Пара ажанілася, праз тры гады ў іх нарадзілася дачка Карын.

**«Ён мне вельмі падабаўся, але я ніколі яго не кахала. Не было той вялікай жарсці, якая, здаецца, ёсць у іншых парах. Але я не маю адчування, нібы мне чагосьці бракавала»**

### «У мяне няма ні таты, ні мамы, але я шукаю каго-небудзь»

У пісьменніцы было двое дзяцей. Малодшая дачка Карэн працягвае захоўваць матчыну



ЕНС АНДЭРСЕН «ГЭТЫ ДЗЕНЬ І ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁ»

**Маці і сын.** «Ларс — летуценнік, які забывае пра справы, такім ён і застанецца».

спадчыну. А сын Ласэ памёр ад раку ў 1986-м, у 60 гадоў. Гэта стала самай вялікай трагедыяй у жыцці Ліндгрэн.

За недададзеную любоў яна дакарала сябе ўсё жыццё. Яе пачуцці адбіліся ў кнігах пра самотных сірот. «Хлопчыку з прытулку з прамымі валасамі, якога ніхто не хоча ўзяць, лепш памерці», — уздыхае Расмус-валацуга, калі дарослыя чарговы раз выбіраюць сярод дзетдомаўцаў мілую спакойную дзяўчынку з кудзеркамі. «У мяне няма ні таты, ні мамы, але я шукаю каго-небудзь», — кажа хлопчык новаму знаёмцу, валацугу Оскару.

Першыя гады жыцця Ласэ давялося цярпець пастаянныя расстанні з ёй, «шведскай мамай». Потым назаўжды развітацца з «дацкай мамай» (першы час хлопчык вельмі сумаваў па ёй і ўгаворваў Астрыд вярнуцца да яе ў Капенгаген). Ліндгрэн з горыччу ўспамінае першую шведскую раніцу сына. Ён прачнуўся і са здзіўленнем вымавіў: «Ой, гэта ж мама!»

«Ён быў пэўны, што я ўжо зматалася». А калі бабуля, маці Астрыд, у іх першы прыезд у Вімербю кінулася абдымаць унука, той схапіўся за Астрыд: а раптам яна яго зараз пакіне з гэтай новай цёцяй. Нам здаецца, што дзеці лёгка прыстасоўваюцца, але гэта не так, сцвярджала пісьменніца. Яны проста скараюцца нашай сіле. Ім самім у гэты час горка і цяжка.

## Нам здаецца, што дзеці лёгка прыстасоўваюцца, але гэта не так

Найлепшы спосаб прымусіць людзей змоўкнуць — паказаць, што яны не памыляюцца ў сваіх падазрэннях. Вярнуўшыся з маленькім сынам на радзіму, у Вімербю (адкуль уцякала пяць гадоў таму, пакуль жывот не стаў бачны), Астрыд цяпер атрымлівала асалоду, калі сын на поўны голас, на людзях зваў яе мамай. «Мяне ніяк не закраналі ўсе гэтыя крывыя позіркі. І я, і Ласэ былі вельмі ўпэўненыя ў сабе. Запомніце: не сорамна мець дзіця. Дзіця — гэта шчасце, гэта гонар, і ў глыбіні душы ўсе людзі на свеце гэта цудоўна ўсведамляюць».

«Будучыня свету вырашаецца ў дзіцячым пакоі». Ліндгрэн лічыла, што любоў, якую дзіця недаатрымала за першыя 10 гадоў жыцця, ніхто ніколі не кампенсуе. Менавіта гэтыя гады вырашаюць, якіх дарослых атрымае грамадства, — душэўна здаровых людзей добрай волі або скалечаных індывідаў, што карыстаюцца любым выпадкам,

каб ускладніць жыццё блізкім. «Нават дзяржаўныя чыноўнікі заўтрашняга свету — гэта сённяшнія дзеці».

Дачка ўспамінае, што маці ўвесь час гаварыла дзецям, як іх любіць, часта на смоландскім дыялекце. У яе быў выраз: «Ідзі да мяне, я выцісну з цябе ўвесь ныркавы тлушч». Гэта значыла: вельмі моцна абдыму.

**«Гледзячы на дзяцей, разумееш, чаму Госпад стварыў людзей: каб жыць было добра і весела»**



ЕНС АНДЭРСЕН «ГЭТЫ ДЗЕНЬ І ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁ»

**«Тата доўгія гады быў царкоўным старастам, вясёлым, добрым, шчодрым, сябрам усяму свету».** Самуэль Аўгуст памёр у 94 гады і да апошняга цікавіўся лёсам Эміля з Лёнэбергі. З усіх персанажаў дачкі ўпадабаў яго найбольш і марыў, каб аднойчы Эміль стаў старшынёй сельскай управы.

### Гетэрасэксуальнасць і сяброўка-лесбіянка

Яны пазнаёміліся ў Берліне, дзе Упраўленне па справах моладзі арганізавала сустрэчу Ліндгрэн з дзецьмі вайны. Такі сабе духоўны вітамін. Ва ўпраўленні працавала Луіза Хартунг. Гадзінамі жанчыны гулялі па Берліне, і немка паказвала шведцы свае любімыя месцы, а таксама знакі вайны: бункер Гітлера, руіны пасля бамбардзіровак...

Астрыд вярнулася зачараваная. За наступныя 11 гадоў (да смерці Луізы) яны даслалі адна адной 600 лістоў. Сяброўкі сустракаліся прынамсі раз на год. Хоць рознасць тэмпераментаў давалася ў знакі: «Луіза Хартунг — самы кіпучы чалавек на свеце, які гаворыць гадзінамі. Я думала, бедная галава мая ўзарвецца», — так апісвала Ліндгрэн нечаканы прыезд сяброўкі.

З часам выявілася, што Луізе падабаюцца жанчыны. У прыватнасці, адна шведская пісьменніца. Луіза стала актыўна намякаць на свае пачуцці: дасылала з Германіі кветкі, цыбуліны і саджанцы для саду, кнігі, шакалад, білет на самалёт да Берліна... Астрыд намякала, што паміж імі не можа быць нічога, апроч дружбы. Аднойчы Луіза напісала без эківокаў: сапраўдная блізкасць паміж сяброўкамі прадугледжвае не толькі духоўны, але і фізічны бок. Астрыд адказала без істэрыкі і гэтак жа адкрыта: «Усякае каханне мае права існаваць. Але калі нехта — як я — абсалютна гетэрасэксуальны і ні ў найменшай ступені не бісэксуальны, ён ніколі не зможа закахацца ў чалавека таго ж полу».

Астрыд захаплялася сяброўкай, але папярэджвала: «Ты ніколі не будзеш задаволеная, прапануючы каханне і атрымліваючы ўзамен сяброўства».

**«Жыццё — нядоўгатрывалая бязглуздзіца, за якой наступае вялікая цішыня. Але той кароткі тэрмін, што нам адпушчаны на зямлі, трэба напаўняць зместам»**



**Помнік на радзіме** ў Вімерблю.

FLICKR.COM

### «Усё больш заводжуся ад таго, што творацць сацыял-дэмакраты»

Ліндгрэн паўдзельнічала ў адхіленні ад улады сацыял-дэмакратычнага ўрада Ульфа Пальмэ на выбарах 1976 года. «Сацыял-дэмакратыя здрадзіла мне. Я застануся дэмакратам, пакуль жывая. Але цяперашняя ўлада ўжо не абараняе дэмакратыю, ім пасуе назва "Сацыял-бюракратычная партыя"». На пытанне журналіста, ці можна быць сацыял-дэмакратам, не імкнучыся да сацыялізму, Ліндгрэн адказала: «Сацыялізм, даведзены да крайнасці, прадугледжвае дыктатуру, а дыктатура мне не да душы».

Што ж так раз'ятрыла пісьменніцу? Найперш несправядлівымі яна лічыла падаткі. Характэрны прыклад правалу падатковай палітыкі Швецыі — гісторыя з сусветна вядомым Інгмарам Бергманам. Рэжысёр быў затрыманы па падазрэнні ў падатковых махінацыях проста ў тэатры падчас рэпетыцыі. Пасля таго, як абвінавачанні знялі, Бергман эміграваў. «Тут ён ствараў вялікае мастацтва, мы ганарыліся, што ён адзін з нас!» — абуралася Ліндгрэн.

Штуршком да асабістага змагання Ліндгрэн стаў кур'ёз: у 1976 годзе ў выніку нестыковак у нядаўна змененым Падатковым кодэксе пісьменніцы налічылі 102% падатку. Пісьменніца апісала выпадак у вострасатырычнай калонцы. Так пачалося яе змаганне. Карыкатурысты ўсёй краіны паціралі рукі: галоўным вобразам стала Ліндгрэн у касцюме Піпі, з касічкамі, якая жанглюе шарападобным міністрам фінансаў Гунарам Стрэнгам.

Гэтую пазіцыю падтрымалі многія шведы, найперш сярэдні клас. Але былі і тыя, хто западозрыў пісьменніцу з яе астранамічнымі накладамі ў карыслівасці. Тая абвяргала: «Я баюся і не хачу грошай, не хачу гары рэчаў, маёмасці, улады, якую даюць грошы, таму што яна разбэшчвае амаль як палітычная. Але я лічу, што нікога нельга прымушаць красці, каб наскрэбці грошай для сплаты падаткаў». ▶




WIKIMEDIA COMMONS

**Магілка Астрыд** побач з бацькамі.

Сапраўды, пісьменніца жыла ў межах звычайнай для шведаў пратэстанцкай этыкі. У дастатку, але не ў раскошы. Многа дапамагала іншым. У 1996—1997 гадах Ліндгрэн дапамагла дзвюм шматдзетным курдскім сем'ям. Іх дэпартавалі са Швецыі ў Турцыю, і 17-гадовая Рожда, старэйшая дачка ў адной з сем'яў, звярнулася з лістом да любімай пісьменніцы. Яна чытала яе кнігі па-курдску. Ліндгрэн вырашыла паручыцца за дзяўчыну і яе стрыечную сястру і аплаціць ім адукацыю. Дзякуючы гэтаму ў наступным годзе змагла вярнуцца ў Швецыю, цяпер яна стаматолаг.

Адмовы даваліся Ліндгрэн вельмі цяжка. У лісце да сяброўкі яна прызнавалася: «Увесь мой час сыходзіць на абарону. Адзін хоча, каб я пазваніла ва ўрад і перашкодзіла высылцы разумова адсталага, хворага трынаццацігадовага турка, другі — каб я ўратавала старых ад прымусовай адпраўкі ў псіхлякарню, трэці — каб павярнулася да Ісуса і падтрымала секту "ўсеагульнага жыцця". Хутка я скажу, як хлопчык з Вімербю, калі журналістка яго спытала, што ён думае пра Піпі Доўгуюпанчоху: "Сюды ўвесь час заяўляюцца ўсякія вар'яты і задаюць мне пытанні!!!"».




## «Палітыка занадта важная справа, каб аддаць яе на водкуп палітыкам»

У канцы 1980-х пісьменніца далучылася да экалагічнага руху. Яна заклікала захаваць недатыкальнымі палявыя ландшафты (іх збіраліся забудоўваць) і прасіла сялян выказвацца пра тое, што для іх лепш, змагацца за свае фермы, не пакладаць свой лёс на волю дзяржавы... Паплечнікам Ліндгрэн стаў дырэктар кампаніі «Вольва».

Акрамя таго, у 1988-м у Швецыі быў прыняты «закон Ліндгрэн» — закон аб ахове жывёл. Пісьменніца ініцыявала перагляд становішча свойскіх жывёл і птушак: кароў, свіней, курэй... Яна не заклікала адмовіцца ад мяса, але настойвала: усе жывёлы маюць пражыць жыццё так, як ім уласціва — дыхаць паветрам, бачыць сонца, скубсці траўку... «Нашы жывёлы — жывыя істоты, яны могуць пакутаваць, ім бывае страшна і балюча, як і людзям. Ці маем мы права пагарджаць патрэбамі жывёл дзеля таннай ежы?» Яна прыдумала трох герояў: курыцу Лавісу, свінку Аўгусту і карову Ролу, якія сталі пастаяннымі героямі яе калонкі ў газеце «Экспрэс». Палітычная дыскусія ў форме казкі? Такое людзей захапіла.

На 80-гадовым юбілеі пісьменніцы прэм'ер-міністр Швецыі Інгвар Карлсан («найлепшы ў свеце Карлсан» — так Ліндгрэн звярталася да яго ў артыкулах і лістах) падняўся на сцэну, абняў Ліндгрэн і паведаміў, што ўрад забяспечыць Роле, Лавісе і Аўгусце прымальныя ўмовы жыцця.

Без чаго вам цяжка было б пражыць? «Без дзяцей і прыроды»
З чым вам цяжка было б жыць? «З туфлямі малога памеру»
Ці ёсць у Астрыд Ліндгрэн любімы касцюм? «Калі ёсць, то піжама. Я такая лянівая, што пішу, лежачы ў ложку»

**Ліндгрэн заўжды заяўляла, што шведскі нацыяналізм ёй чужы. «Але я не змагла б жыць за мяжой. Мае карані — у шведскай прыродзе. Я сумую па зямлі, па паху Швецыі»**

Што насамрэч думаў пра яе «найлепшы ў свеце Карлсан», невядома. Калі Ліндгрэн была незадаволеная нейкімі крокамі ўрада, яна адразу пісала пра гэта вышэйшым асобам і ў прэсу. Але ўрад з ёй лічыўся, разумеючы яе грамадскую вагу. Характэрны выпадак: з чарговай нагоды Ліндгрэн напісала Карлсану ліст, які даставілі проста на з'езд партыі. Пакуль іншыя слухалі даклады, прэм'ер-міністр сабраўся і паехаў да старэнькай пісьменніцы. Яны правялі




**Стары вятрак на востраве Фурусунд,** дзе Ліндгрэн праводзіла лета.

ў размове дзве гадзіны, падчас яе бабуля Астрыд турзала Інгвара за шчаку на вачах яго целаахоўнікаў. Усе дарослыя для яе былі дзецьмі, якія выраслі.

### «Браты Львінае Сэрца»

Дагэтуль уражвае, наколькі гэта кніга адрозніваецца ад мілых Піпі, Карлсана ці Кале Блумквіста. Гэта гісторыя двух братоў — Юнатана і Карла. Першы з іх загінуў на пажары, ратуючы малодшага хворага Карла. З часам Карл разумее (уяўляе?), што яго брат патрапіў у чароўны свет — Нангіялу. У сваім уяўленні смяротна хворы хлопчык далучаецца да брата. І тут у чароўным свеце пачынаецца страшнае: яго захоплівае дыктатар Тэнгіль. Браты спрабуюць дапамагчы паўстанцу Урвару перамагчы злачынца... У апошняй сцэне старэйшага брата, адважнага Юнатана, падчас пераправы праз вадаспад паралізуе агонь драконіхі. Хлопчыкі ведаюць, што Юнатан зноў зможа рухацца толькі ў Нангіліме, казачнай краіне, куды трапляюць тыя, хто памёр у Нангіяле. І Карл бярэ на спіну старэйшага брата, каб разам зрабіць крок у вадаспад.

Калі кніга выйшла, Ліндгрэн абвінавацілі ледзь не ў прапагандзе суіцыду. Маленькія чытачы закідалі пісьменніцу лістамі з просьбай праясніць канец. Ёй прыйшлося надрукаваць у прэсе эпілог: як два браты шчасліва жывуць у іншым свеце. Кніжка стала суцяшэннем для дзяцей з цяжкімі хваробамі. «Можа, усё і праўда адбываецца так?» — думалі яны.

Ліндгрэн вельмі доўга думала над канцоўкай. Ці варта заканчваць дзіцячую кнігу так вусцішна?.. Пісьменніца была пэўная, што дзеці баяцца смерці не больш за дарослых. І знаёміць дзяцей са смерцю праз казку — якраз правільна. А найбольшы страх дзяцей — гэта страх адзіноты. Яны баяцца, што іх кінуць. Таму канец кнігі — шчаслівы. Два браты выпраўляюцца ў іншую краіну, дзе застануцца разам назаўжды. «Нікому не прыйдзецца заставацца ў адзіноце, — думае маленькі Карл, падыходзячы да вадаспада. — Ляжаць, і гараваць, і плакаць, і баяцца». ◆

### Як напісаць добрую кніжку

Якой павінна быць добрая дзіцячая кніга? «Яна павінна быць добрай. Я прысвяціла гэтаму пытанню многа часу, але іншага адказу не знайшла: яна павінна быць добрай». У іншым інтэрв'ю Ліндгрэн канкрэтызуе: «Важная простасць. Прэч доўгія ці заблытаныя сказы, прэч тэарэтычныя разважанні, незразумелыя словы, маралізатарства».


ФОТА ВЯЧАСЛАВА РАДЗІМІЧА, BELSAT.EU

# Русь пячэ кнышы памерлым

## «Ой і чакалі ж мы гэных Дзядоў!»

**Доктар гісторыі Алесь Белы расказвае пра забыты бок таямнічых абрадаў.**

У сучаснай Беларусі традыцыі святкавання Дзядоў паціху выцясняюцца заходнім Хэлаўінам, але цікавей успомніць, як гэты дзень адзначалі нашы продкі. У каталікоў Дзяды прыпадаюць на 2 лістапада, наступны дзень пасля свята Усіх Святых, у праваслаўных — на першую суботу лістапада, перад днём святога Дзмітрыя Салунскага. Сёлета і ў каталікоў, і ў праваслаўных Дзяды прыпадаюць на адзін дзень — 2 лістапада.

### Не лезь папярод бацькі ў пекла

Да застолля на Дзяды гатаваліся загадзя і старанна. У хаце і на

**Дзяды ў Данілевічах**
Лельчыцкага раёна.

двары стараліся як найчысцей прыбрацца. У праваслаўных менавіта ў пятніцу напярэдадні Дзядоў бялілі печ — толькі ў гэты дзень года. У сем'ях, дзе была такая магчымасць, калолі парсюка, рэзалі авечку ці цяля. Прэстыжным для гаспадыні лічылася выставіць як найбольш мясных страў — што кантраставала з папярэдняй вячэрай, якая заўжды была поснай.

Колькасць страў вагалася ад 5-ці да 15-ці ці нават 19-ці. Але заўжды яна была няцотнай, што сімвалізавала семантыку «таго» свету, свету нябожчыкаў. Часам, каб не нашкодзіць жывым, якіх ахоўвае сімволіка цотнасці і парнасці, кожную з гэтых страў выстаўлялі на стол на дзвюх талерках, дасціпна дагаджаючы і мёртвым, і жывым.

Вячэра пачыналася з сімвалічнага запрашэння дзядоў на супольнае частаванне. У розных месцах гэта рабілася па-рознаму, але часцей за ўсё так: уся сям'я малілася перад абразамі, а потым найстарэйшы ў родзе прамаўляў закліканне-запрашэнне, напрыклад, такое:

Святыя дзяды, просім вас
Хадзіце, ляціце да нас,
Есці і піці, што Бог даў,
Што я для вас ахвяраваў,
Чым толькі хата багата...

Прыгатаваўшы шчодрую вячэру для продкаў, адчынялі дзверы ў хату, часам вокны, брамку на двор. Старэйшыя члены сям'і абыходзілі хату, маліліся, паглядаючы ў бок могілак і запрашаючы памерлых, каб дзяды свабодна маглі зайсці ў хату на вячэру. Кожны, пачынаючы ад гаспадара або старэйшага, зачэрпнуўшы першую лыжку стравы, выліваў яе на стол або ў адмысловую місу — для дзядоў. Затым тое самае рабіла гаспадыня і па чарзе — усе астатнія. Або, як варыянт, пасля кожнага зачэрпвання і глытка клалі лыжку на стол, каб яна паляжала. Лічылася, што ў прамежках лыжкай карыстаюцца продкі.

Добрым тонам было супольна «заўважаць», як у місах, прызначаных для дзядоў, паступова менее ежы. «Бацькі нам загадвалі верыць, і мы гаварылі: “Мама, ужо менш у місцы боршчыку!”», — успамінала Соф'я Мітрафанаўна Еўтушэнка з вёскі Паселішчы Хойніцкага раёна.

## Выраз «запрасіць на клёцкі» азначаў «запрасіць на памінкі»

Найстарэйшы ў родзе адыгрываў важную ролю ў цырымоніі з той простай прычыны, што ён быў першым кандыдатам на далучэнне да свету дзядоў. Ён жа мусіў і першым уставаць з-за стала. Калі ж гэта рабіў нехта іншы, яму пагражала смерць на працягу наступнага года і пакуты на тым свеце. У гэтым нібыта і ёсць сэнс вядомай прыказкі: «Не лезь папярод бацькі ў пекла!».

Мэтай такіх абрадаў было, з аднаго боку, забяспечванне даверу і прыхільнасці памерлых, а з другога — дапамога ім у здабыцці вечнага шчасця ці палёгкі ў пакутах.

### А на стале — галовы татэмных жывёл

Часта была на дзядоўскім стале вараная свіная галава, пераважна на ўсходзе Беларусі. Часам у самым пачатку вячэры старэйшы мужчына тройчы абносіў свіную галаву свечкай па хадзе сонца. Гэта — водгулле далёкай даўніны, культурны рэлікт таго часу, калі кожная значная падзея ў жыцці роду і племені суправаджалася ахвярапрынашэннем татэмнай жывёлы.
На захадзе Беларусі, асабліва ў старакаталіцкіх раёнах, замест свінні на Дзяды было прынята рэзаць барана. Тады на стале выстаўлялася баранова галава, а ў крайнім выпадку, калі сям'я была беднай, — галава пеўня.
— Тады з самага ўтра петуха засякаюць, — успамінае жыхарка Радашковічаў, — і цэлы пятух варыцца. Цэлая пціца кладзецца на вялікую тарэлку. Ой, чакаем гэных Дзядоў, што галоўнае — мама петуха цэлага на стол ставіць, а патом ядзім яго. Галава застаецца на тарэлачцы, а куды тады дзявалі, не помню. Но сабаку не давалі, канешна.

*Успаміны жыхаркі Радашковічаў, запісаныя Гражынай Харытанюк-Міхей*

### «Прыбывайце к сталу!»

Аднатыпнага ўніфікаванага рытуалу не існавала, усё залежала ад канфесіі і рэгіёна. Не было і агульнага ўяўлення пра меню. Праўда, некаторыя стравы былі яўна папулярныя. У першую чаргу куцця, «канун» і бліны.

Куццю варылі з прасяных, ячных, грэцкіх або рысавых круп, але абавязкова саладзілі — мёдам, разынкамі, цукрам. Мёд быў на стале абавязкова, як і яйкі — ▶

сімвал жыцця, найчасцей у выглядзе яечні.

«Канун» мог выглядаць па-рознаму, але найчасцей для яго прыгатавання ў падсалоджаную ваду крышылі хлеб ці нейкі іншы мучны выраб — напрыклад, абаранкі.

Бліны даўней былі важнай рытуальнай стравай на многіх святах, і на Дзядах таксама. Іх не толькі елі. Напрыклад, на Міншчыне ў пачатку памінальнай трапезы гаспадар браў у адну руку свечку, загорнутую ў блін, а ў другую — булку хлеба і абносіў іх тры разы вакол пастаўленай на стале варанай свіной галавы, памінаючы ўголас родных, блізкіх і нават проста землякоў ды запрашаючы іх словамі: «Прыбывайце к сталу!». Часам усе стравы елі з блінамі замест хлеба. На Магілёўшчыне першы спечаны блін гаспадыні рвалі на часткі і клалі на вокны «для дзядоў».

Вельмі часта на стале былі клёцкі — мучныя, а бліжэй да нашых часоў таксама і бульбяныя. У прыватнасці, «клёцкі з душамі» — з запечаным у цесце мясам або скваркамі. Яны ўвогуле лічыліся абавязковай стравай на памінках. Нават выраз «запрасіць на клёцкі» азначаў «запрасіць на памінкі».

Вельмі кранальна напісаў пра гэта Рыгор Барадулін:

На клёцкі бульбу дралі на хаўтуры,
З душамі клёцкі дзень віталі хмуры
У кроплях пары,
Нібыта ў расе.
І на Дзяды таксама клёцкі елі,
Напаміналі, што не вечна ў целе
Душа святло дрыготкае нясе…

Начынка лічылася метафарай душы, а абалонка — цела.

## Свіная ці баранова галава на стале — адгалосак далёкіх племянных звычаяў

Яшчэ адной даўняй рытуальнай стравай з сімвалізмам «цела і душы» былі кнышы — невялікія круглыя піражкі з запечанай усярэдзіне або выкладзенай на паверхні начынкай. Праўда, ужо ў XIX стагоддзі пра іх мала памяталі. Але даўней палякі казалі: «Русь пячэ кнышы памерлым».

Апроч гэтых асноўных, на Дзяды гатавалі ўсё, што толькі ўмелі ў кожнай канкрэтнай сям'і: разнастайныя поліўкі (рыбныя, мясныя, крываяныя), кісялі (журавінныя і аўсяныя), грыбны квас, верашчаку, сырніцу, перапечкі з каноплямі, саладухі, аўсяныя талокны, пернікі, гарох з макавым малачком, крупнік з грыбамі і іншыя. Абавязкова — мясныя стравы, з тых самых свінні або барана, чыя галава аздабляла стол. Лічылася, што гаспадароў, якія свядома пашкадуюць зарэзаць іх на Дзяды, на працягу года чакае кара продкаў — за хцівасць.



ФОТА СЯРГЕЯ ЗІНІНА

Традыцыя рэзаць барана напярэдадні Усіх Святых (1 лістапада) захоўвалася ў Заходняй Беларусі яшчэ і па вайне, у 1950-я. Бараніну елі не толькі сваёй сям'ёй, але і раздавалі па кавалку, разам з адмысловымі памінальнымі булачкамі, на наступны дзень, на Дзяды, як міласціну жабракам. Але як пастваралі калгасы, то розніца паміж жабракамі і гаспадарамі знікла, а з ёй і гэтая

### «У гэты дзень усё такое смачнае было!»

— Верашчаку ў нас абавязкова варылі. Гэта былі рабрынкі пасечаныя, там многа было цыбулі. У нас муку не дабаўлялі да гэтага соуса. Падавалі на гарачае з тонкімі-тонкімі прэснымі блінамі. Што я памятаю: у гэты дзень усё такое смачнае было!

*Успаміны жыхаркі Наваградка 1943 года нараджэння, запісаныя Гражынай Харытанюк-Міхей*



**Дзяды ў Ракаве (Валожынскі раён).** Святочныя застоллі ладзіліся і на саміх могілках, каля магілаў, на пагорках, пад дрэвамі, якія лічыліся святымі, каля драўляных капліцаў, якія часам узнікалі на месцах паганскага культу. «Дзядоў» кармілі кашай, мёдам, яйкамі, куццёй і, вядома, частавалі гарэлкай. З гэтымі найбольш відавочнымі праявамі паганскага светапогляду актыўна змагалася Праваслаўная царква, але найбольш — Каталіцкая. З пераменным поспехам.

традыцыя, у якой бачыцца нават нешта падобнае на мусульманскі Курбан-Байрам. Можа, гэты звычай і быў некалі запазычаны ад татараў?

## Ноч пасля Дзядоў

Напрыканцы вячэры на свечку не дзьмулі, яе патрэбна было перавярнуць, каб ад воску сама пагасла, або патушыць пальцамі, а часам — хлебнай скарынкай ці тым самым шматфункцыянальным блінам. Існавала прыкмета: калі дым пойдзе ўверх — добра, а калі нахілена, асабліва ў бок дзвярэй, то ў сям'і нехта памрэ.

Затым прагаворвалі такія, напрыклад, словы:

Святыя дзяды!
Елі і пілі, ідзіце да сябе!

Цікавы прыклад заканчэння застолля прыводзіць Мітрафан Доўнар-Запольскі: «Гаспадар або гаспадыня, набраўшы поўны кубак вады, паліваюць ад стала да дзвярэй і гавораць: "Што не даелі,

▶ не дапілі, то ідзіце на папер на двор"».

Паводле павер'я, калі не спаць ноч пасля Дзедавай вячэры, то можна ўбачыць продкаў.

Недаедзеныя рэшткі пакідалі на стале да раніцы, бо верылі, што душы продкаў прыйдуць ноччу і будуць есці. Назаўтра ежу раздавалі жабракам, сіротам, пастухам, а аб'едкі пакідалі птушкам і жывёлам.

Пастухі, з якімі было прынята разлічвацца за гадавую працу акурат на Дзяды, выпраўляліся па вёсцы і, спыняючыся пад вокнамі кожнай хаты, пыталіся: «Гэй, гаспадыня! Ці пякла бліны? Прыслалі дзяды па бліны, свінкі па саланінкі, авечкі па яечкі, баранкі па соль, а кароўкі па сыр». І трэба было вынесці пастухам усё тое, што яны прасілі.

## Замест крупніку — добра запраўленае *le vin chaud*

Не грэбавалі адзначаць Дзяды і паны-шляхта, асабліва пасля выхаду славутай паэмы Адама Міцкевіча. Беларускі пісьменнік Альгерд Абуховіч, нашчадак італьянскіх графаў Бандынэлі, так прыгадваў парыжскую эміграцкую вячэру 1860 года: «Было гэта ў Францыі, з паміж маладзёжы я адзін быў з Беларусі, дык зладжыўся праект, што я павінен уладзіць трызну Дзядоў. Ахвоча на гэта прыстаў я і выступіў з пачастункам. Былі пячоныя гусі з грыбкамі, а замест крупніку — добра запраўленае *le vin chaud*».

У дадзеным выпадку крупнік — гэта ўжо не суп, а алкагольны напой з гарэлкі, мёду і спецый. Можна меркаваць, што ў дробнай шляхты ў сярэдзіне XIX стагоддзя ён паспеў зрабіцца часткай дзядоўскага меню. Ну і, вядома, нельга не прыгадаць, як у міцкевічаўскіх «Дзядах» душы памерлых дзяцей, якім усяго хапала пры жыцці, адказваюць на пытанне, якой жа стравай пачаставаць іх на святочнай вячэры. Яны просяць, каб на стале было некалькі каліўцаў гарчыцы: хто не зведаў горычы ў зямным жыцці, не будзе мець спакою ў небе. ◆


WIKIMEDIA COMMONS

**Ілюстрацыя да Міцкевічавых «Дзядоў»** Чэслава-Барыса Янкоўскага, 1896 год.

Табліца на могілках у Салечніках (Літва) — **тут у лістападзе 1821 года Адам Міцкевіч назіраў абрад Дзядоў.**


ФОТА ВЯЧАСЛАВА РАДЗІМІЧА, BELSAT.EU

Напярэдадні Дзядоў, у суботу **26 кастрычніка**, аўтар гэтага артыкула ладзіць майстар-клас па прыгатаванні традыцыйных страў, якія ў розныя часы і ў розных рэгіёнах асацыяваліся з Дзядамі. У праграме: клёцкі «з душамі», кнышы і бульбянікі (якія на захадзе Беларусі і на ўсходзе Польшчы часам так і называюць — дзядамі). Майстар-клас пройдзе на сядзібе Белых **«Марцінова Гусь»** (Валожынскі р-н, 49 км ад МКАД). Кошт удзелу (разам з пачастункам, які госці самі і прыгатуюць) — 30 руб.
Папярэдні запіс абавязковы. Пішыце на эл. адрас a.biely68@gmail.com, у Viber або WhatsApp + 375 29 613 7085




Каталіцкая царква актыўна змагалася са звычаем Дзядоў як з паганскім. Пра гэта пісаў Адам Міцкевіч у паэме «Дзяды»:

ГУСТАЎ
А веру, што народ здаўна захоўваў свята,
Ты падзяляеш? Ах, Дзяды — дзень памінання!
Скажы, чаму забараняеш гэта свята?

КСЁНДЗ
З паганскіх прымхаў, жахаў, невуцкіх паданняў
Дзяды бяруць пачатак. І касцёла ўлада —
Люд выхаваць і выбіць рэшты забабонаў.

ГУСТАЎ *(паказвае на зямлю)*
Вярні Дзяды.

КСЁНДЗ
Маўчы! Дзяды не свята, а начныя сходкі
На могілках ці на глухой паляне,
Дзікунскія абрады, чары, плёткі.

*Пераклад з польскай мовы Сяргея Мінскевіча*

**Ілюстрацыя да Міцкевічавых «Дзядоў»**
Чэслава-Барыса Янкоўскага, 1896 год.

WIKIMEDIA COMMONS



# Кнышы

## з дражджавога цеста

**Цеста:**

- 2 шклянкі мукі
- 30 г дражджэй
- 1 лыжачка цукру
- 3/4 шклянкі малака
- 2 яйкі + 1 асобны жаўток
- соль
- 3–4 сталовыя лыжкі топленага масла

Прасейце муку ў місу. Разатрыце дрожджы з цукрам, дадайце 2–3 сталовыя лыжкі малака, размяшайце з 2–3 сталовымі лыжкамі мукі, каб сфармавалася густая маса, пакіньце яе ў цёплым месцы на 15 хвілін, пакуль цеста не пачне падыходзіць. Дадайце рэшту мукі і малака, убіце яйкі, большасць масла, пасаліце. Старанна замясіце цеста, найлепш — драўлянай лыжкай, пакуль яно не зробіцца вельмі аднародным і эластычным, пры неабходнасці дадаючы крыху мукі. Прыкрыйце льняным ручніком або сурвэткай і схавайце ў цёплае месца прынамсі на 30 хвілін або пакуль яно не падвоіць аб'ём.

Падрыхтуйце начынку.
Раскачайце цеста, што падышло, таўшчынёй каля 1–1,5 см на стальніцы, пасыпанай мукой, і нарэжце на кружкі каля 10–12 см дыяметрам. Разрэжце кожны на 5 або 7 «пялёсткаў» (зрабіце адпаведную колькасць надрэзаў глыбінёй каля 3–4 см, ад краю ў бок цэнтра нажом, змочаным у алеі), каб сфармаваць «кветку». (У самым простым варыянце — нарэжце пласт цеста на квадраты каля 10–12 см і зрабіце надрэзы глыбінёй каля 4–5 см, ад краю ў цэнтр квадрата.)
У цэнтр кожнай «кветкі» пакладзіце начынку. Выцягніце «пялёсткі» і згарніце іх у бок цэнтра «кветкі», каб запячатаць яе як канверт. Пакіньце «канверты» ў цёплым месцы на 7–10 хвілін. Зашчыпайце краі, каб цалкам схаваць начынку. Раскладзіце кнышы па змазанай тлушчам блясе, змажце жаўтком.
Выпякайце ў духоўцы, папярэдне разагрэтай да 180˚С, 30 хвілін або да залаціста-карычняватага колеру. Для лепшага выніку паліце ўжо запечаныя кнышы топленым маслам і вярніце ў гарачую духоўку на 1 хвіліну.
Падавайце самастойна або з салатамі з садавіны, грыбной поліўкай, баршчом або мясным булёнам.
Для кнышоў з салодкай начынкай павялічце колькасць цукру ў цесце. Іх можна падаваць з кавай або гарбатай.
З такой закладкі атрымліваецца звычайна 12–16 кнышоў.

### Начынкі кнышоў

**Са смажанай цыбулі:**

- 3 цыбуліны
- 3 сталовыя лыжкі алею
- соль, перац

Абабраць цыбулю, нарэзаць маленькімі кубікамі і падсмажыць на алеі да карычнявата-залацістага колеру, пастаянна перамешваючы. Дадаць соль і перац.

**З квашанай капусты:**

- 300 г квашанай капусты
- 1 малая цыбуліна
- 1 сталовая лыжка алею
- соль, перац на смак
- 2 яйкі, звараныя ўкрутую

Дробна пакрышыць квашаную капусту і зварыць яе ў невялікай колькасці вады, каб выкіпела лішняя вадкасць. Пакрышыць цыбулю і падсмажыць на алеі да карычняватага колеру. Змяшаць капусту і цыбулю, дадаць соль і перац, тушыць каля 10–15 хвілін. Пакрышыць кубікамі крутыя яйкі і дадаць у сумесь.



ФОТА ВЯЧАСЛАВА РАДЗІМІЧА, BELSAT.EU

## Чым шляхта ад мужыкоў розніцца?

# «Мужыкі галосяць, а мы не»



**Памяць пра беларускае шляхецтва не знікла дасюль. Нават людзі, народжаныя ў другой палове XX стагоддзя, не кажучы пра старых, сведчаць адно і тое ж: «У нас была вёска, там шляхта жыла, яны рэзка ад усіх адрозніваліся, нават моваю», «Гэта зусім іншая культура». Якімі ж былі яны, шляхціцы і шляхцянкі XX стагоддзя? Расказвае пісьменніца Таццяна Барысік, якая паспела пабачыць апошняе пакаленне нашай шляхты на ўласныя вочы.**

— Што лежыцё? Не сварыцеся! Наеліся зямлі? Усяго вам хапае? І ты ціха ляжыш, і ты... — гэтак, прыйшоўшы на кладбішчы, некалі вітала сваіх продкаў і аднавяскоўцаў адна мая штукаватая суседка, таксама ўжо нябожчыца. Яны сапраўды ляжалі ціха. Ды і пры жыцці пра іх нідзе асабліва было не чуваць.

Дробную шляхту пахавалі задоўга да яе фізічнага скону. Чалавек, які не сутыкнуўся з яе нашчадкамі ва ўласным жыцці, лічыў, што гэты немалы слой колішняга грамадства канчаткова згінуў калі не ў 1864-м, дык у 1917-м дакладна. Такіх вёсак, засценкаў існавала па некалькі ў кожным сельсавеце, але пра іх гісторыю, асаблівасці побыту нідзе не пісалі, не распавядалі ані ў друку, ані на ўроках, ані ў размовах на людзях. Спярша было небяспечна, потым неяк не прынята, пасля мо ўжо і хацелі б распавесці, але толкам нічога не ведалі.

Мне пашчасціла правесці ладную частку дзяцінства і маладосці сярод апошняга пакалення дробнай шляхты: ля бабулі, яе аднавяскоўцаў, суседзяў, сяброў, жыхароў вёсак Круглоніва, або Кругланіва (некаторыя вымаўлялі гэтак), і суседніх Фартунаў Бабруйскага раёна. Яны ўмелі распавядаць, а мне хацелася слухаць і назіраць.

### Шляхецкія хаты

Якімі ж былі яны, апошнія шляхціцы і шляхцянкі XX стагоддзя?

Найперш заможнымі і гаспадарлівымі. Зразумела, што лёс складаўся па-рознаму, але сярэдні ўзровень дабрабыту быў усё ж вышэйшы, як у суседніх сёлах. Амаль усе хаты былі вялікімі, з печкамі цаглянымі ад самай падлогі, высокай столлю, ліштвамі, аканіцамі, з драўляным мостам нават у сенцах, з чатырохскатнымі, крытымі гонтаю стрэхамі. Хлявы, ток, варывенькі і свірны ўрослыя ў зямлю ад часу, збудаваныя з тоўстых бярвёнаў. Гаспадарчыя пабудовы звычайна аддзеленыя ад чалавечага жытла, адгароджаныя плотам і месцяцца за хатай.



**Таццяна Барысік.** Гэту шафу ў Першую сусветную яе сям'я абмяняла на хлеб.

Бабуля з дзядулем пасля вайны збудавалі новую хату наогул цераз вуліцу ад хлява, свінуха і курасадні. Сады, гародчыкі пад вокнамі хат з кветкамі, кустоўем парэчак і агрэсту. Вялізныя смароднікі — з’ява другой паловы XX стагоддзя. Ягады з іх, як тыя агуркі ў Шклове, абіралі па два тыдні, пасля прадавалі ў горадзе, здавалі перакупшчыкам, пры патрэбе выкарыстоўвалі як дробны хабар доктару ці супрацоўніку якой канторы.

### Лапці

Уражвалі мяне таксама старыя фотаздымкі на сценах. У нас былі нават партрэты бабулі і яе бацькі, намаляваныя дзядулем. Па фотаздымках пачатку XX стагоддзя немагчыма дакладна вызначыць, хто на іх — вяскоўцы, местачкоўцы, гараджане. Ніякіх світак, вышываных фартухоў, спалоханых позіркаў з-пад насунутых на лоб хустак. Нават замужнія, сталыя ўжо кабеты не фатаграфаваліся ў хустках, пра дзяўчат няма чаго і казаць! Косы, валасы скручаныя на патыліцы ці роўна падрэзаныя па плечы, нават з моднаю грыўкаю, аздобленай бліскучымі зажымамі.

Ніхто не ў лапцях. Лапці — гэта тое, чым заўжды папракалі дробную шляхту. Бабуля ўжо не памятала, каб з іхняй сям’і хто ў іх хадзіў. Хадзілі басанож, у ботах, балетках, чаравіках і шлэпах.

Апошнія шляхцюкі і шляхцянкі засталіся гэткімі ж, як іхнія бацькі і дзяды. Ля хаты малыя ўнукі маглі бегаць басанож, але, ідучы ў чужы двор ці суседнюю вёску, чулі загад: «Абуйце хоць шлэпы якія, а то скажуць — у іх на нозі нічога няма!». У маладосці ніводзін мой ад’езд з вёскі ў Магілёў не абышоўся без бабулінага: «Пакажы, як ты ўстроілася» — і далейшых ухвальных каментароў. Як былі апранутыя дзеці і ўнукі суседзяў, таксама заўважалася і абмяркоўвалася. Старыя і самі заўжды любілі прыбрацца ці, інакш кажучы, устроіцца (ад слова «строй»), ідучы ў людзі ці якую бяседу. Але харошае адзенне шкадавалі, баючыся памазаць, дома — і так «добра будзе».

### Людзі пісьма

Бабуля казала, што яе бацькі, 1887 і 1902 гадоў нараджэння, умелі чытаць і пісаць. Прабаба нават адвучылася ў школе чатыры гады, а пасля яе бацька, мой прапрадзед, сказаў: «Хопіць навукі». Ёй было наканавана ўзяць прымака ў хату, застацца пры бацьках працаваць на гаспадарцы. Але надышлі іншыя часы.

**Высветлілася, што выклікі з інстытута скрала мясцовая паштарка з крыўды, што яе сын ці брат, у адрозненне ад сірот-аднавяскоўцаў, не паступіў**

Ужо ў 30-я сваіх унукаў, маю бабулю і яе братоў, прадзед вучыў, нягледзячы на тое, што ▶

засталіся сіротамі. Параіў унучцы пакінуць дашкольнае аддзяленне педтэхнікума і перайсці на рабфак, а пасля ў настаўніцкі інстытут, бо «дашкольнікі — не пачотна». Дакараў, калі выклікі з медыцынскага і настаўніцкага інстытутаў доўга ішлі, вырашыўшы, што ўнукі не паступілі. Пазней высветлілася: дасланыя выклікі скрала мясцовая паштарка з крыўды, бо ці то яе сын, ці то брат таксама некуды паступаў, але, у адрозненне ад сірот-аднавяскоўцаў, не паступіў. Вучыцца хацелася многім.



**Бабуля Аляксандра Клімовіч**, яе муж, дзядуля аўтаркі — Палавінка Гурый, яе маці, прабаба Марыя Клімовіч. 1940 год.

## Мова і імёны

У Круглоніве даўней жылі праваслаўныя, большая частка Фартунаў лічылася каталікамі. Фартунскія каталікі XX стагоддзя, паводле бабуліных словаў, адрозніваліся тым, што па памерлых правілі трыццаць дзён, а не сорак. У Фартунах жылі не толькі Алесі ды Марыі, але і Адальфіны, Міхаліны, Гвідоны, Франусі ды Леакадзіі, некаторыя нават палякамі сябе лічылі. Але і праваслаўныя, і каталікі цалкам маглі быць нашчадкамі ўніятаў. Бо пасля скасавання ўніяцкай царквы вернікаў гвалтам пераводзілі ў праваслаўе. А ў 1905 годзе расійскія ўлады дазволілі пераходзіць з праваслаўя ў іншае веравызнанне, і некаторыя колішнія ўніяты, некалі гвалтам загнаныя ў праваслаўе, ішлі ў каталіцтва.

Беручы шлюб, звярталі ўвагу не на веравызнанне, а на пасаг і паходжанне. Міжканфесійных шлюбаў, тым больш у XX стагоддзі, было багата. Аднак некаторыя нашыя сучаснікі перакананыя, што шляхцюкі вызнавалі толькі каталіцтва, на поўным сур'ёзе прамаўляюць «Шляхта не працуе», распавядаюць показку пра шляхціца, што ў воз гною шаблю ўтыркаў. Што тут дзівіцца? Старое пакаленне адышло, архіўныя дакументы ці навуковыя працы — справа ўсё ж такі спецыялістаў. У навучальных праграмах і ў інтэрнэце прасцей знайсці інфармацыю пра буйных магнатаў часоў Рэчы Паспалітай, чым пра штодзённы побыт дробнай шляхты пазнейшага часу.

А вось розніца ў мове паміж колішнім засценкам і сялом з адлегласцю ў адзін-два кіламетры — не міф. Ды нават і ў канцы XX стагоддзя, услухаўшыся ў мясцовыя гаворкі, гэтага хіба глухі не пачуў бы. Розніцу ў вымаўленні між сваім і суседнім паселішчам шляхцюкі звычайна тлумачылі іхнім мужыцкім паходжаннем. Пісьменніца Алена Васілевіч у аповесці «Расці, Ганька» так пісала пра родную Случчыну, супрацьпастаўляючы «мужыцкае» мястэчка свайму шляхецкаму засценку:
«У Паўстыні наогул усе гавораць смешна — “сакаюць” (бо, вядома, мужыкі). І кажуць не “яшчэ”, а “шчэ”, і боты завуць чобатамі, а світку — халацікам...»

## Ведама, мужыкі

«Конь з валом не часаўся, а шляхціч з мужыком не знаўся». Людзі доўга памяталі, хто яны і адкуль. Недзе на мяжы 70-х і 80-х адна фартунская бабка не пайшла на ўнукава вяселле, бо той «мужычку ўзяў». Дзядок-аднавясковец, праціраючы чарачку, прыгаворваў: «Паводле нашага шляхетнага звычаю». Выпадкі, калі ў сварцы адна суседка другую мужычкаю

абзывала, неаднаразова здараліся нават і ў 90-я. Дазнаўшыся пра гвалт з ахвярамі ў «мужыцкай вёсцы» ці пасёлку, старыя доўга разважалі над навіною, а пасля рабілі выснову: «Ведама, мужыкі».

Аднойчы, надта ўсердзіўшыся на суседку праз вуліцу, з якой на той час яна была ў стане халоднай вайны, бабуля ў размове са мною прамовіла: «Вера — мужык». Тая сапраўды раней жыла недзе на пасёлках непадалёк, а хату праз вуліцу купіла ўжо пасля.

### Практычнасць і павага да асабістага

Нашчадкі дробнай шляхты ў XX стагоддзі, гэтак жа як іхнія бацькі і дзяды, жылі з земляробства ў аддаленай вёсцы, але азначэнне «простыя людзі» падыходзіла ім менш за ўсё. Не магу ўявіць, каб, закалоўшы свінчо, яны гулялі ўсёй вёскаю за адным сталом ці разносілі свежыну па хатах. Каб на людзях за бяседным сталом мацюкаліся ўголас ці пад гармонік спявалі непрыстойныя прыпеўкі. Называлі старэйшых за сябе памяншальнымі імёнамі, а гасцей частавалі сырымі яйкамі і ўчорашнім супам, у якім лыжка стаіць. Каб зранку пасварыліся-пабіліся, а ў абед ужо памірыліся-абняліся і разам сто грамаў выпілі. Такога ў нас я не чула, не бачыла. Светапогляд і ментальнасць былі прасякнутыя павагаю да ўсяго асабістага, не толькі свайго, але і чужога: асабістай прасторы і чалавечай годнасці, уласнай маёмасці і працы.

Практычнасць, ашчаднасць, уменне абыходзіцца з грашыма заўжды шанавалі. Яшчэ прапрадзедава «Скупы — не дурны» гучала штодня. Аднавяскоўца прадражнілі Дудкаю. Чаму Дудкаю? «Бо ўсё прасвішча!»

Цягацца па чужых сядзібах, аказваючы дробныя паслугі, замест таго, каб пільнавацца свайго двара і рабіць сваю работу, мог хіба толькі пітушчы або блазнаваты. Ніхто дарэмна працаваць на чужых людзей не будзе, за ўсякую падмогу, паслугу ці рэч трэба заплаціць або ўдружыць у адказ.

## Чым большае гаўно — тым больш сябе ставіць

Талака наогул у маладосці падавалася мне прыдумкаю фалькларыстаў. Ніколі не чула ад старых, каб некаму такім чынам будавалі новую хату. Затое чула пра шкляныя бутэлькі, якія незадаволеныя аплатаю цесляры ды муляры замуроўвалі ў кутах хаты. Пасадка ці капанне бульбы гуртам таксама ніколі не былі талакою: патрабавалі і грашовага разліку, і не абы-якога застолля са страў, якія гаспадары наўмысна ашчаджалі для такіх выпадкаў.

Не хвалі сябе сам, няхай людзі пахваляць — гэта таксама не пра шляхту. Ім пасаваў выраз «Я ж не абы-што!». У гэтым быў пераканаў кожны, мала таго, імкнуўся давесці гэта суседзям, выглядаць трохі багацейшым і шчаслівейшым, чым быў насамрэч. Усякая праўдзівая ці ўяўная ганьба накшталт здохлага цяляці, беспрацоўя ўнукаў ці разводу дзяцей хавалася ад старонніх вачэй. Але вось калі ўжо ў хаце два халадзільнікі стаяць ці сын машыну купіў — пра гэта мусілі ведаць усе. Пахваліцца і паказаць сябе яны любілі. Аднак празмерная, хлуслівая ці занадта навязлівая пахвальба таксама асуджалася. Выслухоўваючы ▸



Ліштвы і вінаград у шляхецкай хаце.

такое ад іншых, шляхцюкі пасміхаліся, а прышкрэбаўшы дадому, казалі родзічам: «Чым большае гаўно — тым больш сябе ставіць».

Беднае застолле з любой нагоды ганьбіла гаспадара. Бяседа патрабавала паважнага стаўлення да госця. Людзей трэба прыняць. Людзі глядзяць па стале, а не па вуглох. Госцю з далёкага краю, чаканаму ці неспадзяванаму, выставяць на стол усё найлепшае, запросяць да стала аднавяскоўца, які завітаў выпадкова, загадаўшы маладзейшым: «Падай цёці стула». Але наўмысна ісці на бяседу, калі цябе туды не запрасілі або запрасілі, ды не так, як трэба, тым больш і валачы з сабою радню, было не прынята. «Па малако сёння не едзь, бо Ілля — у іх кірмаш — і свае госці», — адгаворвала бабуля ад паездкі ў суседнія Дворышчы.



**Прадзед Мікалай Клімовіч** з жонкай Марыяй і сястрою. 1919–1920 гады.

### Паданні і забабоны

Мясцовыя сямейныя гісторыі і паданні таксама мелі адмысловую скіраванасць. Часцей пра тое, як «была ў нас залатая пяцёрка ці дзясятка», «як я малы ў печы керанкі паліў», «як дзядзька Петра старую хату разбіраў, а зверху гаршчок з золатам зваліўся, дык ён усім дзецям машыны пакупляў». Пэўна, не было ніводнага ўнука, які б у маленстве не спрабаваў адшукаць скарб на дзедавай сядзібе. Старыя адно пасміхаліся: яны дакладна ведалі, куды колішняе багацце падзелася. Але ж хіба дрэнна, калі ўнукі лішні раз гарод ці смароднік перакапаюць?

Показак пра чарцей і злога пана не было, але гэта кампенсавалася расповедамі пра разнастайныя ведзьміны чары і іх наступствы: чорны пясок на парозе, жменьку клубніц у мяшочку, знойдзеных у садзе напярэдадні смерці гаспадара. Амаль усе бабулі незалежна ад адукацыі ці веравызнання ведалі замовы і забабоны на любы выпадак жыцця. З'язджаючы ў дарогу, трэба было перакуліць вілкі ля печы і тройчы прамовіць «Шчаслівага пуці», каб знайсці згубленую рэч — утыркнуць нож у вушак дзвярэй.

### «Гэта ж трэба — за лапату ўзяўся, бацьку роднаму магілу капаць!»

У вёсцы святкавалі Вялікдзень і Каляды. У святыя вечары нельга было нічога рабіць, пад асаблівай




**На шляхецкім гарышчы.**

забаронай — вязанне і шыццё. Калі зашываць нешта ўсё ж такі давялося — тады неабходна было на Хрышчэнне зрабіць некалькі швоў на тканіне і спаліць яе. Верылі, што, пахадзіўшы ў каляднай чарадзе, перакупляеш у бога жывёлу і яна хварэць не будзе.

А вось наконт Купалля... У Круглоніве Купалле было проста адным з царкоўных святаў. Згодна з народнымі звычаямі яго не святкавалі. Бабуля, з якой гаварылі пра ўсё на свеце, ніколі не ўспаміналa ані вогнішча, ані вянкоў на Купалле, адзінае зазначала: «Папараць — не цвіце, бо размнажаецца спорамі».

Што наконт вяселляў у вёсцы — дык я ўжо іх не паспела пабачыць, вакол толькі паміралі. Але старэйшыя згадвалі, што калісьці кожны госць мусіў прынесці з сабою стравы на трох-пяці талерках, нявеста на працягу двух вясельных дзён хадзіла ў шлюбным убранні, ніякіх хустак ёй не завязвалі, вялікая колькасць падушак была прычынай пасватацца да дзеўкі. Бацькі прыгадвалі, як падчас іх вяселля «лавілі зайца»: аднавяскоўцы не проста перагарадзілі шлях, а пад вярбою паставілі стол, накрыты белым абрусам, спярша дасталі сваю пляшку гарэлкі і толькі пасля запатрабавалі ў вясельнай дружыны паставіць пляшкі на ўсе чатыры вуглы.

Пра пахаванні я і мае аднагодкі ўжо ў маладосці і дзяцінстве ведалі куды больш. У нашых мясцінах грунтоўна клапаціліся пра годны адыход у лепшы свет. Рыхтавалі тканіну і дошкі на труну, збіралі грошы, гналі сваю гарэлку і запасілі купленую. Хацелі, каб і стол па іх справілі багаты, і пахавалі па тутэйшых законах, і людзі не абгаворвалі, кажучы: «Рабіў, рабіў — а лапы склаў і пахавалі як сабаку». Здаралася, што, падрыхтаваўшыся як след, жылі на зямлі па 20—25 гадоў. Самагон, гнаны на смерць, вычыхваўся, а знаёмы цясляр, што ўмеў рабіць труны, слеп ці паміраў.

Пахавальны абрад істотна адрозніваўся ад навакольных сёлаў. Першае, што казала бабуля: «Мужыкі галосяць, а мы не. Як завядуць на кладбішчы, дык ажно на вуліцы чуваць». «Пераасываем гора моўчкі. Як па чарзе галосяць, дык часам жаласна, часам смешна», — гэтак каментавалі землякі і аднавяскоўцы.

«У нас такі закон, — вучыла мяне бабуля, — свае не мыюць, свае не капаюць, свае ►

не выносяць. Калі хочаш каго з другой дзярэўні на сталы пазваць, трэба на кладбішчах падысці і сказаць».

Сваякі нябожчыкаў, каторыя ці то наўмысна, ці то па няведанні парушалі нешта, — асуджаліся горш чым якія зладзеі ці п'яніцы. «Гэта ж трэба — за лапату ўзяўся, бацьку роднаму магілу капаць! Добра, што тады яго з нашай пляменніцай не пазнаёмілі!»

На жалобны стол ніхто не ішоў з пустымі рукамі — абавязкова меў далікатна закручаную ў газету пляшку крамнай ці сваёй. Калі ішлі ўдвох — прыносілі і нешта з закускі. Нягледзячы на тое, што звычайна ў спіртным недахвату не было, паводзілі сябе на такіх бяседах вельмі прыстойна. Любыя спевы падчас пахавання і памінання забараняліся. «Спяваў на жалобным стале» — гэта як прысуд. Гэткім чынам узгадвалі аднаго такога «спевака» нават праз 20 гадоў пасля ягонай смерці.

Жанчыны з нябожчыкавай сям'і, асабліва выходзячы на людзі, і ў XXI стагоддзі павінны былі завязваць чорныя хусткі. На саракавіны і гадавіны запрашалі словамі: «Просім на жалобны стол», і кожнага асабіста. Запрашэнне, перададзенае праз кагосьці, лічылі непавагаю і маглі не пайсці зусім, нягледзячы на жаданне добра пад'есці і выпіць. Старым, каторыя ўжо не маглі хадзіць, абавязкова перадавалі трохі ежы на сподачку з жалобнага стала. Раніцай наступнага дня пасля пахавання, на Радаўніцу налівалі гарэлку ў чарачку для нябожчыкаў, клалі ежу, але самі на могілках не елі.

### Бабуля

Мая бабуля Аляксандра Мікалаеўна Клімовіч, 1920 года нараджэння, працавала



Бабуля **Аляксандра Клімовіч**. 1939 год.

настаўніцай біялогіі і хіміі, пайшла замуж перад вайною. Перацягнула на бацькаўшчыну мужа і пражыла ўсё жыццё, дзе нарадзілася. Дзявочае прозвішча яна захавала, гэтак жа як і сядзібу, і амаль усё нажытае продкамі. Усё, апроч залатой пяцёркі і вянчальных пярсцёнкаў сваіх бацькоў. Спярша, патрабуючы тую пяцёрку, яе ставілі да сценкі партызаны. Аднак яна пажалілася нейкай сваячцы камандзіра атрада. Тая прысароміла словамі: «Яны ж сіроты. У яе муж на фронце». Нарабаванае кінулі на стол з папрокам: «На! Не паспелі зброю купіць!»

Пазней бабуля аддала сама і пяцёрку, і пярсцёнкі меншаму брату Костусю, калі таго забралі ўжо немцы, спадзеючыся, што брат зможа адкупіцца. Але цуду не адбылося: некаторыя знаёмыя, забраныя разам з ім, павярталіся, а Костусь — не. Бабуля казала, што, каб тады зрабіла інакш, — дакарала б сябе ўсё жыццё. У старасці яна дужа журылася, што няма родных братоў побач з ёй.

Цудоўна разбіралася ў сваяцкіх сувязях, прыгадвала жывых і памерлых ажно да чацвёртай стрэчы і з сумам прамаўляла: «Звялося наша вялікае кодла». Гэтак жа, як і яе дзед, была працавітай, ашчаднай, умела за сябе пастаяць. Раіла мне спяваць, як на душы кепска, і суцяшала словамі: «У Бога дзён многа». Тлумачыла мне малой, што зваць яе можна Шурай, Сашай або Алесяй. Ішла праз вуліцу, замест кіёчкаў абапіраючыся на матыкі, каб думалі, што не хварэе, а рабіць ідзе. Я да сёння часам гляджу на свет яе вачыма. Бабулі на свеце няма ўжо пятнаццаць год.

## Бабуля раіла мне спяваць, як на душы кепска

Ад прапрадзеда да бабулі і дзядулі — усе мае продкі пахаваныя на вясковых могілках разам з раднёю і землякамі. Я ім нават зайздрошчу, калі чую пра сучасныя гатункі яблыняў, што родзяць толькі пяць-шэсць гадоў, ці бачу гарадскія могілкі, падобныя да спальных раёнаў.

Клімовічы, Леановічы, Туркі, Глебкі, Замбжыцкія, Шыкеры, Кожычы, Грыбоўскія і Сцепановічы ляжаць непадалёк ад сваіх спусцелых сядзібаў, побач з тымі, з кім жылі, працавалі, сварыліся за зямлю і гулялі на бяседах. Успаміны маёй маладосці — толькі слабое водгулле спрадвечнай спадчыны, іхніх словаў і лёсаў. І як па мне, дык без іх і Беларусь — не Беларусь. ◆

# Насі

## Беларусь з сабой

Набыць футболкі гэтых ды іншых серый можна ў крамах:

**Мінск**, «Мой модны кут» (Цэнтр Маскоўска-Венскі, павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро Якуба Коласа, пр. Незалежнасці 58)
**Мінск**, Symbal.by (пр-т Машэрава, 18, з 10:00 да 20:00 без выхадных)
**Мінск**, «Рагна» (вул. Сухая, 4)
**Мінск,** Vishivanka.by (ГЦ «Няміга-3», цокальны паверх, 73 павільён)
**Брэст**, «Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
**Гродна**, «Цудоўня» (вул. Кірава, 3)

Або замаўляйце праз **Symbal.by**.

# «Гэта не ўлада, калі яна знішчае сваіх людзей ні за што»

## Пра што партызаны пісалі ў сваіх дзённіках




**Васіль Корж** быў праўдарубам і, пасля таго як у 1938-м вытрымаў месяц у турме НКВД ды так і не «сознался» ў шпіянажы на Польшчу, нічога не баяўся.

**Дзённікі партызан і падпольшчыкаў? Не ўсім верыцца, што такія людзі дазвалялі сабе весці запісы. Яны ж маглі сябе выкрыць, калі б напісанае трапіла ў рукі ворага ці здрадніка. Але такіх дзённікаў захавалася шмат, і ў іх можна знайсці шмат праўды пра рэаліі вайны, піша Антон Рудак.**

У дзённіках, у адрозненне ад газет ці рапартаў, людзі пісалі праўду. Яны нібы выгаворваліся самі сабе. Прыгадваюцца цікавыя дзённікі палітыка Канстанціна Езавітава, менскага школьніка Дзмітрыя Сямёнава, падлетка-партызана з Самахвалавіч Браніслава Шпакоўскага, кіраўніка падпольнай групы ў Калінкавічах Канстанціна Ярмілава, партызанскага камандзіра, а пазней пісьменніка, сябра Быкава, дысідэнта Аляксея Карпюка...

Пасля вайны тая праўда часам калола вочы. Таму пераважная частка дзённікаў перыяду нацысцкай акупацыі надалей пыліцца ў фондах Нацыянальнага архіва. Спецыфіка камплектавання абумовіла аўтарства сабраных тут запісаў — пераважна гэта партызаны і падпольшчыкі. Пра цікавыя лёсы шараговых падпольшчыкаў, брата і сястры Якубеняў, я ўжо распавядаў у «Нашай гісторыі» № 3 за 2018 год (артыкул «Жыццё і смерць на мяжы з Рэйхам»). Але не менш цікавымі бывалі і дзённікі партызанскіх камандзіраў.

### «Усё начальства чамусьці аказваецца баязліўцамі»

Іван Купрэеў з вёскі Зборск Асіповіцкага раёна пачаў весці дзённік у першы дзень вайны. У той час ён вучыўся ў настаўніцкім інстытуце ў Рагачове і апісваў рэчаіснасць: мітынгі, святломаскіроўка, капанне супрацьтанкавага рова, паніка падчас эвакуацыі, дэзерцірства...

Купрэеў крытыкаваў партыйныя вярхі: «Усё начальства ўвогуле чамусьці аказваецца ў большасці выпадкаў баязліўцамі, паводзіць сябе ганебна цяпер». У той жа час юнак пераасэнсоўваў многае з таго, чаму раней верыў. Гітлераўская армія, на ягоную думку, аказалася на самай справе

не зграяй зброду, а небяспечным ворагам, перамога над якім будзе патрабаваць вялікіх высілкаў і ахвяраў.

Захаваліся ў яго дзённіку і сведчанні пра дзейнасць дыверсантаў — рэальных ці ўяўных: «Бачыў, затрымалі чалавека старога, з дагледжаным тварам і ўжо падсівелымі вусамі ў форме маёра РСЧА. Мабыць, шпіён і рускі белагвардзеец. Затрымліваюць часта дыверсантаў, адзін залез у падвал Дома піянераў, страляў. У падвал кінулі некалькі гранат. Нягледзячы на ачапленне, яму ўдалося выслізнуць».

Купрэеў дапускаў непрыхільныя выказванні пра яўрэяў, абвінавачваючы іх у баязлівасці: побытавы антысемітызм уласцівы большасці аўтараў дзённікаў з Усходняй Беларусі. У той жа час асоба юнака была прадуктам савецкага выхавання і рускай культуры. Рыхтуючыся да сыходу ў партызаны, Купрэеў адзначае: «У адборы рэчаў патрэбна прадуманасць. Не хацелася развітвацца з Фетам. Лермантава ўсё ж такі захапіў з сабой».

Аўтар дзённіка піша: «Я хацеў змяніць рускую мову тваю [дзённіка] на беларускую, родную, але ў сувязі з тым, што зараз разам з германскім нашэсцем у Беларусь вярнулася ўсё нацдэмаўскае здрадніцкае ахвосце, якое выганяе рускую мову з ужытку... [далей частка тэксту, на жаль, страчаная]», — аўтар вырашыў, што працягне дзённік па-руску.

Апошнія запісы прысвечаныя стварэнню і нядоўгай баявой дзейнасці падпольнай арганізацыі ў Зборску. Абрываецца дзённік увесну 1942 года: падпольшчыкаў выкрылі, а Іван Купрэеў загінуў.

### «Нашы вашых пераловяць»

Васіль Корж, народжаны ў 1899 годзе ў вёсцы Хорастава на Старобіншчыне, на момант пачатку нямецка-савецкай вайны быў вядомы як удзельнік партызанскага руху ў Заходняй Беларусі ў 1921–1925 гадах і грамадзянскай вайны ў Іспаніі ў 1936–1939-х. У ліпені 1941-га ён зрабіўся камандзірам аднаго з першых партызанскіх атрадаў на Палессі.

Для запісаў Корж выкарыстоўваў нататнік у скураной вокладцы з металічным замком і надпісам *Tagebuch*, здабыты ў якасці трафея. Дзённік распачынаецца запісам пра баі падчас абароны Пінска (запіс ад 4 ліпеня 1941 года). Вартыя ўвагі першыя назіранні за немцамі: як яны прызначаюць старастаў з ліку мясцовых жыхароў, раздаюць бясплатна соль, хаваюць ►





**Рагачоў улетку 1941 года.** Такім яго бачыў Іван Купрэеў.

забітых партызанамі салдат: «Пахаванні, адзначаюць, былі вельмі добрыя, з папом. Немцы казалі... мы хутка прывязём сваіх партызанаў з Заходняй, яны вашых пераловяць».

Корж занатоўвае таксама думкі людзей пра савецкую рэчаіснасць.

Вось селянін з Заходняй Беларусі кажа пра сваё бачанне становішча ва Усходняй Беларусі: «Там, дзе былі бальшавікі, не засталося ніводнага мужыка, каля мяжы ўсіх пабілі. Хіба гэта ўлада? Так, гаворыць, робіць цяпер Гітлер, расстрэльвае людзей ні за што. Гэта, кажа, не ўлада, калі яна знішчае ні за што сваіх людзей».

Вось у вёсцы Залючыцы Жыткавіцкага раёна партызаны не бачаць ніводнага мужчыны. Пытаюцца ў жанчын. Тыя расказваюць, што ўсіх мужчын «забралі гадоў з 5–3 таму».

Піша Корж і пра ўласнае стаўленне да сталінскіх рэпрэсій: «Я прыйшоў да пераканання, што столькі праціўнікаў савецкай улады не было і не магло быць, інакш яна не трымалася б і не мела такіх поспехаў». Прычынай жа рэпрэсій ён называе шпіёнаманію і недавер.

Атраду Каржа даводзіцца сутыкацца з калабарантамі: солтысамі, бурмістрамі і паліцэйскімі. Іх лёс вырашаецца ў залежнасці ад сітуацыі: часта паліцэйскіх, якія яшчэ не паспелі актыўна ўзяцца за справу, проста раззбройваюць. У мястэчку Пагост бургамістр быў нават узяты ў атрад, бо аказаў партызанскай групе дапамогу (запіс ад 18 мая 1942 года). Але найбольш актыўных памагатых нацыстаў чакала смерць: ляснік, які выдаў партызан немцам, што зладзілі на іх засаду, на загад камандзіра быў утоплены ў рацэ (запіс ад 23 мая 1942 года).





**Канстанцін Казакоў** стаў камандзірам партызанскага атрада ў 23 гады.

## «Прывезлі 16 парсюкоў»

Канстанцін Казакоў нарадзіўся ў 1918 годзе. Падчас акупацыі, хоць зусім юны, ён быў камандзірам партызанскага атрада імя Суворава брыгады «Савецкая Беларусь» Брэсцкай вобласці. Пра ягонае даваеннае жыццё вядома няшмат: Казакоў служыў пагранічнікам і ў 1941-м трапіў у акружэнне. Пры перавозцы з Менска ў Германію пад Беластокам ён здолеў уцячы.

Партызаны ў ваколіцах Белавежскай пушчы не заўсёды маглі спадзявацца на падтрымку мясцовых людзей — так, напрыклад, было ў роднай вёсцы каталіцкага святара і палітыка Вінцэнта Гадлеўскага, што ў цяперашнім Свіслацкім раёне: «Народ у большасці ў вёсцы Шурычы настроены супраць партызанаў. Пры з'яўленні ў вёсцы [партызанаў] антысавецкія элементы выбягаюць з хат на вуліцу і падымаюць свіст, крык, звон і ўцякаюць у пастарунак заяўляць немцам пра з'яўленне партызанаў» (запіс ад 24 чэрвеня 1943 года). Магчыма, людзі проста баяліся партызанскіх дыверсій, якія спрычынялі нямецкія рэпрэсіі. Напрыклад, 11 ліпеня 1943 года ў 2.30 уначы атрад Казакова здзейсніў выбух на чыгуначным палатне на перагоне Чаромха — Гайнаўка каля Арэшкава, а ўжо ў 8.00 уранку немцы спалілі недалёкую вёску Клепачы разам з насельніцтвам.

Немцаў вяскоўцы таксама ненавідзелі — толькі абіралі пасіўныя спосабы супраціву, сабатаж: «У мястэчку Хомск сяляне разбіраюць усе хаты, прыдатныя для размяшчэння нямецкіх гарнізонаў» (запіс ад 9 лістапада 1943 года).

Камандзір атрада імкнуўся з мясцовым насельніцтвам сябраваць, але часам для падтрымання дысцыпліны і караў: «Арыштаваў і пасадзіў на суткі селяніна за тое, што мяняў з партызанамі гарэлку на сала» (запіс ад 24 сакавіка 1944 года).

**«Партызан Баланец часта марыць: вось бы паслухаць санату Бетховена»**

Актуальнымі заставаліся праблемы марадзёрства і непрыстойных паводзін: «Прыбыў з задання кам. аддзялення Гамошкін. Задання не выканаў. Спачатку займаўся п'янкай і [...] з жанчынамі. За невыкананне задання

Вядзенне дзённікаў было пад нацысцкай акупацыяй Беларусі даволі распаўсюджанай з'явай як сярод актыўных удзельнікаў вайны з усіх бакоў канфлікту, так і сярод цывільных. Гэта была частка тагачаснай культуры, яна знайшла адлюстраванне нават у мастацкай літаратуры. Паводле сведчанняў сучаснікаў, адным з найбольш папулярных мастацкіх празаічных твораў пад нацысцкай акупацыяй быў «Дзённік Ів. Ів. Чужанінава» аўтарства вядомага пісьменніка-сатырыка Лявона Крывічаніна (Савёнка). Гэты «дзённік» у сатырычнай форме апісваў жыццё жыхара акупаванага Менска, паказанага дзівакаватым філосафам-эгаістам.

і п'янку т. Гамошкіна раззброіць і ўключыць у штрафную роту па падрыве чыгуначнага палатна» (запіс ад 1 мая 1944 года).

Аўтарам дзённіка шмат увагі нададзена апісанню побыту ў атрадзе. Частка партызан у складзе дыверсійных груп выходзіла на баявое заданне, частка — займалася пошукам зброі і пажывы. У вольны час партызаны любілі збірацца ля вогнішча, спявалі, танчылі: «Прывезлі 16 парсюкоў, каля 60 булак хлеба і каля 3-х пудоў солі. Увечары ля вогнішча спявалі песні: «Степь да степь кругом», «Волочаевские дни», «Ермак». Душой усяго гэтага з'яўляюцца Баланец, Карповіч. П. Баланец не расстаецца з гітарай. Ён вельмі часта марыць: вось бы паслухаць Бетховена, яго якую-небудзь санату» (запіс ад 31 ліпеня 1943 года). З забеспячэннем зброяй і боепрыпасамі сітуацыя часам была цяжкай: «Толу ў атрадзе няма ані грама, патронаў таксама няма, і баявых спраў чыніць няма чым» (запіс ад 3 чэрвеня 1944 года).

Заключныя старонкі дзённіка прысвечаныя вылету Казакова на лячэнне ў савецкі тыл 17 чэрвеня 1944 года і ягоным першым дням на вольнай ад гітлераўцаў тэрыторыі. У тыле ён нудзіўся, бо за вайну ўжо зусім адвык ад спакойнага жыцця: «Знаходжуся ў нашых хлопцаў на базе ўзбраення і боепрыпасаў нашай вобласці. Без звычкі вельмі сумна»; «Нуда жудасная, ходзіш без справы, як дурань»; «Сёння ў 17.00 мяне паклалі ў шпіталь у г. Гомель. Жудасна сумна» (запісы адпаведна ад 19, 20 і 29 чэрвеня 1944 года).

16 ліпеня 1944 года атрад імя Суворава злучыўся з часткамі Чырвонай арміі, і неўзабаве камандзір наведаў сваіх байцоў. У запісе ад 28 ліпеня, дня вызвалення Брэста, Казакоў занатаваў, што атрымаў накіраванне на пасаду загадчыка брэсцкага раённага зямельнага аддзела. Дзённік заканчваецца аптымістычным запісам, які выразна кантрастуе з тонам усяго папярэдняга тэксту: «Праца закіпела... Катаюся на кані».

Казакоў знойдзе сябе ў мірным жыцці. Ён стане дырэктарам і выкладчыкам розных устаноў адукацыі ў Пінску. ◆

# Лука Авечкін КІДАЕ ПІЦЬ

## Суровыя будні, суровыя магілёўцы XVI–XVII стагоддзя

**Крымінальная хроніка, шлюбныя абяцанні, кадзіраванне алкаголікаў — судовыя кнігі магілёўскага магістрата чытаў Аляксей Бацюкоў.**

### Клішка, які абяцаў, ды не хоча жаніцца

20 ліпеня 1579 года магілёўская мяшчанка Няліда Цішкаўна звярнулася ў магістрат са скаргай на «ўчцівага Клішку Іванавіча». Чатыры гады таму ён, узяўшы жанчыну да сябе, паабяцаў яе як жонку «хаваці» — гэта значыць жаніцца. З той пары нарадзілася адно дзіця, другое на падыходзе, а Клішка Іванавіч усё ніяк не выканае абяцанне.

«Учцівы» Клішка на гэта заявіў, што сам то ён якраз хоча ўзяць Няліду за жонку. Ды вось неспадзяванка: Няліда Цішкаўна ўжо мае мужа. Гэты муж некалькі гадоў таму кінуў яе, з'ехаўшы «на ніз» — гэта значыць, уніз па Дняпры, ва Украіну, да казакоў.

Наступны запіс у актавай кнізе магілёўскага магістрата значыцца іншым днём: альбо суддзям спатрэбіўся час, каб высветліць усе абставіны справы, альбо яны ўзялі паўзу, каб параі атаць.

Гэтым разам Няліда Цішкаўна даводзіла суду, што ад людзей, якія часта бываюць «на нізе», дакладна ведае, што былы муж ужо не жыве. Яе слоў суду аказалася дастаткова — магістрат пастанавіў Клішку і Нялідзе ажаніцца, а як бы раптам той першы муж вярнуўся, то Клішка мае Няліду ад яго гневу абараніць.

### Страшнае абвінавачванне

Гвалтаванне дзяцей, крадзяжы, чарадзейства — ні больш ні менш. У гэтым усім магілёўскі месціч Харко Кузьмініч абвінаваціў суседку Арыну Турцовую ў красавіку 1637 года.

За восем гадоў да таго Харко Кузьмініч набыў сабе дом і гаспадарку на вуліцы Выганскай. Па справах гандлю ім з жонкай часта прыходзілася ад'язджаць на кірмаш. Даглядаць гаспадарку і дзяцей — дзвюх дзяўчатак і хлопчыка — яны нанялі нядаўна аўдавелую Арыну Турцовую, што жыла ў доме свайго бацькі Івашкі.

Гаспадары працавалі шмат, вярталіся позна — тлумачыў Харко Кузьмініч. А ў іх адсутнасць няня аддавала іх гадавалую дачку на «садомскі грэх», пасля якога немаўля неўзабаве памерла, абвінавачваў ён. І другая дачка таксама гадамі пакутавала ад сэксуальнага гвалту.

Харко і жонка расказалі, што апыталі дзяцей (хлопчыку восем гадоў, дачцэ было шэсць, калі яна пачала размаўляць), а таксама частага госця ў іхным доме, шваграа Панцялея, і даведаліся, што Арына не абмяжоўвалася фізічным гвалтам. Забыўшы Бога і ўсялякі сорам, удавіца наводзіла на сям'ю сурокі, у святліцы ўтыкала нож у вяршнік*, абносіла двор нейкім зеллем, частавала ім дзяцей. Немаведама адкуль дастаўшы ключы ад клецяў, выносіла адтуль розныя рэчы, а часам і грошы.

> **Утыкала нож у вяршнік*, абносіла двор зеллем**

Апафеозам злачыннай дзейнасці Турцовай Харко Кузьмініч назваў апошні ўчынак, калі яна настолькі застрашыла дзяцей, абяцаючы, што за ўсе чарадзействы і грахі іх усіх разам могуць пакараць

* Брус над дзвярыма.


**Магілёў на малюнку Юзафа Пешкі.** Канец XVIII стагоддзя.

WIKIMEDIA COMMONS

смерцю, што сын Апанас уцёк у шляхецкі дом у суседнім сяле. Сем дзён бацька разам са слугой шукаў сына, заходзячы ў тым ліку і ў дом Турцовай. Тая ж публічна праклінала сям'ю Харка Іванавіча, даводзячы, што сына іх не бачыла, а неўзабаве і ўсіх іх не ўбачыць больш, і што як псаваліся яны, так і надалей будуць псавацца.

Распачалася сур'ёзная і доўгая судовая справа. Амаль праз месяц адбылося паўторнае слуханне, на гэты раз у прысутнасці ўсяго гарадскога кіраўніцтва.

Радцы не арыштавалі Арыну Турцову, а вырашылі накіраваць дасведчаных і шаноўных людзей для дадатковага высвятлення абставін.

Расследаванне доўжылася два тыдні. Апыталі ўсіх суседзяў Харка Кузьмініча і Арыны Турцовай.

І суседзі аднагалосна заявілі, што ніколі не бачылі таго, у чым вінавацяць Арыну. Наадварот, яе характарызавалі выключна як добрую жанчыну. А вось пра жонку Харка Кузьмініча казалі зусім іншае. Злая і сварлівая. Нядаўна накінулася на адну з суседак з падобнымі абвінавачваннямі — у чарадзействе з драпаннем варот. Наогул, жанчына са сваім мужам «не добра жывець і злая есць нявеста».

Зрэшты, нехта з суседзяў прысароміў і Харка, назваўшы яго дрэнным чалавекам, што ўзвёў такія словы на Арыну. Арына ж у прысутнасці ўсяго гарадскога ўрада прысягнула, што нічога з таго, у чым яе вінавацяць, не здзяйсняла. У тым жа прысягнулі яе бацька і суседзі. Не пацвердзіліся і словы пра ўтыканне нажа ў вяршнік: не аказалася слядоў. Гэтак жа ніхто не змог пацвердзіць абліванне гаспадаркі зеллем — а схаваць гэтую працэдуру днём, пры такой колькасці суседзяў было б цяжка.

Вырак суда: за паклёп Харку і яго жонцы стаяць «у куне» — прывязанымі за шыю да ганебнага слупа на гандлёвай плошчы — адзін дзень, з дзявятай па дзясятую гадзіну раніцы.

Харко спрабаваў быў апратэставаць гэтае рашэнне, ўратаваўшы хоць бы жонку: яна, маўляў, не была заяўніцай у судзе і нават не выклікалася сведкай. Але суддзі засталіся непахісныя: за паклёп стаяць гадзіну каля ганебнага слупа абаім.

### «Даў сазнанне»

Магілёўскі мешчанін Лука Авечкін 17 студзеня 1594 года ў прысутнасці лентвойта Аляксея Раманавіча, бурмістра Мітка Васілевіча і райцаў Сцяпана Сяргеевіча і Філіпа Ескавіча ▶




▶ «даў сазнанне» з запісам у актавую кнігу магілёўскага магістрата, што «не буду піці» моцных напояў ад сённяшняга дня і аж да свята Вялікадня. А што калі недзе нешта ўсё ж вып'е, то дазваляе свайму цесцю пасадзіць яго ў вязніцу, абапіраючыся на гэтае «сазнанне».

### Забойства кляшторнага

23 лютага 1634 года магілёўскі злотнік Іван Атрашковіч прачнуўся абвінавачаным у забойстве, за якое яму пагражала смяротнае пакаранне.

**За паклёп абвінавачаныя мусілі стаяць прывязанымі за шыю да ганебнага слупа на магілёўскім рынку**

Абвінаваціла яго Дося Мацюшына, падданая кляштара кармелітаў. У ноч перад гэтым яе муж Мацюша Багдановіч выпіваў і пайшоў па дабаўку ў шынок да жыда Гдалі. У таго аказалася замкнёна. Мацюша пакалаціў у дзверы, вокны, прыкрыкваючы: «Адчыняй, жыдзе!», але яму ніхто не адчыніў, і Мацюша пайшоў у двор злотніка Івана Атрашковіча, які жыў вышэй па вуліцы. Ледзьве ступіўшы на ганак, ён атрымаў страшны ўдар у галаву, ад якога яму нават выбіла кавалак косці. Яшчэ жывы, Мацюша ляжаў у сябе дома, але дні яго былі ўжо палічаныя. Тэрмінова гарадскі магістрат адправіў да небаракі следчую групу з чатырох чалавек для агляду і апытання.

Мацюша Багдановіч, ледзь жывы, з прабітай галавой, аднак у добрай памяці, распавёў усё, што памятаў з мінулай ночы. Як грукаў да жыда, бразгаў у вокны, пайшоў вышэй па вуліцы, бо ў Івана яшчэ не было замкнёна, і толькі стаў на ганак Іванавага дома...

Што здарылася далей, Мацюша не змог растлумачыць. Ён пачуў нейкі вокліч Гдалі-жыда, але хто нанёс яму рану — не ведае. На дадатковае пытанне пра адносіны з абвінавачваным адказаў: з Іванам ніякіх сварак ніколі не было, адносіны мірныя.

Але ж, але ж. Злотнік Іван Атрашковіч у той вечар і сам быў добра напіўшыся — сядзеў у таго самага Гдалі да позняга вечара. Так сведчылі жонка і дзеці шынкара. Потым яны чулі, як Іванава жонка раве ў хаце, пабітая мужам. Жонка Івана прызналася: так, муж яе пабіў, калі яна заступілася за раней пабітага сваяка.

Агульную карціну здарэння дапаўнялі рэчавыя ўлікі: кроў, якой было заліта ўсё навокал, і шапка з галавы Мацюшы Багдановіча.

Абвінавачанне прасіла для Івана Атрашковіча смерці. Злотнік, аднак, заявіў у судзе пра сваю невінаватасць.

Далейшыя следчыя дзеянні пайшлі па шляху аднаўлення поўнай карціны падзеяў той злавеснай ночы.

Было высветлена, што ў той вечар у шынку Гдалі-жыда сядзелі некалькі чалавек. Калі ўсе ўжо сышлі, пачулася ляскание ва ўсе чатыры акны, а неўзабаве і спробы адамкнуць дзверы. Гдаля адправіў хлопца-прыслужніка Мацвея паглядзець. Мацвей рушыў да дзвярэй і пачуў на двары размову двух незнаёмцаў. Адзін другога спытаў: «Чый есць ты?» На што быў адказ: «Кляшторны». Пасля чаго «адзін другого цяў, і той, што пытаў, рок: от табе, хлопе, за кляштору». Але хто быў гэты чалавек, малы не пабачыў. Выглянуўшы праз шчыліну, Мацвей заўважыў кагосьці, хто хістаўся і трымаўся за галаву. Раніцай на тым месцы была знойдзена шапка Мацюшы Багдановіча і багата крыві.

Мацвей аказаўся самым карысным сведкам, бо астатнія суседзі ды жонкі Гдалі і Івана Атрашковіча нічога падобнага не бачылі і не чулі.

Судовая справа перайшла ў фінальную стадыю. Абвінавачванне стаяла на сваім: забойства адбылося на двары злотніка, значыць, і адказваць павінен злотнік. Але той усяляк аднекваўся: маўляў, пра ўсе падзеі на двары даведаўся, толькі стаўшы абвінавачаным. Прычым гэта быў добра падрыхтаваны выступ: злотнік шмат цытаваў артыкулы Магдэбургскага права і на іх падставе звяртаўся да суда з патрабаваннем адстаяць яго прэзумпцыю невінаватасці. Што і адбылося.

На той падставе, што сам пацярпелы падчас следства не апазнаў Івана Атрашковіча, і пры адсутнасці іншых доказаў супраць яго злотнік быў прызнаны невінаватым. ◆

# Маладыя і свабодны

## Тры помнікі Міхасю Багуну



WIKIMEDIA COMMONS

**Ён пісаў рамантычныя вершы пра залатыя зубы ліхтароў, перакладаў Кіплінга і Пушкіна, прыдумаў вясёлую назву Таварыству аматараў выпіць і закусіць. А ў 28 гадоў вытрымаў усе допыты НКВД, быў высланы і памёр у тайзе. Піша Ганна Севярынец.**

Гэта быў выдатна наладжаны, выдатна наладжаны канвеер: забіць чалавека — знішчыць магілу — выдаліць са сховішчаў ягоныя тэксты — выкрасліць прозвішча з энцыклапедый і даведнікаў — вырваць лісты з хрэстаматый — выразаць твар з фотаздымкаў — забараніць згадваць не толькі добрым, але нават і злым словам.

Рэпрэсіі супраць людзей заўсёды суправаджаліся рэпрэсіямі супраць тэкстаў і выяваў, не толькі мастацкіх — любых. Кніга і фотаздымак, рэдкая кінахроніка былі адзіным магчымым сродкам дасягнуць бессмяротнасці, і за гэтым сродкам пільна сачылі. З 1929-га па 1938 год шматлікімі загадамі з фондаў бібліятэк былі выдаленыя мільёны экзэмпляраў мастацкіх, публіцыстычных, навуковых твораў, нават калі «ворагі ►




**Вуліца Савецкая** (цяпер праспект Незалежнасці) у раёне Залатой Горкі. 1937 год.

народа» не пісалі іх, а толькі згадваліся на старонках.

Што ўжо казаць пра помнікі. Ворагі народа не мелі права і на апошні тэкст, замацаваны за кожным з нас спрадвечнай традыцыяй: імя, прозвішча і дзве даты праз злучок.

Яшчэ больш уражвае, з якой адчайнай настойлівасцю, адзінокія і запалоханыя, людзі змагаліся са смяротным канвеерам, адваёўваючы ў сістэмы нават мізэрную, ледзь заўважную, але магчымасць захаваць памяць пра чалавека.

## Дом на Залатой Горцы

Гэтага адраса ў Менску сёння няма: Маляўшчынская, 11. Цяпер гэта раён вуліцы Залатая Горка. У кватэры нумар два, якую займаў паэт Міхась Багун, у сярэдзіне трыццатых збіраліся пісьменнікі, менская багема, клятыя белсавецкай прэсай п'яніцы і гулякі, што ніяк не змяшчаліся ў жорсткія рамкі правільнай літаратуры: Валер Маракоў, Алесь Звонак, Алесь Дудар, Тодар Кляшторны, Уладзімір Хадыка, Макар Шалай, Сымон Баранавых.

Менавіта гаспадар кватэры Багун і прыдумаў гэтую назву — ТАВІЗ, «Таварыства аматараў выпіць і закусіць». Даследчык ТАВІЗа Віктар Жыбуль піша: «Назву ТАВІЗ суполка насіла небеспадстаўна: яе ўдзельнікі сапраўды вялі багемны (ці блізкі да яго) лад жыцця, былі схільныя ўжываць алкагольныя напоі, а таксама забаўляць адно аднаго “парнаграфічнымі надпісамі”». Зрэшты, усё гэта магло ўспрымацца самімі літаратарамі як у пэўным сэнсе маркёры духоўнай разняволенасці, вальнадумства, свабоды творчасці. Тагачасныя арганізатары літаратурнага працэсу ў БССР сапраўды разглядалі ТАВІЗ як арганізацыйна афармленую багему і бачылі ў ім ідэалагічную небяспеку для развіцця афіцыйнай пралетарскай літаратуры. Цяжка сказаць, наколькі абавязковым і прынцыповым атрыбутам з'яўляліся ў таварыстве выпіўка і закуска. Думаецца, яны былі больш «для адводу вачэй», а галоўны акцэнт рабіўся ўсё ж на незалежнасці згуртавання, на яго непадкантрольнасці палітызаванаму літаратурнаму афіцыёзу, партыйным ідэолагам, цэнзарам.

«На пасяджэннях багемы без старшыні і сакратара за кухлем ці кілішкам чыталіся творы, якія пісалі для сябе, а не для друку. Тут кожны адчуваў сябе самім сабой, тут скідваліся тыя “маскі”, пра




**ТАВІЗ. Міхась Багун, Змітрок Астапенка, Юлій Таўбін.** 1930 год.

якія прыгадваў Язэп Пушча», — пісаў Юрка Віцьбіч, маючы на ўвазе радкі з Пушчавага верша «Прарокі і вучні»:

Усе, усе мы носім маскі,
Нат скінуць дома баімося.
Да слёз смяёмся ў вечар майскі.
Да слёз спяваема ўвосень.

### Эксперыменты і канфармізм

Мы пакуль няшмат ведаем пра аднаго з зацятых «тавізаўцаў» Міхася Багуна. Сапраўднае прозвішча ягонае — Блошкін, нарадзіўся ён у 1908 годзе ў Менску. Пасля заканчэння настаўніцкіх курсаў пры легендарным Белпедтэхнікуме імя Ігнатоўскага (от дзе беларушчына цвіла, і квітнела, і давала нечуваны плён!) Багун настаўнічаў у вёсцы Рожна на Бягомльшчыне. У пачатку трыццатых перабраўся ў Полацк, журналістам у «Чырвоную Полаччыну», потым вярнуўся ў Менск. Усе гэтыя гады, пачынаючы з 1925-га, выходзілі ў друку ягоныя вершы і пераклады: насычаныя смелымі вобразамі, адзначаныя густоўнымі фармальнымі эксперыментамі, яны былі заўважнымі нават у тым моры бліскучых талентаў, якое разлівалася тады па менскім бруку:

Там,
Дзе змрок залатымі зубамі
Загрызаюць на смерць ліхтары —
Чалавечая памяць
Пляміць
Азёры бліскучых вітрын.
Там,
дзе ў сэрцы скрыжованых вуліц
Чалавечая плешча рака —
Цябе ў паркалёвай кашулі
Я спаткаў.
Тапталі мы слізкія спіны
Скрыжованых вуліц-гадзюк,
І месяц над горадам ўскінуў
Сваю залатую ладдзю.

Вядома, з цягам часу запыт на вобразы і эксперыменты ў беларускай паэзіі знік, а запыт на ідэалагічна правільныя радкі — узмацніўся і стаў адзіным магчымым. Адказваў на яго і Міхась Багун. Юрка Віцьбіч успамінае: «Міхась Багун меў заўсёды напагатове 5—6 вершаў "На смерць правадыра". Калі хто-небудзь з іх здыхаў, дык ён, падставіўшы адпаведнае імя, як хутчэй бег са свае Даўгабродскае ў "Звязду" ці "Чырвоную змену". Аднойчы, калі памёр Дзяржынскі, пабег ён з прачулым вершам у "Звязду". Прыбег, аж засопся, а з яе выходзіць Тодар Кляшторны і ўсміхаецца: "Дарма, братка. І тут, і ў "Чырвонай змене", і ў "Работніцы і сялянцы", і ў "Піянеры Беларусі" ідзе маё"».

## У яго заўжды былі напагатове 5—6 вершаў на смерць правадыра

Ці не сяброўскай помстай «тавізаўскага» разліву выглядае рэцэнзія Багуна на зборнік Кляшторнага «Праз шторм на штурм» з брутальнай назвай «З дарогі, крот і кракадзіл!»?

### «Амерыканка»

У лістападзе 1936 года Міхась Багун быў арыштаваны — адным з першых з трагічнага шэрагу, у які трапілі амаль усе «тавізаўцы», дый і не-тавізаўцы таксама.

З пратакола допыту Міхася Багуна ад 27 ліпеня 1937 года:

«Вопрос: признаёте ли вы себя виновным в предъявленном вам обвинении?

Ответ: В предъявленном мне обвинении ни в какой степени виновным себя не признаю, так как я не был участником контрреволюционной национал-фашистской организации и контрреволюционной шпионско-террористической деятельностью не занимался.

Вопрос: Говорите правду!

Ответ: Я, как писатель, имел близкие приятельские отношения с рядом писателей: Дударом, Кляшторным, Ковалём, Микуличем, Звонаком, Моряковым и более отдаленные, а в последнее время и неприязненные, с Шашалевичем. Мне известно было, что Шашалевич высказывал контрреволюционные нацдемовские настроения...»

Мы можам толькі ўявіць — не, мы і ўявіць сабе не можам! — што насамрэч адбывалася ў кабінеце следчага ў тыя хвіліны і нават гадзіны, суткі, якія адлюстраваныя ў пратаколе кароткім выразам «Говорите правду!». Тое, што катаванні былі нялюдскімі, вядома сёння з іншых пратаколаў — калі дапытвалі следчых наконт «перавышэння паўнамоцтваў». Тым не менш менавіта пратаколы допытаў Багуна ўтрымліваюць чыстыя старонкі (значыць, ён катэгарычна адмаўляўся даваць паказанні), менавіта ягонага подпісу не хапае пад пратаколамі некаторых вочных ставак. Гэта, няхай і ўскосна, сведчыць, што ён трымаўся, колькі мог. ▶

**Кенатаф** у перакладзе з грэцкай азначае «пустая магіла». Гэта помнік, памятны знак без пахавання. Традыцыя ставіць кенатафы вядомая са старажытнасці. Часцей за ўсё кенатафы робяць тады, калі месца пахавання невядомае альбо чалавек жыў далёка і іначай ушанаваць яго памяць немагчыма.




ФОТА ГАННЫ СЕВЯРЫНЕЦ

**Магіла бацькі** са згадкай пра сына. Мінск.

**Два кенатафы Міхасю Багуну** — з’ява для Беларусі, дый для Еўропы, унікальная. Але наогул сімвалічныя пахаванні па людзях, загінулых падчас сталінскіх рэпрэсій, у Менску ёсць. На Кальварыйскіх могілках згаданы літаратар Алесь Дудар, расстраляны 29 кастрычніка 1937 года: шыльду з ягоным імем і датамі нараджэння ды смерці ўсталявала паэтава пляменніца Лідзія Маркаўна Малініна на помніку ягоным маці і сястры. На Вайсковых могілках недалёка ад пахавання Фёдара Блошкіна стаіць помнік-кенатаф Міхасю Марозу, першаму беларускаму паўнамоцнаму прадстаўніку ўрада БССР пры ўрадзе РСФСР, які загінуў у ГУЛАГу і таксама пахаваны невядома дзе. Згадаць яго на сваім помніку папрасіла перад смерцю ягоная жонка Алеся Александровіч — тая самая прыгажуня, салістка хору Тэраўскага, якой прысвечаны легендарны беларускі мюзікл Уладзіміра Тэраўскага і Міхася Чарота «На Купалле» (адтуль мы ўсе пяём нашу «Купалінку»).

▶ У 1937-м Міхась Багун быў асуджаны да васьмі гадоў лагеру, а ў 1938-м памёр у перасыльнай турме недзе ў Сібіры. Майсей Сянёў, які быў асуджаны разам з Багуном, успамінаў: «Пад гукі “Як умру, то пахавайтэ” на руках Звонака і Мікуліча памёр малады беларускі паэт Міхась Багун. Было гэта ў студзені 1938 года ў Марыінску Новасібірскай вобласці. Арыштаваных трымалі ў нейкай “ліцейцы”, дзе па сценах сцякалі чыстыя кроплі вады (на вуліцы было –45 па Цэльсію, а ў “ліцейцы” сотні і сотні людзей)».

## Тайга — Вайсковыя — Горадня

Дзе пахавалі Міхася Багуна — невядома. Як і Максіму Гарэцкаму, як і Уладзіміру Хадыку, як і Адаму Бабарэку, загінулым у ГУЛАГу, помнікам Багуну стала тайга. Шукай — не адшукаеш. Ягоныя кнігі былі «вычышчаныя» з бібліятэк, пераклады выключаныя з анталогій, імя выкраслена з даведнікаў.

У 1954 годзе ў Менску памёр Фёдар Сазонтавіч Блошкін, паэтаў бацька. Яго пахавалі на Вайсковых могілках. Пакуль невядома, чыя гэта была воля — напісаць на надмагільнай шыльдзе не толькі імя Фёдара Сазонтавіча, але і сына, Міхася Багуна: «М. Ф. Багун. Загінуў у 1938 г.». Тут жа працытаваныя радкі: «Мяне ў Сібіры прывітала зялёнакрылая тайга». Гэта

**Магіла маці.** З адваротнага боку — кенатаф сына. Гродна.







ФОТА ЮРЫЯ КАМЯГІНА, 015.BY

адзін з нешматлікіх кенатафаў (сімвалічных пахаванняў) Вайсковых: чалавека ў зямлі няма, але памяць па ім ёсць.

## «Глядзі, бо сход, мой залаты, к дабру не прывядзе!»

Маці Багуна, Вера Яфімаўна, на той час жыла ў Горадні: з Фёдарам Сазонтавічам яны разышліся, хутчэй за ўсё, яшчэ да вайны. Вера Яфімаўна была другі раз замужам, малодшы сын яе ў новым шлюбе насіў прозвішча Пабедзін. Менавіта ён, Мікалай Пабедзін, ставіў помнік па маці (яна памерла ў 1963 годзе) на гарадзенскіх могілках па вуліцы Антонава — гэтыя могілкі, найстарэйшыя ў Горадні і адныя з самых старых у Беларусі, сталі месцам апошняга спачыну «гарадзенскага дойліда» Джузэпэ Сака, маці Максіма Багдановіча, пісьменніцы Элізы Ажэшка.

Помнік Веры Яфімаўне мае надпісы і партрэты з двух бакоў. На адным — твар паэтавай маці і радкі яе сына: «Прыйду дамоў і срэбную матулю абдыму. Сын Міхась Багун». На другім — фотаздымак самога Міхася Багуна і надпіс: «Міхась Багун. Беларускі паэт. Загінуў у Сібіры ў 1937 годзе».

Дзівіць разыходжанне ў даце смерці на абодвух кенатафах, зробленых нібыта па адным узоры. І на менскай шыльдачцы, і на гарадзенскім помніку — не толькі згадка пра Міхася, але і ягоныя радкі. Каб не розныя даты, можна было б падумаць, што іх ставіў адзін і той жа чалавек: напрыклад, той самы Мікалай Пабедзін. Але даты розняцца. Ці значыць гэта, што Фёдар Сазонтавіч і Вера Яфімаўна калісьці абгаварылі адно з адным і згадку сына на месцы ўласных пахаванняў, і ягоныя радкі на абодвух,

* * *

Прыду дамоў і срэбную
Матулю абніму…
Яна кашулю зрэбную
Там латае камусь…
З сваёй усмешкай-казкаю
Павернецца ка мне
І скажа
Гэтак ласкава:
— Страсі, Міхаська, снег:
Што, мусіць, зноў
Са сходу ты,
Сыночак мой, ідзеш?
Глядзі, бо сход, мой залаты,
К дабру не прывядзе!

*Міхась Багун*

і не паспелі толькі высветліць сапраўдную дату смерці, а кенатафы рабіліся рознымі людзьмі? Як бы там ні было, гэты сюжэт усё адно — надзвычай драматычны. Колькі ўнутранай сілы, колькі намаганняў трэба было прыкласці альбо бацькам, альбо іх нашчадкам, каб так надзейна, двойчы, неадменна аднавіць памяць па тым, каго так зацята нішчылі. ◆

## «Добрага роду — п’ю гарэлачку як ваду»

Сёлета праект Tradycyja прэзентуе новае выданне — кнігу-CD «Бяседныя песні». Там сабраныя застольныя песні з розных рэгіёнаў Беларусі з 1960-х гадоў да нашага часу.

Усе кампазіцыі кнігі-CD «Бяседныя песні» выдадзены ўпершыню.

Выданне зроблена ў выглядзе кніжкі з вышыўкай на вокладцы і багата ілюстравана старымі фотаздымкамі. Усяго рэліз складаецца з 34 кампазіцый: 18 у першай частцы, 14 у другой і два бонус-трэкі. У выданні змешчана даведка аб песеннай традыцыі беларусаў, інфармацыя аб усіх запісах, фотаздымкі з сямейных архіваў выканаўцаў. Усе звесткі перакладзеныя таксама на англійскую мову.




Спевы суправаджалі нашых продкаў ад нараджэння да смерці. Бяседныя песні спявалі ў святочныя моманты, калі ў застоллі збіраліся сям’я, суседзі і знаёмыя. Іх рэгіянальныя назвы — застольныя, гасцявыя, п’яніцкія, карчомныя, банкетовыя, пірушачныя, кірмашовыя. Пра бяседныя песні казалі: «Як толькі адну чарачку вып’ю, і ўсё, пайшло — вы сядзіце, а я буду песні пяяць».

Бяседныя песні выконвалі на застоллі ў гонар нараджэння дзіцяці і ўслаўлялі гасціннасць і шчодрасць гаспадароў, добры пачастунак. У песнях «пад чарачку» апавядалі пра сямейныя ўзаеміны: жыццё ў нязроднай сям’і, адносіны з мужам, свёкрам ды свякроўю, смутак па родным доме.

Большасць застольных твораў былі не абрадавымі, а «жызненнымі». У іх распавядалі пра жаночую долю, няспраўджаныя надзеі, нялюбага мужа: «Я ж думала, што сакол ляціць, аж нялюбы й уздагон бяжыць, а нялюбы й уздагон бяжыць», нявернасць ды сацыяльную няроўнасць. Вясёлыя, гумарыстычныя творы суседнічаюць з сумнымі, мінорнымі.

Набыць дыск можна ў мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, д. 72).

# Золата расійскіх генералаў *закапанае недзе за Гроднам*

**Звесткі пра схаваныя скарбы сабраў гісторык Андрэй Вашкевіч.**

Як сёння, памятаю гэтую размову, якая адбылася два дзесяцігоддзі таму. У глухой лясной вёсцы недалёка ад беларуска-польскай мяжы жвавы дзядуля на просьбу расказаць пра немцаў запытаўся: «А вам пра якіх немцаў, хлопцы, расказаць: пра першых ці пра другіх?» Аказалася, дзед нядаўна адсвяткаваў сваё 95-годдзе і добра памятаў месца, дзе зімой 1915 года пахавалі некалькі дзясяткаў расійскіх салдат, якія з вінтоўкамі і парай патронаў спрабавалі прарвацца да гродзенскай крэпасці.

Дзед таксама расказаў гісторыю, якую яму неаднойчы распавядаў бацька. У лютым 1915 года той быў узяты ў праваднікі штаба XX расійскага корпуса, акружанага немцамі ў Аўгустоўскіх лясах. Становішча корпуса было трагічным. Немцы аддзялілі часткі XX корпуса ад выратавальных фартоў гродзенскай крэпасці тонкай лініяй сваіх байцоў ландвера, якія, аднак, маючы ў дастатку кулямётаў ды патронаў, з пануючых вышыняў выкошвалі расійскіх пехацінцаў сотнямі. Пасля чарговай няўдалай спробы прарыву камандзір корпуса генерал Булгакаў прыняў рашэнне аб капітуляцыі. Перад тым як ісці здавацца, усю казну корпуса ссыпалі ў звычайнае вядро і, прыкрыўшы другім вядром, закапалі на ўзгорку з заўважнымі трыма соснамі.

Паслухаўшы тую гісторыю, я, вядома, запытаўся, чаму дзедаў бацька або нехта з афіцэраў не вярнуўся па тое золата. Дзядуля цалкам рацыянальна адказаў, што з нямецкага палону мала хто вярнуўся, а бацька не трапіў у тое лясное месца, бо адразу пасля Першай сусветнай вайны там прайшла польска-літоўская мяжа. Таму недзе ў памежным лесе дасюль, мабыць, ляжыць пражавелае вядро з залатымі і сярэбранымі манетамі.

Такіх гісторый даводзілася чуць яшчэ некалькі, і не толькі з часоў Першай сусветнай. Летам 1941 года байцы 213-га пяхотнага савецкага палка, які некалькі дзён адбіваўся ад немцаў на Аўгустоўскім канале, нібыта закапалі каля Нёмана палкавы сейф. У сейфе палка Чырвонай арміі, натуральна, золата быць не магло, аднак там знаходзіліся важныя дакументы, пячаткі і, магчыма, узнагароды. Гэты сейф на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў самааддана, але, на жаль, беспаспяхова шукалі гродзенскія краязнаўцы.

А самая таямнічая гісторыя адбылася ў канцы лета 1914 года ў лясах Усходняй Прусіі. Нямецкія войскі тады перлі на Парыж, і расійскае камандаванне, прыслухаўшыся да слёзных просьбаў французаў аб дапамозе, загадала пайсці ў наступленне на немцаў дзвюм сваім найбольш укамплектаваным арміям. Камандуючыя арміямі генералы Аляксандр Самсонаў і Павел




**Лубок пра подзвігі XX корпуса, надрукаваны ў 1914 годзе. Праз пару месяцаў корпус сам здасца немцам.**




**Расійскія палонныя ў Гродне.**
Пачатак восені 1915 года.

Рэненкампф ненавідзелі адзін аднаго, і калі немцы акружылі армію Самсонава, Рэненкампф не зрабіў нічога, каб ёй дапамагчы.

Восемдзесят тысяч расійскіх салдат блукалі па лясах на нямецка-расійскім паграніччы, і немцы пакрысе рассякалі іх на меншыя часткі. Генерал Самсонаў разам з невялікай групай з некалькіх вышэйшых афіцэраў і іх веставых ды дзеншчыкоў спрабаваў вырвацца з акружэння. Пры ім была брычка з казной арміі, якая налічвала 300 тысяч рублёў, і прынамсі частка з іх была ў золаце. У брычцы былі таксама сотні Георгіеўскіх крыжоў, якімі збіраліся ўзнагароджваць пераможцаў.

Апошнія хвіліны жыцця генерала Самсонава дагэтуль застаюцца таямніцай. Паводле адной з версій, ён, змучаны прыступамі астмы і цяжкімі думкамі пра разгром, застрэліўся, адышоўшы недалёка ў лес. Паводле другой — яго забіла нямецкім снарадам. Яшчэ паводле адной версіі, падчас начнога пераходу яго проста згубілі — і ён бясследна знік. У любым выпадку сярод тых некалькіх салдат з групы Самсонава, якія выйшлі да сваіх, ужо не было ні генерала, ні казны ягонай арміі. Восенню 1915-га жонка Самсонава пры спрыянні Чырвонага Крыжа змагла прыехаць на нямецкую тэрыторыю і з дапамогай мясцовых сялян адшукала пахаванне генерала. Праз Берлін, Стакгольм і Пецярбург цела генерала перавезлі на ягоную радзіму ў Елісаветград ва Украіне (цяпер горад Крапіўніцкі) і там пахавалі.

Абставіны гібелі генерала Самсонава і знікненне казны цэлай арміі спарадзілі цэлую хвалю легендаў. Самая незвычайная і трагічная з'явілася амаль адразу. Расказвалі, што да аднаго з расійскіх атрадаў, якія блукалі па лясах, прыбіўся паранены ў шыю салдат. Ён паведаміў, што генерал Самсонаў, усвядоміўшы немагчымасць прарыву, загадаў пакласці ўсю армейскую казну на адзін воз, узяў з сабою пяцярых салдат і ад'ютанта і заглыбіўся з імі ў пушчу. Глыбока ў пушчы воз захрас на паўразбураным гнілым мосце праз балоцістую рачулку. Самсонаў тады нібыта загадаў затапіць казну ў балоце і нечакана разам з ад'ютантам застрэліў усіх салдат. Потым ён забіў і ад'ютанта, а затым, адышоўшы ў лес, скончыў жыццё самагубствам. Але адзін салдат толькі прыкінуўся забітым, і менавіта ён пасля расказаў гэтую гісторыю. Праўда, ён хутка памёр, не паказаўшы канкрэтнага месца, а ў пушчу скіраваліся шматлікія шукальнікі скарбаў...

Цяпер гэтыя мясціны знаходзяцца ў ваколіцах польскага горада Вельбарк (раней нямецкі Віленберг), а расійскае золата там шукаюць дасюль. І не без пэўнага поспеху. Пра знаходкі золата газеты і інтэрнэт, праўда, нічога не паведамлялі, але каля дзесяці гадоў таму польскія «чорнакапальнікі» адшукалі ў лясах сцяг 144-га Кашырскага палка — аднаго з тых, што назаўсёды зніклі ў лясах Усходняй Прусіі. ◆

# З чаго беларусы СМЯЯЛІСЯ *ў розныя эпохі*

**Анекдоты пра Гарбачова**

У Гарбачова пытаюць: «Куры дохнуць па ўсёй краіне, што рабіць?» Ён адказвае: «Трэба з фанеры выразаць квадрацікі і над кожным куратнікам павесіць». Праз пэўны час яму кажуць: «Не дапамагло, куры ўсё роўна дохнуць». Ён адказвае: «Тады трэба ў кожным квадраціку намаляваць жоўты кружочак». Яшчэ праз нейкі час яму кажуць: «Не дапамагло, усе куры здохлі». Гарбачоў, расчаравана: «Шкада, а ў мяне яшчэ столькі ідэяў было».

«Да 2000 года, таварышы, кватэрная праблема будзе вырашана!» — «Да 2000 года ад Раства Хрыстовага ці ад пачатку перабудовы?»

Сухаў ідзе па пустыні і бачыць — Гарбачоў у пяску па самае горла: «Піць...» Сухаў глядзіць на гадзіннік: «У нас, між іншым, піць толькі з другой гадзіны даюць».

**Савецкія анекдоты 1970-х: «Гэта што за магазін?»**

— Як савецкі народ рухаўся да камунізму?

— Пры Леніне — як пешкі праз тунэль. Навакол цемра, наперадзе быццам бы святло.

Пры Сталіне — як у аўтобусе. Адзін кіруе, а ўсе або сядзяць, або трасуцца.

Пры Хрушчове — як у самалёце. Усіх нудзіць, а дзецца няма куды.

Цяпер — як у космасе. Невядома навошта, невядома куды і абаперціся няма на што.

Пакупнік у пустым магазіне: «Скажыце, гэта што за магазін: прадуктовы ці прамтаварны?»

**Анекдоты з 1960-х: «Доктар, я баюся»**

Жонка да мужа:
— Ты мяне моцна кахаеш?
— Так, любая, як і ты мяне.
— Ну, ведаеш...

Хворы ўсхвалявана кажа доктару:
— Ведаеце, я вельмі баюся, гэта першая аперацыя ў маім жыцці...
— Нічога, не хвалюйцеся, — супакойвае хворага доктар, — для мяне гэта таксама першая аперацыя...



NN.BY

**Коцікі часоў Полацкага княства** на сцяне Спаскай царквы ў Полацку.

## Анекдот з 1950-х: «За што сядзіш?»

Папулярнасць анекдотаў не радавала савецкія ўлады. За некаторыя анекдоты можна было патрапіць пад суд. Артыкул 58.10 Крымінальнага кодэкса РСФСР «Антысавецкая агітацыя і прапаганда» нярэдка выкарыстоўваўся супраць тых, хто распавядаў «непажаданыя» жарты. Існаваў нават анекдот пра тое, як рызыкоўна расказваць анекдоты:

— За што сядзіш?
— За ляноту.
— Гэта як?
— У кампаніі расказвалі анекдоты, я думаў, раніцай схаджу данясу, а сусед не паленаваўся.

## «Дзёшава нам Масква сабалі прадавала»

У апошнія стагоддзі існавання Вялікага Княства Літоўскага з'яўляецца новы феномен — сатырычная літаратура. Напрыклад, «Ліст да Абуховіча» Цыпрыяна Камунякі. Кпіны накіраваныя супраць Піліпа Абуховіча — ваяводы, які здаў Смаленск Расіі ў 1654 годзе:

«Лепей было, пане Піліпе, сядзець табе ў Ліпе [маёнтак Абуховіча]. Уваляўся Вашмосць у вялікую славу, як свіння у гразь. ... Дзёшава нам Масква сабалі прадавала, дык затое ўсю Русь з людзьмі забрала... А што мы бедныя ў кажухах сем лет Смаленска дабывалі, то вы мудрэйшыя ў сабалях за чатырнаццаць нядзель аддалі». ◆

**Кацярына Скарэйчык**



WIKIMEDIA COMMONS

**Блазан Станчык**
Пры двары вялікіх князёў жылі блазны. Самым вядомым з іх быў Станчык, які за сваё доўгае жыццё (каля 80 гадоў!) паспеў пацешыць трох гаспадароў: Аляксандра, Жыгімонта Старога і Жыгімонта Аўгуста. У жартах ён не шкадаваў кіраўнікоў дзяржавы і быў сапраўдным патрыётам.

**Самы вядомы твор, які ўшаноўвае знакамітага блазна, — карціна Яна Матэйкі «Станчык».** Цікава, што ў вобразе блазна Матэйка адлюстраваў самога сябе. Адметная таксама інтэрпрэтацыя гэтай карціны: ліст на стале паведамляе пра тое, што маскавіты ўзялі Смаленск (ідзе 1514 год), аднак толькі блазан занепакоены гэтым фактам, а высакародныя асобы на заднім плане працягваюць баляваць.

# «Гамер, стары мой прыяцель, разганяў маю нуду ў жудасных абставінах...»

## Як беларусы атрымалі Гамера і Міцкевіча на роднай мове дзякуючы турме



НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ

**Браніслаў Тарашкевіч** — палітык і мовазнавец, аўтар першай граматыкі беларускай мовы. Нарадзіўся на Віленшчыне ў сялянскай сям'і, з дапамогай мясцовай памешчыцы паступіў у віленскую гімназію. У 1916 годзе скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Петраградскага ўніверсітэта. У 1921-м дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, з 1922-га — дэпутат у польскім Сейме. Лідар самай шматлікай у Польшчы арганізацыі беларусаў — Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Правёў у польскай турме агулам пяць гадоў. У 1933-м у выніку абмену палітвязнямі трапіў у СССР. У 1937-м арыштаваны, у 1938-м ці то расстраляны, ці то загінуў ад катаванняў.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у фондзе былога Інстытута гісторыі партыі ў адной са спраў захоўваецца машынапісны дакумент на некалькі старонак. Уверсе — рукапісная рэзалюцыя: «Вельмі цікавы ліст! Але да зборніка не падыходзіць». Да якога менавіта зборніка, не ўдакладняецца, але можна меркаваць, што гаворка тут ідзе пра двухтомнае выданне «Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР», падрыхтаванае пры актыўным удзеле Гістпарта ў 1960–1970-я гады.

У канцэпцыю такога зборніка гэты сапраўды вельмі цікавы ліст, датаваны 16 сакавіка 1930 года, і праўда зусім не ўпісваўся. Аўтарам ліста быў стваральнік тады яшчэ афіцыйна дзейнай граматыкі беларускай мовы, а таксама грамадска-палітычны дзеяч Браніслаў Тарашкевіч, які ў той час ужо чацвёрты год (з прысуджаных яму судом 12-ці) сядзеў у польскай турме па справе Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Адрасаваўся ж ліст іншаму заслужанаму нацыянальнаму дзеячу Аляксандру Цвікевічу, апошняму прэм'еру эміграцыйнага ўрада БНР, які пасля ліквідацыі ўрада ў 1925 годзе пераехаў у Мінск і займаўся там культурна-навуковай дзейнасцю. Калі стаўленне да Тарашкевіча з боку афіцыйнай савецкай навукі пасля XX з'езда партыі было даволі стрыманым, але ўсё ж не адназначна негатыўным, то Цвікевіч аж да часоў гарбачоўскай перабудовы калі і згадваўся, то ў выключна адмоўным кантэксце — як нацыяналіст, контррэвалюцыянер і вораг усяго савецкага. Натуральна, што ліст да такога чалавека не меў аніякіх шанцаў прайсці праз партыйную цэнзуру.

Непрымальным для камуністычнага дакументальнага зборніка быў і змест ліста. Хоць імя Тарашкевіча ў савецкі час увогуле з гісторыі не выкрэслівалі, акцэнт у ягонай біяграфіі рабіўся перадусім на тых момантах, калі ён дзейнічаў як левaрадыкальны

палітык — ці то як старшыня прасавецкай БСРГ, ці то як член КПЗБ. У гэтым жа лісце ён камуніст хіба толькі тады, калі піша пра тыя кнігі, якія ўжо прачытаў і збіраецца чытаць далей. У асноўным жа гаворка вядзецца аб працы на чыста нацыянальным грунце, да якой Тарашкевіч па іроніі лёсу здолеў вярнуцца, толькі сеўшы ў турму. У папярэднія ж гады, пачынаючы з 1922-га, калі ён стаў дэпутатам польскага парламента і кіраўніком беларускай фракцыі ў ім, палітычная дзейнасць яго на некалькі гадоў захапіла цалкам, прымусіўшы амаль начыста забыцца пра ўсялякія здзяйсненні на культурнай ніве.

*Мілы дружа Аляксандр Іванавіч!*

*Ад сэрца быў рады, дастаўшы Тваё пісьмо. Можа, і не дасі веры, як мне прыемна было яго атрымаць. Успаміналася мне так жыва-жыва кароткае, але такое блізкае знаёмства з Табою — і чарка, і люлька, і песня, і гарэлка, а ўсяго ў меру. Наша жыццё такое беднае знешнімі ўражаннямі, і што старое пражытае, асабліва сімпатычнае, устае ва ўспамінах як жывое, сучаснае. Таму хіба паверыш, што паміж сваімі добрымі знаёмымі і мілымі прыяцелямі я не раз успамінаў і Цябе са шчырай сімпатыяй.*

*А столькі гадоў не бачыліся! Колькі за гэты час велічэзных хваляў штурмавала да берагоў і да тамаў* сучаснага свету! І цяжка, браце, прывыкшаму да бураў апынуцца ў клетцы. Але нічога, гэта новая задача — перамагчы астрог і няволю. Што было цяжкога — і фізічна, і маральна, — здаецца, беспаваротна мінула. Чуюся бадзёры і вясёлы. Памятаеш мо песеньку:*

*«Раз гараў я пад гарою, трах —*
*і плуг зламаўся;*
*Я ж не плакаў над сабою, сеў —*
*і засмяяўся...»*

*Уважаю, што куды лепш смяяцца, як плакаць. Бяда толькі, што сярод вязняў замала знаходзіцца такіх ахвотнікаў да смеху, але часам здараюцца. Жадаючы для свайго пісьма шчаслівай дарогі, не буду Табе апісваць нашага жыцця. Адно толькі магу сказаць: проста жызнь, а не малина. Але жывем памаленьку і нават мала тужым.*

*Пытаешся мяне аб занятках. Каб заўсёды былі магчымыя і адпаведныя варункі для работы, то можна было б зрабіць вельмі шмат. Маю сілы і ахвоту. Але калі сядзіш у грамадзе, то праца — навуковая — не спорыцца. Ты хіба чуў, што я пераклажыў усю «Іліяду» гекзамэтрам на беларускую мову. Можа, гэта рэч і не зусім актуальная, але былі такія варункі, што нельга было нічым іншым заняцца, а Гамер, стары мой прыяцель, разганяў маю нуду ў жудасных абставінах. Ці калі пабачу свой пераклад друкаваны — не ведаю. Апрача таго, перарабіў сваю граматыку (з поспехам, на калене) і мною напісаны сінтаксіс. Распачаў колькі працаў літаратурнага і філалагічнага характару, але праца ўперлася ў зачыненыя астрожныя дзверы: нельга дастаць матэр'ялу. Цяпер думаю заняцца дыялекталогіяй Зах. Беларусі: маю да гэтага свае старыя матэр'ялы і тутака жывы фальклор сваіх землякоў* ▸

## Куды лепш смяяцца, як плакаць. Бяда толькі, што сярод вязняў замала знаходзіцца ахвотнікаў да смеху, але часам здараюцца




**Аляксандр Цвікевіч** — палітык, юрыст. Нарадзіўся ў Брэсце ў сям'і чыгуначнага фельчара. Скончыў юрфак Пецярбургскага ўніверсітэта, працаваў прысяжным павераным на Берасцейшчыне. Далучыўся да беларускага руху ў час Першай сусветнай вайны. У 1918 годзе спрабаваў адстаяць беларускія інтарэсы падчас перамоў у Брэсце, ад імя БНР вёў перамовы з Кіевам і Берлінам. Да 1925 года — адзін з лідараў БНР на эміграцыі. Сабраў у Берліне канферэнцыю, якая абвясціла БССР адзіным цэнтрам адраджэння Беларусі, і прыехаў з сям'ёй у Менск. Працаваў у наркамаце фінансаў і Акадэміі навук. У 1930-м арыштаваны і высланы, у 1937-м расстраляны.

* Перашкодаў.

*з розных паветаў. Дастань, калі ласка, існуючыя праграмы да збірання беларускіх гутарак (Карскі, Некрашэвіч, [...]**) і розныя «областные белорусские словари». Праўда, што я цяпер больш зацікавіўся эканамічнымі, палітычнымі і філасофскімі пытаннямі, але не пакідаю і філалогію. У канцы падам цэлую літанію кніжак, якія папрашу Цябе прыслаць, а цяперака аб справе, якая Цябе цікавіць.*

*Кніжка твая, за якую дужа дзякую, знаходзіцца, на жаль, на цэнзуры ў пракурора. Тая тэма, над якой ты працуеш цяпер, цікавіла і мяне. Рад з Табой падзяліцца цікавымі весткамі. У пачатку 1925 г. я дастаў ад [...], аўтара кнігі [...] згадай што?.. Адзін нумар «Гомана» літаграфаваны, не памятаю якога году, магчыма 1884, як твае, але, можа, нейкі іншы. Гэтую рэдкасць я аддаў у Беларускі музей у Вільні.*


НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ

## Выберы тамы Леніна і перасылай у колькі прыёмаў. Віленскі пракурор абяцаў прапусціць

*Аб Гурыновічу я надрукаваў артыкул, калі не памыляюся, у пачатку 1921 г. у «Беларускім звоне». Можа ўспомніць аб гэтым Аркадзь. Паперы, якія я дастаў ад сваячаніцы Гурыновіча, знаходзіліся ў маім архіве, які мая жонка хіба што перадала таксама ў Беларускі музей у Вільні. Тамака ёсць яго фатаграфія і крыху не зусім удалых вершаў: відаць, пачатковыя спробы. Гэтыя спробы, пісаныя ў турме, далі мне падставу думаць, што вядомы верш «Панскае ігрышча» (каб ты ведаў, брат, кумішча...) запраўды напісаў не Багушэвіч, а той самы Гурыновіч.*

*Працуючы над эпохай Дуніна-Марцінкевіча, Кіркора і Ко, прымі пад увагу, што у [...] у Вільні ёсць вельмі цэнны і цікавы альбум Артэмія Вэрыгі-Дарэўскага. [...] Аб ім з маіх слоў дужа коратка піша Карскі. Я аб ім калісьці напісаў вялікі артыкул, які, на жаль, ад мяне ўкралі нейкія таемныя рукі ў 1921 г. разам з усімі рукапісамі і дакументамі. Як пасля аказалася, гэтая кража была зусім не зладзейскай... Цэнныя весткі і рады можа даць Зямкевіч. Вельмі жадаю Табе поспеху ў працы, з нецярпеннем буду чакаць ад Цябе тваіх твораў.*

*Я дастаў цэлы рад выданняў Акадэміі навук. Вельмі радуемся вялізным вынікам вашай працы, а правакацыйным чуткам не верым.*

*Шчыра спачуваю твайму гору па сыне. Я сам так балюча адчуваю разлуку са сваёй сям'ёй і з сваім сынком, а што ж часовая, хоць і доўгая разлука у параўнанні*

** Тут і далей знакам [...] пазначаныя пропускі ў машынапіснай копіі ліста.



**Браніслаў Тарашкевіч (чацвёрты справа ў другім шэрагу)** з вучнямі і выкладчыкамі Віленскай беларускай гімназіі. 1921 год.

*з такою вечнаю разлукаю, як смерць. Але ж хіба нельга прайсці праз жыццё без вялікіх і цяжкіх страт... Усім маім прыяцелям пасылаю шчырае прывітанне.*

*Цісну тваю руку і цалую Цябе.*

*Твой Тарас.*

*16.III.30.*

*Бачыш, браток:* [...]*; Дзеля гэтага і я папрашу Цябе прыслаць мне сякія-такія кніжкі.*

*1. Деборин. История философии. Тытул, можа, інакшы, нешта ў родзе філасофскай анталогіі.*

*2. Покровский: а) История России, б) Особенности исторического развития России, в) История культуры.*

*3. Ленин. Собрание сочинений. Выберы тамы да рэвалюцыі 1917 года і перасылай у колькі прыёмаў. У першую чаргу «Эмпириокритицизм и материализм» і іншыя легальныя выданні за царскіх часоў. Віленскі пракурор абяцаў прапусціць.*

*4. Плеханов. Собрание сочинений. Калі ёсць магчымасць, хоць усе — не зашкодзіць.*

*5. Разумовский. Диалектический материализм.*

*6. Рознай белетрыстыкі — новых пісьменнікаў, але што добрае.*

*7. Розныя беларускія навінкі.*

*Табе, як старому юрысту старых часоў, будзе не трудна дабраць так літаратуру, каб яна прайшла праз астрожную ці пракуратарскую цэнзуру. Павінны прапусціць творы навукова-тэарэтычнага зместу, прапагандыстычнага — не. Памянёныя кніжкі можаш пераслаць у два-тры разы на маё імя ў астрог.*

*Назвы кніжак, можа, не зусім точныя, але прадмет абы той самы. Кніжкі і пісьмы высылай заказным. Пішы, што высылаеш, найлепш на машынцы, каб маглі прачытаць па-беларуску.*

*Да гэтага далучаю сваю фатаграфію і ўдзячнасць за будучую ўслугу. Так ці інакш чакаю ад Цябе найхутчэйшага адказу.*

*Твой Б. Т.*

*«Капитал» Маркса і «Финансовый капитал» Гільфердынга дастаў яшчэ ў Вільні і ўжо перапрацаваў. Прывет ад Мятлы.*

Варта звярнуць увагу на дату ліста. У сакавіку 1930 года абодва дзеячы маюць вялікія творчыя планы, хай сабе ўмовы гэтаму і не зусім спрыяюць. Але ўжо праз месяц Тарашкевіч будзе нечакана вызвалены польскімі ўладамі, і яго зноў панясе, як трэску, па ранейшых палітычных хвалях — гэтым разам ужо канчаткова і з непазбежным трагічным вынікам. А ў ліпені 1930-га і па Цвікевіча прыйдуць савецкія чэкісты, пасля чаго ў ягоным жыцці таксама пачнецца чорная паласа, якая ўжо ніколі больш не зменіцца на белую. Пра тыя «жудасныя абставіны», якія меў Тарашкевіч у польскай турме, у бальшавіцкіх вязніцах можна было толькі соладка марыць. ◆

**Аляксандр Пашкевіч**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Фонд 4683, вопіс 3, справа 1124, аркушы 17–20.




**З армейскага гумару часоў** Першай сусветнай вайны.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ

# П’яны бок рэвалюцыі

**1917-ы быў годам вялікіх вінных пагромаў. Апафеозам стаў паўторны «штурм» Зімняга палаца — найбуйнейшага віннага сховішча Расіі. Піша кандыдат гістарычных навук Станіслаў Рудовіч.**

## «Сухі закон»

Першая сусветная вайна вырвала са звыклага ўкладу сотні тысяч людзей. Мабілізаваныя адчулі небывалую вольніцу: абаронцам можна ўсё.

Пасля хвалі пагромаў памешчыцкіх маёнткаў, крам і складоў улады распарадзіліся забараніць продаж спірту аж да канца вайны. Парушальнікаў чакалі бізуны, катарга і арыштанцкія роты.

А забарона продажу атрымала зразумелыя наступствы. Пайшлі ў ход сурагаты: дэнатураваны спірт, палітура, лак, адэкалон. З’явілася «ханжа» — нізкаякасная алкагольная сумесь на аснове дэнатурату з рознымі дамешкамі.

І, канечне, самагон. Да вайны падпольная вытворчасць самаробнай гарэлкі была рэдкасцю: у 1913 годзе зафіксавана ўсяго 600 выпадкаў ва ўсёй імперыі. Але ўжо ў 1915-м — 6000, а да вясны 1917-га — больш за 9 тысяч! Беларусь разам з Уралам і Сібір’ю адносілася да рэгіёнаў найбольш актыўнага самагонаварэння. Цікава, што пашырэнню гэтага промыслу спрыялі тэхнічна адукаваныя бежанцы з Польшчы і Балтыкі. Яны хадзілі па сёлах і варылі самагон, а за дадатковую плату навучалі гаспадароў карыстацца самагонным апаратам.

Нягледзячы на ўсе забароны, алкаголь праточваўся і на фронт. Так байцы спрабавалі пераадольваць няўпэўненасць і страх. Расійскі гісторык Уладзімір Булдакоў заўважыў, што былыя сяляне не любілі пазіцыйнай вайны, але маглі някепска ваяваць, калі армія наступала і ім перападала тое-сёе з трафеяў. Каб узняць у іх баявы дух, дастаткова было намякнуць, што наперадзе — вінны склад альбо завод. Пры гэтым бывала, што, дарваўшыся да мэты, дзясяткі салдат напіваліся да смерці.

## Не хлебам адзіным

Канчаткова сітуацыя выйшла з-пад кантролю тады, калі ў краіне пачалася рэвалюцыя.

Са школьных падручнікаў вядома, што каталізатарам Лютаўскай рэвалюцыі стаў дэфіцыт хлеба і мукі ў Петраградзе. Але быў і іншы важны аспект, пра які звычайна не гавораць. Не менш прывабнымі за булачныя былі вінныя крамы, а таксама аптэкі. Спірт выпівалі на месцы.

Штурму Петрапаўлаўскай крэпасці 27 лютага папярэднічаў разгром спіртаачышчальнага завода на Аляксандраўскім праспекце. Падзеі 1 сакавіка ў Кранштаце, дзе матросы перабілі некалькі дзясяткаў афіцэраў на чале з двума адміраламі, таксама адбываліся на фоне пагромаў вінных складоў.

Падобнымі эксцэсамі суправаджаліся тады любыя палітычныя абвастрэнні. Падчас ліпеньскага крызісу 1917 года, калі бальшавікі і анархісты інспіравалі ў Петраградзе шматтысячныя дэманстрацыі супраць Часовага ўрада, салдацкі натоўп захапіў памяшканне Сельскагаспадарчага клуба на Неўскім праспекце, у падвалах якога знайшлі сотні бутэлек віна.

Не адставала і правінцыя. У Ліпецку Тамбоўскай губерні салдаты разграмілі лікёрны завод, пры гэтым трое абпіліся да смерці. У Новачаркаску натоўп разграміў вінны склад і каўбасны завод, да яго далучыліся салдаты, пасланыя разганяць бясчынствы.

Увосень — новая хваля. У Астрагожску Варонежскай губерні падчас разгрому віннага склада 22 чалавекі памерлі ад разрыву сэрца, 26 згарэлі ў пажары, 60 салдат было паранена і 9 забіта.

## Як загінулі скарбы Міра

Беларусь, дзе стаяў фронт, не заставалася ўбаку. Найбольш вядомы эпізод салдацкага п'янага бясчынства — знішчэнне палаца ў Міры. Двухпавярховы палац канца XIX стагоддзя, што стаяў недалёка ад старажытнага замка, належаў князю Міхаілу Святаполк-Мірскаму і з восені 1915 года знаходзіўся ў прыфрантавой паласе. У ваколіцах дыслакаваліся часці 2-й расійскай арміі.

У маі 1917 года ў маёнтку Красная Горка, які таксама належаў князю, вайскоўцы знайшлі 3 тысячы пудоў збожжа і іншых прадуктаў. Гэтым можна было карміць цэлы полк на працягу двух тыдняў! Аканом патлумачыў, што прыпасы закапалі яшчэ ў пачатку вайны, каб схаваць ад немцаў.

Але ў войску папаўзлі чуткі, што князь — таемны прыхільнік немцаў, кантактуе з імі праз падземны ход паміж Мірам і Баранавічамі і прадукты прыхаваў адмыслова для іх. Пачаліся размовы, што ў мірскім палацы князь хавае запасы ружжаў і кулямётаў і што палац трэба абшукаць.

Камандаванне ніяк не рэагавала. У той жа час камендант Мірскага гарнізона і навагрудскі павятовы камісар прапанавалі князю Святаполк-Мірскаму перадаць ім запасы віна, каб зняць напружанне. Князь адказаў, што ніякіх вінаў у яго няма, затое ёсць дзве бочкі дэнатурату. У той жа дзень дэнатурат вывезлі ў поле і вылілі.

Чуткі, што з палаца вывозяць спірт, узбудзілі салдат. 9 мая маса вайскоўцаў уварвалася за агароджу палаца і пачала росшукі, выстукваючы сцены ды падлогі. Старанні прынеслі плён: у флігелі быў выяўлены патаемны склеп. Падлогу ўзламалі, і перад вачыма салдат паўстала казачная карціна — тысячы бутэлек дарагіх вінаў.

Палац запоўніўся вясёлымі салдатамі. Яны адкаркоўвалі бутэлькі або проста адбівалі рыльцы і прагна паглыналі змесціва. На наступны дзень – новае адкрыццё: у другім падвале знайшлося шмат бочак старкі — моцнага алкагольнага напою, які атрымлівалі шляхам старэння моцнай жытняй гарэлкі ў дубовых бочках з-пад віна. Бочкі выкочвалі на двор і разбівалі. Да палаца падцягваліся ўсё новыя партыі салдат з кацялкамі, вёдрамі і іншым посудам.

Разгром палаца працягваўся тры дні. Знішчылі ўсё: багатую бібліятэку, унікальную карцінную галерэю. Мэбля і раялі выляталі з вокнаў другога паверха. Урэшце і сам палац загарэўся.

**Калі падлогу ўзламалі, перад вачыма ашаломленых салдат паўстала казачная карціна — тысячы бутэлек дарагіх вінаў**

Калі ўсё было знішчана, п'яныя салдаты ў пошуках новых порцый кінуліся ў мястэчка. Ад пагрому мірскіх яўрэяў уратавала толькі прыбыццё палка, які прыгразіў перакалоць усіх буянаў, калі праз гадзіну яны не пакінуць мястэчка. Пагроза падзейнічала, і падгулялы натоўп пачаў разыходзіцца.

Падзеі ў Міры атрымалі розгалас. Інфармацыю пра іх распаўсюдзіла Петраградскае тэлеграфнае агенства (ПТА). ▶

Расследаваннем акалічнасцяў заняўся Выканаўчы камітэт Заходняга фронту ў Мінску. Узнікла спецыяльная камісія для росшукаў і знішчэння спіртных напояў у прыватных маёнтках прыфрантавой паласы.

Але праз месяц тое самае паўтарылася ў маёнтку памешчыка Хялкоўскага за 16 км ад Маладзечна (раён дыслакацыі 10-й арміі). Падраздзяленне казакоў выявіла замураваны вінны склеп, а ў ім ці не 200 вёдраў старкі і 100 вёдраў мёду. Казакі перапіліся і разграмілі сядзібу. Пра пакаранне пагромшчыкаў не паведамлялася.

### Не для слабой улады

Часовы ўрад паспрабаваў увесці суровыя меры: за распіванне ў публічных месцах і з'яўленне п'яным на людзях пагражала да 1,5 года турмы, за п'янае хуліганства і крадзеж — катарга ад 4 да 8 гадоў.

Але Часовы ўрад не меў сіл, каб гэта кантраляваць. Таму дэбошы і пагромы працягваліся. Людзі пачалі гнаць яшчэ больш самагону. У Мінску цэнтрам самагонаварэння лічыўся Камароўскі лес (цяперашні парк Чалюскінцаў і ваколіцы), ён ператварыўся ў сапраўдную крымінагенную зону.

### Вялікая Кастрычніцкая

П'янства набывала маштабы народнага бедства. Напоўніцу яно праявілася пасля Кастрычніцкага перавароту.

А апафеозам стаў паўторны «штурм» Зімняга 23–25 лістапада. Ён сціпла замоўчваўся савецкай гістарыяграфіяй, а расказаць тут ёсць пра што. Вінны склеп Зімняга палаца быў галоўным сховішчам краіны, у ім захоўваліся элітныя напоі агульным коштам 5 млн тагачасных долараў. У сённяшніх цэнах гэта 102 мільёны. Палац ахоўваўся чырвонагвардзейцамі, але іх сілаў было недастаткова, каб стрымаць "прыхільнікаў рэвалюцыі". Уся падлога ў склепе аказалася залітая віном на паўаршына (35 см), ушчэнт п'яныя пагромшчыкі захлыналіся ў гэтай лужыне. Пагром царскага склепа скончыўся толькі тады, калі ўсе бутэлькі былі пабітыя, а віно, што заліло склеп, выпампавана ў Няву.

П'яныя пагромы адбыліся той восенню і ў Беларусі: Віцебску, Оршы, Жлобіне... У лістападзе ў Мінск перыядычна прыбывалі цыстэрны са спіртам. Каб не правакаваць народ, Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту неабачліва распарадзіўся выліць некалькі цыстэрнаў на чыгуначнай платформе Козырава. У выніку там утварыліся сапраўдныя спіртныя азёры, і ў Козырава пацягнуліся салдаты, сяляне, жанчыны, дзеці. Многія, напіўшыся, падалі, як мерцвякі. Натоўпы п'яных дэбашырылі, усчалася стральба, адзін хлопчык быў забіты. У Мінску прыйшлося ўводзіць ваеннае становішча, і падзеі ў Козыраве адыгралі ў гэтым не апошнюю ролю.

**Пры падаўленні вінных пагромаў загінула людзей болей, чым пры ўзяцці Зімняга**

Пры падаўленні паслякастрычніцкіх вінных пагромаў загінула людзей у шмат разоў болей, чым пры ўзяцці Зімняга, падлічылі даследчыкі. Максім Горкі ў тыя дні занатаваў: «У час вінных пагромаў людзей прыстрэльваюць як шалёных ваўкоў, пастунова прывучаючы да спакойнага вынішчэння блізкага». Але толькі такімі мерамі бальшавікам удалося хоць крыху ўтаймаваць хвалю п'янай анархіі. ◆


**Сяляне распіваюць бутэльку «горкай»** непасрэдна каля «манапролькі».

ISTORYA.RU

# АПОШНІ ВАМПІР

## ЧАСТКА 8

СЮЖЭТ: АНДРЭЙ СКУРКО
МАСТАК: ФІЛІП КАКОША



Мінск, канец 1940-х. Сірата Лёня Рудзіцкі дазнаецца, што ён – прыроджаны вампір з вялікімі здольнасцямі. На яго палюе НКВД, вярхоўка якога таксама складаецца з вампіраў. Яго бацьку, прафесара Антона Рудзіцкага, знішчылі, калі ён адмовіўся супрацоўнічаць. Стары сябар бацькі раскрывае Лёню таямніцу яго паходжання і скіроўвае на хутар яго сястры, дзе схаваная інфармацыя пра вампіраў. Таксама Лёня дазнаецца, што насамрэч яго завуць Людвік. Ад пераследу НКВД Людвік хаваецца на хутары пад Валожынам, пасля ўцякае ў Мінск пад іншымі імем і прозвішчам. Але там яго знаходзяць супрацоўнікі НКВД і вядуць да самога Лаўрэнція Цанавы, які спрабуе прымусіць Людвіка супрацоўнічаць з НКВД і ўладамі. Людвік адмаўляецца і трапляе ў турму НКВД, дзе праводзіць шмат гадоў. Пасля смерці Сталіна незнаёмы афіцэр НКВД, які не з'яўляецца вампірам, вызваляе Людвіка і перадае яму дасье ягонага бацькі для вывучэння.

Па падземных каналах Людвік бяжыць з турмы...






















БАЦЬКАЎ ПОЧЫРК!


ДАКЛАДНА! МЫ ТАК ГУЛЯЛІСЯ, КАЛІ Я БЫЎ МАЛЕНЬКІ...
О, ШЫФР ВІЖЭНЕРА!
ПАГЛЯДЗІМ, ЦІ ЗНОЙДЗЕШ ТЫ СЁННЯ ЦУКЕРКУ!


КЛЮЧАВОЕ СЛОВА – ЛАСУНАК!
Ц-У-К-Е-Р-К-А П-А-Д П-А-Д-У-Ш-К-А-Й!
МАЛАЙЧЫНА! БЯЖЫ, ЗАБІРАЙ СВОЙ ПРЫЗ!


ТОЛЬКІ ЯКІ Ж КЛЮЧ ДА ШЫФРУ? ГЭТА МУСІЦЬ БЫЦЬ НЕЙКАЕ СЛОВА, ЯКОЕ ВЕДАЕМ ТОЛЬКІ МЫ...


НЕКАЛЬКІ ДЗЁН ЛЮДВІК БЯСПЛЁННА СПРАБАВАЎ РАСШЫФРАВАЦЬ ЛІСТ...
?
ШТО Ж ГЭТА ЗА СЛОВА?..


KJEWH FQWNLE P3FJCL BDBO32BF
НЕ... ЗНОЎ НЕ ТОЕ!


...


ПАКУЛЬ РАПТАМ У СНЕ НЕ ЗГАДАЎ...
ПРЫВІТАННЕ! ЯК ЦЯБЕ ЗАВУЦЬ?
ЮДМІК!


ЮДМІК! ГЭТА БЫЛО МАЁ СЯМЕЙНАЕ ІМЯ, ПАКУЛЬ Я НЕ НАВУЧЫЎСЯ ВЫГАВОРВАЦЬ СВАЁ.!..
ЯГО ВЕДАЛІ ТОЛЬКІ БАЦЬКІ... МО ГЭТА І ЁСЦЬ КЛЮЧ?..

ГЭТА БЫЛО ТОЕ САМАЕ СЛОВА.
ШЫФР ПАЧАЎ ПАДДАВАЦЦА,
І ВОСЬ НАРЭШЦЕ...



ДАРАГІ ЛЮДВІК!

КАЛІ ТЫ ЧЫТАЕШ ГЭТЫ ЛІСТ, ЗНАЧЫЦЬ, МЯНЕ НЯМА Ў ЖЫВЫХ. А ТЫ ДАСТАТКОВА ДАРОСЛЫ І РАЗУМНЫ...

НАША СЯМ'Я ТРЫМАЕ Ў РУКАХ СРОДАК, ЗДОЛЬНЫ ЗНІШЧЫЦЬ ВАМПІРАЎ. ЁН ПЕРАДАЕЦЦА З ПАКАЛЕННЯ Ў ПАКАЛЕННЕ, МЫ ЯГО ЗАХАВАЛЬНІКІ...

ГЭТА ВІРУС, БЯСШКОДНЫ ЗВЫЧАЙНЫМ ЛЮДЗЯМ.

ТРЭБА ПРОСТА АДКАРКАВАЦЬ ПРАБІРКУ З ШТАМАМІ Ў ЛЮДНЫМ МЕСЦЫ...

УСЁ НЕАБХОДНАЕ Я ЗАКАПАЎ ПАД ТВАІМІ АРЭЛЯМІ.

...ПРЫМІ РАШЭННЕ САМ. ТЫ ЎЖО ПАСПЕЎ АДЧУЦЬ МОЦ, ЯКУЮ ДАЕ НАМ КРОЎ. ПЕРАХВАРЭЎШЫ ПАСЛЯ ВІРУСА, ТЫ СТАНЕШ ЧАЛАВЕКАМ.

ТАТА.

АРЭЛІ? ХІБА Ў НАС БЫЛІ АРЭЛІ?

ДЫ Й ДОМ БАЦЬКОЎСКІ ВАЙНУ НАЎРАД ЦІ ПЕРАЖЫЎ...

УСЁ Ж БЫЛІ! НА СТАРЫМ ДРЭВЕ, ЛЯ САМАГА ДОМА! ХУТЧЭЙ ТУДЫ!




і ВОСЬ...
БАБУЛЯ, ТУТ ДАМЫ БЫЛІ, ДРАЎЛЯНЫЯ...
А НЯМАШАКА ІХ УЖО, СЫНАЧКУ! У ВАЙНУ ЗГАРЭЛА ТУТ УСЁ!


ХАЛЕРА НА ТУЮ ВАЙНУ... ГЭЙ! ГЭТА Ж НАШАЕ ДРЭВА!!!


НЕДЗЕ ТАМ БЫЦЬ ПАВІННА... ХУТЧЭЙ!!!
ЭЙ, ЖЫЦЬ НАДАКУЧЫЛА?
ВОСЬ ЯНО!!!
ФУХ, ПАСПЕЎ!!!


ТАК, ШТО ТУТ? АГА, і ІНСТРУКЦЫЯ ЁСЦЬ... ДЗЯКУЮ, ТАТА...
і ЗНОЎ ШЫФР... НУ, НІЧОГА, З ГЭТЫМ ЦЯЖКАСЦЯЎ УЖО НЕ БУДЗЕ. ТАК... ЗРАБІЦЬ ТРЭБА НАСТУПНАЕ...


ПАЛОВУ ВАДКАСЦІ З ДЗВЮХ КОЛБАЎ ТРЭБА ЗМЯШАЦЬ У ТРЭЦЯЙ
ПАЧАКАЦЬ 15 ХВІЛІН
ДАЛІЦЬ АСТАТНЯЕ
РАЗЛІЦЬ У ПУБЛІЧНЫМ МЕСЦЫ!
ДЫК ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ ЖА — ПЕРШАГА МАЯ, ЯКРАЗ ДЭМАНСТРАЦЫЯ БУДЗЕ! ВОСЬ і ВЫДАТНА... ТАМ і ВЫПРАБУЕМ. УЖО ХУТКА...

З варагаў у грэкі

# Наша Пластыляндыя

Аўтар Алесь Кудрыцкі

Пад'ём, лайдакі!

Наступнай раніцай Танаку і сяброў пабудзіў гучны голас купца Гаўрылы.















Слімакі падкладалі гладкія бярвёны пад карабель, каб лягчэй і зручней было яго каціць.






**З-за лесу з'явіліся ваяўнічыя слімакі.**






























Ты хто такі?


Мяне завуць Торвальд Вандроўнік.
Печанегі ўзялі мяне ў палон.


Галодны Торвальд Вандроўнік накінуўся на ежу.
Ням... Ням...
Дзякую, што выратавалі мяне!


А цяпер зноў да працы!
Угу!


З дапамогай Торвальда
справа пайшла лягчэй.
Раз, два, узялі!


Штурхай!
Яшчэ трошкі!


Ура! Вось і рака
Дняпро!
Трымаем шлях
на горад Кіеў!
Працяг будзе...
www.tanaka.by

# Вялічка, Быкоўскі… Ваяры і іх прычоскі

На памятную шыльду ў гонар дзевяці жыхароў Навагрудка, якія загінулі ў бітве з туркамі пад Хацінам у 1621 годзе, звярнуў увагу гісторык **Дзяніс Лісейчыкаў**. Шыльда знаходзіцца ў навагрудскім фарным касцёле, у капліцы справа ад увахода. На ёй 9 герояў моляцца, стоячы на каленях, а іхнія галовы ляжаць перад імі.

Да нас дайшлі прозвішчы забітых: Рудаміна-Дусяцкі, Вялічка, Талішэўскі, Быкоўскі, Чудоўскі, Магільніцкі, Война, Тышкевіч, Асіпоўскі. «Напамін аб тым, што бітва, няхай сабе і пераможная, — гэта найперш смерць», — піша Лісейчыкаў. Бітва войска Рэчы Паспалітай і запарожскіх казакоў з войскам Асманскай імперыі доўжылася больш за месяц. Нашы перамаглі, хоць саступалі колькасна і панеслі вялікія страты (даследчыкі кажуць пра 15 тысяч чалавек). Перамога прымусіла туркаў часова адмовіцца ад наступу на Еўропу.



**Хацінская крэпасць** (Чарнавецкая вобласць Украіны) была фарпостам хрысціянскага свету.

WIKIMEDIA COMMONS

Цікава, што папа рымскі, уражаны мужнасцю войска, прызначыў дзень памяці герояў Хацінскай бітвы — 10 кастрычніка.

«Адметна, што навагародцы мелі казацкія чубы. Поўная ўкраінізацыя на Беларусі», — іранізуе даследчык з украінскага Драгобыча **Леанід Цімашэнка**. Але аказваецца, у каго толькі такой прычоскі не было ў XVII стагоддзі! Нават у Стэфана Баторыя! Модная чупрына-лашчоўка, як у навагрудскіх ваяроў, мае невядомае паходжанне. У адрозненне ад асяледцаў, перанятых і шляхтай, і казакамі ў туркаў ды крымскіх татар, заўважае гісторык **Кірыл Карлюк**.

Яшчэ адзін носьбіт такой прычоскі — віцебскі кашталян Мікалай Вольскі на надмагіллі 1620-х у касцёле вёскі Крамяніца Зэльвенскага раёна.



**9 герояў моляцца, стоячы на каленях, а іхнія галовы ляжаць перад імі.** Такая шыльда знаходзіцца ў навагрудскім фарным касцёле.



**Надмагілле Мікалая Вольскага** ў вёсцы Крамяніца Зэльвенскага раёна.

## Калі б Сталін быў разумны

Напярэдадні 17 верасня — знакавага дня, калі ўсе карыстальнікі сацыяльных сетак традыцыйна сварацца пра характар паходу Чырвонай арміі на Заходнюю Беларусь (вызваленне ён прынёс заходнікам ці гора) — гісторык **Зміцер Дрозд** паразважаў, як магла б скласціся сітуацыя ў Еўропе ў 1939-м. «Калі б Сталін быў разумны (хаця б як я)... — іранічна пачынае Дрозд. — Калі б ён сапраўды хацеў вярнуць Заходнюю Беларусь і Украіну ды знішчыць Гітлера...» А далей нечаканыя разважанні.

Вядома, што СССР увайшоў у Польшчу, папярэдне падзяліўшы з нацысцкай Германіяй тэрыторыі ўплыву ў Еўропе. «Так, дагавор аб падзеле Еўропы быў добры. Ён быў добры для таго, каб уцягнуць Гітлера ў вайну. Прымусіць яго пачаць, нанесці першы ўдар — а як правіла, хто першы ўдарыў, той і вінаваты, агрэсар. І гэта ўсё мы яшчэ з дзіцячага садка ведаем.

Дык вось пасля таго, як былі падпісаныя ўсе сакрэтныя пратаколы, і Гітлер, спадзеючыся на нашу ўзаемнасць, напаў на Польшчу. Калі яго армія стала прасоўвацца на Варшаву, а можа быць, ужо пасля таго, як Варшава пала. Калі вайну Германіі аб'явілі Вялікабрытанія і Францыя, але палякам стала зразумела, што ваяваць яны пакуль не збіраюцца. Тады я б, як мудры і дальнабачны стратэг, зрабіў палякам прапанову, ад якой яны наўрад ці б змаглі адмовіцца. А канкрэтна: мы дапамагаем вам вызваліць Варшаву ад немцаў, разам гонім іх да Берліна, разбіваем звера ў яго логаве, на яго ж тэрыторыі. Але наўзамен ад Польшчы мы патрабуем драбніцу: забываемся ўмовы Рыжскай капітуляцыі і Заходнія Беларусь і Украіна пераходзяць да СССР. Узамен Польшча атрымлівае прынадныя і жаданыя заходнія кавалкі зямлі агрэсара — Германіі.

Прынялі б палякі такія ўмовы? Калі зразумелі ўсю сур'ёзнасць свайго становішча — што яны могуць згубіць усё (як і адбылося ў рэальнасці), — прынялі б. Польская армія яшчэ была даволі моцная. Плюс моц савецкай. Ды супраць Германіі, якая ў 1939 годзе была яшчэ далёка не такой, якой стала ў 1941 годзе. Плюс, напэўна , на дзяльбу нямецкіх тэрыторый падцягнуліся б Англія і Францыя з захаду і яшчэ хто-небудзь. Гітлер быў бы пабіты да канца 1939 года. Ну, можа быць, у пачатку 1940-га.

І вось табе лаўры вялікага палкаводца, пераможцы нацызму і рэальнага вызваліцеля Еўропы. Ні табе велізарных ахвяр Другой сусветнай, ні Халакосту, ні акупацыі Беларусі, на Хатыні, ні Катыні... Але, на жаль, Сталін быў такім, якім быў. І за гэта ўсе мы заплацілі мільёнамі чалавечых жыццяў», — піша Дрозд.

Чаму гэты сцэнар не меў рэальнага ўвасаблення? Разважаюць у каментарах пад допісам. Сталін хацеў не Заходнюю Беларусь, а ўсю Еўропу да Партугаліі, заўважаюць адны. Ён быў не вызваліцелем, а агрэсарам. Іншыя дадаюць: пра які розум можна казаць, калі ён рэпрэсаваў значную частку камандзіраў Чырвонай арміі напярэдадні вайны! Сталін быў псіхапатам, такія людзі не могуць мысліць стратэгічна, ім трэба задавальненне цяперашніх жаданняў, заўважаюць трэція.

«Сталін добра разумеў, што савецкая армія нічога не вартая. Думаю, яны б не змаглі вызваліць Польшчу і немцы выціснулі б іх назад на савецкую тэрыторыю», — мяркуе гісторык **Андрэй Вашкевіч**.

## Панна каралевіч Казімір?

«Да ўчарашняга дня я не ведаў, што каралевіча-мужчыну можна назваць жанчынай», — напісаў ▶



PANNA KROLEWIC
KAZIMIERZ
SWIĘTY
Z LILIĄ Y CRVCIFIXEM W RĘCE.
W oktawę Uroczystości iego w Kościele Kathedralnym Wileńskim/
Pod czas Convocacyey, w obecności Procerów W. X. L.
Przy Solenney Processiey ze Mszą spiewaną OO. Bazylianów Unitow od Cerkwie S. Troycy od [illegible] iego S. Patrona odprawowaney/
Przez
Przewielebnego X. Cypriana Żochowskiego Coadiutora Metropoliey Kiiowskiey y Archiepiskopiey Polockiey/ Archymandryty/ Leszczyńskiego/ Dermańskiego/ Dubieńskiego/
z Pulpitu Ukazany.
Roku 1671. Dnia 11. Marca.
W WILNIE
w Drukarni WW. OO. Bazylianow.




**Святы Казімір**, Віленская катэдра. 1520 год.

▶ у сябе ў фэйсбуку пецярбургскі кнігазнавец **Мікола Нікалаеў**. Сапраўды, польскамоўны старадрук XVII стагоддзя мае загаловак «Панна каралевіч Казімір Святы». Сапраўды, калі каралевіч, дык якая ж ён панна? Здаецца, мусіць быць пан...

Але гісторыкі ў каментарах хутка разгадалі такую фармулёўку. Аказваецца, гэтым словам абазначалі хлопца-цнатліўца. **Аляксандр Ранак** дадае, што ў старапольскай мове такога хлопца называлі *prawiczka*, але ў высокім стылі — у набажэнствах і рэлігійных кнігах — выкарыстоўвалі слова *panna*.

Казімір — сын вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка, родны брат вялікіх князёў Аляксандра і Жыгімонта Старога. Казімір пражыў усяго 25 гадоў, не жаніўся (магчыма, праз кепскае здароўе), быў набожным, як, зрэшты, і ўсе ў тыя часы. Яшчэ ягоны брат Жыгімонт паспрабаваў арганізаваць кананізацыю Казіміра, але афіцыйна ўшаноўваць ягоную памяць пачалі ў пачатку XVII стагоддзя, праз 120 гадоў пасля смерці. Вялікае Княства ў асобе каралевіча Казіміра займела свайго святога заступніка, гэты крок быў важным не толькі для духоўнага ўздыму, але і для палітычнага прэстыжу. У 1948 годзе Ватыкан абвесціў Казіміра яшчэ і святым заступнікам моладзі.

Святога Казіміра ўшаноўваюць 4 сакавіка, а ў Вільні ў гэты дзень адбываецца традыцыйны святочны кірмаш (Казюкі), на якім дагэтуль можна купіць вырабы ручной работы з усёй Літвы. Паступова Казімір стаў яшчэ і святым апекуном рамеснікаў. Казіміра выяўлялі з лілеямі — сімвалам чысціні, у княжацкай вопратцы. Часам — з трыма рукамі. Традыцыя пайшла ад старадаўняга віленскага абраза з трохрукім святым.

## Вось як трэба афармляць класныя журналы!

Натхняльным прыкладам падзяліўся ў фэйсбуку **Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі**. На вокладцы класнага журнала гарадскога вучылішча пры Віцебскім настаўніцкім інстытуце настаўнік ці вучань у 1913 годзе замаляваў раку Дзвіну, краявіды і, верагодна, званіцу віцебскага Маркавага манастыра.

Каментатары, праўда, трохі засумняваліся ў гэтай версіі: «На малюнку хутчэй не званіца, а двух'ярусная мураваная прыдарожная каплічка. Выгляд у яе самы стандартны, за выключэннем хіба што даху, бо да нашага часу на аналагічных помніках яны дайшлі ў працейшым выглядзе. На карысць таго, што гэта капліца, гавораць і прапорцыі намаляванага каля яе кустоўя: гэта параўнальна невялікі аб'ект, не памераў званіцы. І сама наяўнасць кустоў можа сведчыць пра тое, што помнік знаходзіўся не на вельмі загаспадаранай тэрыторыі, напрыклад пры дарозе, выездзе з горада», — піша **Сяргей Грунтоў**. Можа быць, і так, але маюцца здымкі і малюнкі званіцы Маркавага манастыра ў атачэнні дрэваў, дзе яна мае прыблізна тую ж вышыню, як на малюнку, адзначылі архівісты. ◆



# EGCG



## Korean Green Tea Catechin

antioxidant protection

Серыя касметыкі EGCG KOREAN Green Tea Catechin на аснове канцэнтраванай сілы 4 кампанентаў зялёнага карэйскага чаю:

- *BioGenic EGCG-200*
- *Ферментаваны экстракт зялёнага чаю*
- *Гідралат зялёнага чаю*
- *Экстракт ствалавых клетак зялёнага чаю*

*а таксама:*

- *Натуральны японскі зялёны чай Matcha*




УЗМАЦНЯЕ АБАРОНУ СКУРЫ АД НЕГАТЫЎНАГА ЎЗДЗЕЯННЯ:




Белита-М® COSMETICS

ТАА «Беліка-М» УНП 190839042